ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 55 (2516)
ПЯТНІЦА
16
кастрычніка 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:





**Адажыо з другога акта балета С. Пракоф'ева «Рамэо і Джульета». Джульета — заслужаная артыстка РСФСР К. Малышава, Рамэо—Я. Паўловіч. (Нарыс пра балерыну Клару Малышаву чытайце на 5-й старонцы).**

# ПАЛЯПШАЦЬ РАБОТУ МУЗЕЯЎ

*У пастаяннай камісіі па культурна-асветнай рабоце Вярхоўнага Савета БССР*

Пад старшынствам дэпутата А. А. Бембеля адбылося пасяджэнне пастаяннай камісіі па культурна-асветнай рабоце Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Разгледжана пытанне аб стане работы музеяў рэспублікі па камуністычным выхаванні насельніцтва. З паведамленнем выступіў намеснік міністра культуры БССР А. М. Ваніцкі. Садаклад зрабіў дэпутат У. У. Алоўнікаў.

Камісія адзначыла, што музеямі праведзена значная палітыка-выхаваўчая і навукова-асветная работа сярод працоўных, навучэнцкай моладзі і іншых слаёў насельніцтва. У перыяд падрыхтоўкі да ленінскага юбілею яны папоўнілі свае экспазіцыі дакументамі ў арыгінале, фатаграфіямі і рэчавымі матэрыяламі аб жыцці і дзейнасці У. І. Леніна, аб яго ролі ў стварэнні партыі, падрыхтоўцы і правядзенні Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Сабраны вялікі матэрыял аб нашых земляках, якія актыўна ўдзельнічалі ў барацьбе за ўстанаўленне і ўмацаванне савецкай улады ў Беларусі.

Шырока адлюстраваны ў экспазіцыях музеяў гераічныя подзвігі беларускага народа ў гады грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў. На гэтых матэрыялах праводзіцца вялікая выхаваўчая работа.

У многіх музеях сталі традыцыйнымі сустрэчы з ветэранамі партыі, рэвалюцыі, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, патрыётамі-падпольшчыкамі, з Героямі Савецкага Саюза і Героямі Сацыялістычнай Працы; праводзяцца піянерскія зборы, прыём у камсамол і піянеры, урачыстае ўручэнне камсамольскіх білетаў.

Значнае месца ў рабоце музеяў займае пашырэнне ведаў аб прыродных рэсурсах рэспублікі, іх асваенні і рацыянальным выкарыстанні.

З кожным годам расце наведванне музеяў. За мінулы год колькасць наведвальнікаў склала больш 6 мільёнаў чалавек — жыхароў Беларусі, іншых рэспублік і зарубежных гасцей. Музеі пачалі шырэй ужываць сучасныя тэхнічныя сродкі прапаганды — кінаўстаноўкі, дыяпраектары, магнітафоны, эпідыяскопы, фільмаскопы.

Разам з тым камісія ўстанавіла шэраг недахопаў у рабоце музеяў па камуністычным выхаванні насельніцтва. У экспазіцыях некаторых з іх слаба раскрываюцца трыумф ленінскай нацыянальнай палітыкі, дружба народаў нашай краіны, брацкая ўзаемадапамога, інтэрнацыянальныя сувязі. Недастаткова адлюстроўваюцца эканамічныя і культурныя пераўтварэнні ў вёсцы, ажыццёўленыя за гады савецкай улады, поспехі працоўных у выкананні народнагаспадарчых планаў.

У выхаваўчай і культурна-асветнай рабоце з насельніцтвам слаба выкарыстоўваюцца такія формы, як правядзенне гутарак і лекцый, арганізацыя выставак непасрэдна на прадпрыемствах, у навучальных установах, калгасах і саўгасах.

У асобных музеях нездавальняюча пастаўлен улік і захоўванне экспанатаў, адсутнічаюць перспектыўныя планы збіральнай работы. У экспазіцыях пераважаюць дакументальныя матэрыялы, фатаграфіі, фотакопіі і вельмі мала аб'ёмных экспанатаў. Невысокі мастацкі ўзровень асобных экспазіцый.

Камісія таксама адзначыла, што выканаўчыя камітэты мясцовых Саветаў дэпутатаў працоўных не ўдзяляюць яшчэ належнай увагі рабоце музеяў, утрыманню памяшканняў, забеспячэнню іх неабходнай мэбляй і матэрыяламі.

У спрэчках выступілі дэпутаты Р. Р. Шырма, Ф. М. Райкоў, Е. В. Касарэўскі, А. А. Куляшоў, З. Ф. Стома, Л. А. Зялінская.

Па абмеркаваным пытанні камісія прыняла адпаведную пастанову.

(БЕЛТА).

## ПАДАРУНАК ЛАТЫШСКІХ КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ

Брэст і Ліепая... Бітвы ля сцен прыбужскай крэпасці і на вуліцах прыбалтыйскага горада сталі прыкладам мужнасці. Ліепаю справядліва называюць сястрой Брэста. Вось чаму фільм, які расказвае пра абарону Ліепаі, — адзін з яркіх эпізодаў пачатку Вялікай Айчыннай вайны, па праве заняў ганаровае месца сярод іншых кінастужак у музеі абароны Брэсцкай цытадэлі. Гэты хвалюючы кінарасказ перададзены нядаўна ў падарунак музею Камітэтам па кінематаграфіі пры Савеце Міністраў Латвійскай ССР.

Фільм створаны на Рыжскай кінастудыі. Расказ аб стойкасці абаронцаў Ліепаі вядзе аўтар сцэнарыя лаўрэат Ленінскай прэміі пісьменнік Сяргей Сяргеевіч Смірноў.

У кінафільме выступаюць з успамінамі жывыя абаронцы горада. У кадрах, прысвечаных урачыстасцям у гонар 25-годдзя абароны Ліепаі, гледачы ўбачаць дэлегацыю Брэста, асобныя эпізоды новай стужкі ўзяты з трафейнай нямецкай кінахронікі.

Цяпер шматлікія госці Брэста змогуць убачыць і кінастужку пра ратны подзвіг абаронцаў Ліепаі, якія ўпісалі слаўную старонку ў гісторыю Вялікай Айчыннай вайны.

**А. БЛЯХЕР.**

## ПЕРАМОЖЦЫ ЎСЕСАЮЗНАГА АГЛЯДУ

Цэнтральны савет народных універсітэтаў падвёў вынікі Усесаюзнага агляду гэтых грамадскіх навучальных устаноў, якія праводзіліся ў гонар 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна.

У рэспубліканскім таварыстве «Веды» нашаму карэспандэнту расказалі:

— Вынікі агляду сведчаць аб вялікай папулярнасці народных універсітэтаў сярод насельніцтва гарадоў і вёсак. Дастаткова сказаць, што цяпер у нашай рэспубліцы дзейнічае 1847 такіх навучальных устаноў і іх філіялаў, у тым ліку 161 універсітэт культуры. У іх займаюцца больш як 200 тысяч чалавек.

Толькі ў гэтым годзе ў нас адкрыта 56 ленінскіх народных універсітэтаў і 24 філіялы.

Цэнтральны савет прызнаў лепшымі ў Беларусі 29 народных універсітэтаў, у тым ліку тры універсітэты культуры — Гомельскі, Бігосаўскі і народны універсітэт музычных ведаў калгаса «Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна.

Пераможцы Усесаюзнага ленінскага агляду адзначаны ганаровымі граматамі, дыпломамі і грашовымі прэміямі.

Ганаровымі граматамі адзначаны таксама Рэспубліканскі і Мінскі абласны саветы народных універсітэтаў.

## ад пятніцы да пятніцы



У канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбылося першае ў Мінску канцэртнае выкананне аднаактовай оперы венгерскага кампазітара Бэлы Бартака «У замку герцага Сіняя Барада». Партыі выконвалі лаўрэат Усесаюзнага конкурсу вакалістаў Інеса Адзінцова і саліст філармоніі Сяргей Выдрын у суправаджэнні Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР (дырыжор — заслужаны артыст БССР Віталій Катаеў).

На здымку: І. Адзінцова (Юдыф) і С. Выдрын (герцаг Сіняя Барада).

Фота М. РУБІНШТЭЙНА.

# У ГЭТЫЯ ДНІ...

### ...ДАТЭРМІНОВА

завяршылі выкананне пяцігадовага плана па рэалізацыі таварнай прадукцыі работнікі паліграфічнай прамысловасці Мінշчыны. З пачатку пяцігодкі прадпрыемствы паліграфіі далі звыш задання больш як на чатыры мільёны рублёў друкаванай прадукцыі.

Да канца года яе будзе выпушчана дадаткова яшчэ амаль на 250 тысяч рублёў.

### ...АДБЫЛАСЯ

сесія Нясвіжскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных, якая разгледзела пытанні паляпшэння дзейнасці культурна-асветных устаноў. З дакладамі на сесіі выступілі загадчык аддзела культуры райвыканкома В. Кандыбовіч і старшыня пастаянна дзеючай камісіі па культуры і народнай асвеце Л. Васюкова.

Загадчыкі клубаў, бібліятэк, кінатэатраў і іншых устаноў культуры абмяняліся вопытам работы.

### ...АДКРЫЎСЯ

новы клуб аматараў народнай песні «Крыніца» пры Палацы культуры Мінскага трактарнага завода. Яго шматлікія члены будуць збіраць і запісваць беларускую вусную народную творчасць, наладжваць этнаграфічныя канцэрты.

Заняткі ў клубе запрошаны весці пісьменнікі, вучоныя-этнографы, артысты, кампазітары.

### ...У КРАІНУ СУОМІ

адпраўлена вялікая партыя сувеніраў, зробленых брэсцкімі ўмельцамі. Сярод іх — інкруставанае пано «Юрась і Мальвіна», прыгожыя лялькі «Лявоніха», «Альжбета», «Агата», «Якім Сарока».

Толькі сёлета брэсцкія майстры прыкладнога мастацтва асвоілі вытворчасць 50 сувенірных навінак.

### ...ПЛЕНУМ

камісіі па мастацтвазнаўстве, крытыцы і друку пры праўленні Саюза мастакоў СССР адбыўся 15—16 кастрычніка ў Мінску. Пленум абмеркаваў пытанне аб савецкім мастацтвазнаўстве і крытыцы на сучасным этапе.

У яго рабоце прынялі ўдзел прадстаўнікі Саюза мастакоў СССР і братніх рэспублік.

### ...ЛАЎРЭАТАМ

Усесаюзнага конкурсу артыстаў эстрады, які праходзіў у Маскве з 5 па 13 кастрычніка, стаў вакальна-інструментальны ансамбль Беларускай дзяржаўнай філармоніі «Песняры» пад мастацкім кіраўніцтвам У. Мулявіна.

Гэты эстрадны калектыў рашэннем журы ўдастоены другой прэміі, а яго ўдзельнікі — У. Сісевіч, Л. Тышко, В. Яшкін, В. Мулявін, А. Дзямешка, В. Бадзьяраў і В. Гурдзізьяне атрымалі дыпломы лаўрэатаў.

## СТО РАДКОЎ *з рэдакцыі*

# ВЫМАГАЕШ ПАШАНЫ— ШАНУЙ САМ!

**Ва ўсіх відах мастацтва ёсць людзі, якія робяцца першымі «ацэншчыкамі» твораў — гэта рэжысёры, якім даручаюць ставіць вашу п'есу або сцэнарый, рэдактары, рэцэнзенты выдавецтва. Яны маюць права і абавязаны гаварыць аўтару ці акцёру прынцыпова сумленныя словы пра сапраўдныя здабыткі і пралікі. Больш таго — ім дадзена і права настойваць на папраўках, якія неабходна ўносіць у твор, каб ён найбольш поўна раскрываў задуму.**

**Гэтым правам трэба ўмець карыстацца. Патрабуючы ад аўтара ці выканаўцы, каб той паважаў тваю думку, ты і сам павінен шанаваць яго. А ці заўсёды так бывае!**

**Актрыса атрымала галоўную ролю ў класічнай трагедыі. Гэта той выпадак, калі адбываецца значная падзея, калі явай робіцца мара пра вобраз такога маштабу. А рэжысёр дае ёй тэкст ролі з вялікімі «памаркамі», адтуль выкраслены маналогі, рэплікі, з якімі папярэдне актрыса літаральна зраднілася. Чаму! Навошта такая стрыжка ролі! Рэжысёру варта было б прыслухацца да думкі актрысы, а ён сцвярджае, быццам у адным выпадку выкрасліў (з Шылера!) рэлігійны фанатызм, у другім — «непатрэбныя» рэтраспекцыі, звязаныя з каханнем. І яго заява гучыць як быццам і пераканаўча. На сцэне выканаўца ролі спрабуе абгрунтаваць яўныя «рыўкі» ва ўнутраным развіцці вобраза, пакутуе, працуе пад прымусам. А што калі б рэжысёр прыслухаўся да яе і нешта сапраўды істотнае для ролі захаваў так, як напісаў калісьці Шылер! Хай бы толькі на адзін ці два спектаклі дазволіў гучаць маналогу, дзе яму мроіцца фанатызм ці непатрэбная рэтраспекцыя, а потым узважыў, ці правільна ён рабіў, калі чырвоным алоўкам крэсліў класічны тэкст. А гэта, акрамя павагі да Шылера, было б праявай пашаны да творчай думкі актрысы, не заўсёды ж схільнай памыляцца...**

**Рэжысёр і рэдактар фільма прачыталі літаратурны сцэнарый дакументальнага фільма. Яны яшчэ не пазнаёміліся з героем — з пастухом, скажам, ці з машыністам, але аўтару ўжо выказваюць амаль катэгарычныя пажаданні. «Добра будзе, калі ў гэтым месцы машыніст зойдзе ў бібліятэку і спытае Шолахава...» Дарма аўтар настойвае, што яго герой заўзяты «балельшчык» футбола, што чытанне кніжак— не яго «хобі», што гэта зусім не перашкаджае яму быць сапраўдным чалавекам і на вытворчасці, і ў грамадскіх паводзінах, і ў быце. Рацыянальна надуманае, «кабінетнае» патрабаванне абгрунтоўваецца, і ад аўтара патрабуюць, каб ён... шанаваў рэдактуру. А ці не лепш у такіх выпадках з пашанай ставіцца да аўтара! Лепш, вядома...**

**А калі акцёр ці аўтар настойвае на сваім «бачанні» тэксту і вобраза, бывае, яму скажуць і крыўдныя словы: маўляў, і больш таленавітыя за вас прыслухоўваюцца, а вам і бог наказвае... А так нельга! Ніхто не мае права лічыць сябе ў мастацтве вышэйшай інстанцыяй і выносіць канчатковы прысуд твору, над якім працуе мастак. Давайце парады, падказвайце цікавыя і мэтазгодныя прыёмы ажыццяўлення задумы, вядзіце за сабой аўтара, толькі абавязкова пры гэтым лічыцеся з ім, з яго творчымі перакананнямі.**

**Не, кампрамісы не патрэбны! Калі бачыш, што рукапіс не адпавядае высокім патрабаванням, што сцэнарый павярхоўны, што ролю акцёр не вывучыў і, як кажуць, не вынасіў у душы, адмаўляйцеся супрацоўнічаць з ім. Не стаўце пасрэдных п'ес і не аддавайце адказныя ролі гультаям і прыстасаванцам. Рашучая і прынцыповая пазіцыя ў такіх выпадках паслужыць справе выхавання мастака, будзе яму ўрокам на будучае. Затое тады, калі маеце справу з сапраўдным талентам, аберагайце свае адносіны з ім ад іржы канцылярызму. Гэта чужое творчасці. Плёну так не дасягаюць.**

**Сапраўдны талент умее прыслухоўвацца да абгрунтаваных парад. Асабліва, калі яны даюцца з пашанай да мастака. Міхаіл Шолахаў прыняў некалькі сотняў заўваг рэдактара «Ціхага Дона» Ю. Лукіна, Іван Мележ назаўсёды захаваў творчую ўдзячнасць Аляксандру Фадзееву за тыя парады, якія той выказаў яму да «Мінскага напрамку», Глеб Глебаў заўжды падкрэсліваў, што яго Туляга стаў такім, а не іншым вобразам у камедыі «Хто смяецца апошнім», бо ён ляпіў яго пад наглядам далікатна патрабавальнага мхатаўца Іосіфа Раеўскага, а сцэнічная рэдакцыя «Канстанціна Заслонава» Аркадзя Маўзона нараджалася пры зацікаўленых і шчырых адносінах рэжысёра Кастуся Саннікава да першапачатковага варыянта драмы...**

**Дамагацца, каб мастацтва стваралася ў атмасферы таварыскай павагі ўсіх, хто стаіць на пачатку шляху рамана, фільма, спектакля, — гэта павінна кіраваць намі. Толькі так спрыяюць з'яўленню творча самастойных і вывераных ва ўсіх адносінах твораў літаратуры і тэатра, кіно і музыкі.**

# ЧАЛАВЕК ПРАЦЫ І ЛІТАРАТУРА

## З АДКРЫТАГА ПАРТЫЙНАГА СХОДУ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР І КАЛЕКТЫВУ ЗАВОДА АЎТАМАТЫЧНЫХ ЛІНІЙ

Чалавек працы! Яму найвышэйшая пашана ў нашай краіне. У традыцыях савецкай літаратуры, заснаванай на метадзе сацыялістычнага рэалізму, — самая пільная ўвага да рабочага чалавека.

Менавіта задачам літаратуры ў адлюстраванні жыцця і працоўнай дзейнасці рабочага класа на сучасным этапе быў прысвечаны адкрыты партыйны сход Саюза пісьменнікаў Беларусі і калектыву завода аўтаматычных ліній, які адбыўся 13 кастрычніка на гэтым заводзе. З дакладам «Чалавек працы і літаратура» выступіў Уладзімір Юрэвіч.

— Каб дазваляў час, можна весці доўгі пералік твораў, якія складаюць залаты фонд савецкай літаратуры і адлюстроўваюць непараўнаны ні з чым працоўны подзвіг рабочага чалавека, — гаворыць дакладчык. Ён называе імёны пісьменнікаў, якія ў сваіх творах аб чалавеку індустрыяльнай працы ставілі вельмі сур'ёзныя маральна-этычныя праблемы, у якіх канцэнтравалася духоўная атмасфера пэўнага часу. Сярод іх—беларускія пісьменнікі М. Лынькоў, П. Броўка, Хв. Шынклер, Э. Самуйлёнак, А. Александровіч, Р. Кобец, І. Гурскі, Я. Скрыган, М. Паслядовіч, А. Кулакоўскі, І. Грамовіч, Ул. Карпаў, Р. Сабаленка.

Не ўсе творы гэтых пісьменнікаў раўнацэнныя, не ўсе сёння чытаюцца так, як чыталіся некалі, заўважае Ул. Юрэвіч, але бясспрэчна адно: вельмі нямногія з сучасных твораў аб рабочым класе могуць параўнацца з імі па сваёй сугучнасці эпосе, па тэмпераменце, па ўплыве на цэлыя пакаленні чытачоў.

Чытаючы многія кнігі апошняга часу пра рабочы клас, гаворыць дакладчык, не можаш пазбавіцца ўражання, што часам не жыццёвы матэрыял кладзецца на старонкі аповесці, рамана, нарыса, а самі аўтары «робяць» гэты матэрыял, «канструіруюць» характары і абставіны, у якіх гэтыя характары павінны дзейнічаць. Гэта здараецца таму, што больш інтэнсіўнымі сталі працэсы грамадскага жыцця, незвычайна ўскладніліся вытворчыя абставіны, а да вывучэння іх мы падыходзім са старымі меркамі. Зрушэння ж усталяванага ўяўлення пра завод, пра якасна новыя ўзаемаадносіны паміж людзьмі ў калектыве, між асобай і калектывам пакуль што не адбылося.

Далей дакладчык гаворыць пра тое, што беларуская літаратура заявіла аб сваёй сталасці, аб сваім творчым роскзіце тымі творамі, у якіх адлюстраваны людзі вёскі на розных этапах яе сацыяльных пераўтварэнняў, а таксама творамі, у якіх паказаны на ўсю глыбіню патрыятызм народных мас у Вялікай Айчыннай вайне, а вось традыцыі паказу чалавека індустрыяльнай працы выглядаюць падчас вельмі слаба азначанымі на літаратурнай карце рэспублікі.

Але нельга сцвярджаць, зазначае прамоўца, што наша літаратура не адлюстроўвае чалавека на фронце стваральнай працы. Ёсць у нас пэўныя здабыткі і ў паказе сённяшняга рабочага. У паэзіі — гэта паэма А. Русецкага «Яго Вялікасць», дзе аўтар даследуе чалавека, нашага сучасніка, на фоне гісторыі. Не без поспеху выяўляе сваё традыцыйнае захапленне рабочым класам паэт Б. Спрынчан, які прыйшоў у літаратуру з кавальскага цэха. У прозе трэба назваць чатырохтомную эпапею У. Карпава, аповесці А. Кулакоўскага «Тут я жыву», «Расце мята пад акном» і яго цыкл «Салігорскія эцюды», дзе пісьменнік выявіў страсную зацікаўленасць маральным зместам чалавечай працы. Ці ўзяць, напрыклад, Алеся Савіцкага. Ён і пачынаў, можна сказаць, свой шлях у літаратуры з аповесці «Кедры глядзяць на мора» — пра стваральную дзейнасць савецкага чалавека на Ангары, а потым былі творы — «Жанчына», «Самы высокі паверх», напісаныя зноў-такі на матэрыяле з жыцця людзей рабочых прафесій, што звязалі свой лёс з нараджэннем новага індустрыяльнага горада — Наваполацка. І вось, нарэшце, дакументальная аповесць «Сталявары» — пра сталявара Мінскага аўтамабільнага завода, Героя Сацыялістычнай Працы І. Барашкіна. Прыгадвае таксама дакладчык і В. Мысліўца, як аўтара дакументальных нарысаў пра людзей працы.

Ул. Юрэвіч гаворыць, што колькасны пералік твораў, напісаных на тую ці іншую тэму, — гэта як на прадпрыемстве «план па вале», — стварае толькі бачнасць літаратурнага дастатку. Ён падкрэслівае:

— Калі мы да твораў, што закранаюць сферу індустрыяльнай працы, будзем падыходзіць з адной магчымай меркай—ці паказаны ў творы рабочы клас у яго гістарычнай ролі пераўтваральніка свету, тады знікнуць малаплённыя размовы пра размежаванне тэм у літаратуры. Звяртаючыся да жыцця завода, фабрыкі, будоўлі, пісьменнік павінен ставіць сабе звышзадачу: адлюстраванне быцця ўсяго грамадства ў асноўных істотных яго праявах.

Між тым мы і сёння сустракаемся з творамі, дзе жыццё прадпрыемства паказана павярхоўна, як суцэльныя незвычайныя здарэнні, дзе толькі і бачыш аварыі і штурмы, аўралы, пажары і паводкі. Сёння грамадскае, а не адміністрацыйнае ўздзеянне на чалавека становіцца ўсё больш уплывовай сілай, якая актыўна ўмешваецца ў працэсы вытворчага жыцця. Павярхоўнае ж веданне вытворчасці прыводзіць да перанасычанасці твора тэхнічнымі тэрмінамі, апісаннямі, дэталізацыяй вытворчага працэсу. На жаль, тэхнічная аргументацыя паводзін чалавека на вытворчасці часам засмоктвае, як дрыгва, не толькі празаікаў, але і паэтаў:

Бульдозеры — матадоры,
Салярка — рудая кроў,
Лес, што сякуць пад корань,
Як рапены бык зароў.

Давайце не будзем цешыць сябе думкай, гаворыць прамоўца, што мы ствараем такім чынам непаўторныя па сіле мастацкага ўздзеяння на чытача вобразы нашага часу. Чытач не церпіць у мастацкіх творах агульных мясцін і дабрадушнай замілаванасці.

— Перш, чым узносіць героя на маральны п'едэстал, варта было б асэнсаваць яго сацыяльна, у сувязях з грамадствам, выявіць тэндэнцыю вобраза, — працягвае дакладчык. — Чытаючы новыя творы аб людзях працы, увесь час чакаеш выхаду герояў за межы сваёй прафесіі — у вялікае жыццё, чакаеш іх меркаванняў пра час, пра сябе, а не банальных сентэнцый. І калі ўжо аўтар паставіў якоенебудзь пытанне, завёў гаворку, дык не спыняйся на палавіне дарогі, не замоўчвай канфлікт, не ўцякай ад спрэчкі. Спынішся, замоўчыш, уцячэш — значыць, знізіш тонус маральнага, духоўнага жыцця. А мы павінны пісаць толькі дзеля таго, каб гэты тонус быў высокім, адпаведным грандыёзнасці тых задач, якія ставіць перад намі грамадства, партыя. Толькі праз глыбокае даследаванне працэсаў сучаснага працоўнага жыцця, у якім нараджаюцца і ўсталёўваюцца адносіны паміж людзьмі, можа быць створаны буйны характар рабочага чалавека, інжынера-канструктара, кіраўніка вытворчасці.

А пачынаць гэтае даследаванне варта з разведкі — разведкі праблем, тыпаў, характараў, што ў літаратуры, у журналістыцы ўскладаецца на плечы самых мабільных жанраў — нарысаў, эсэ. За нарыс аб рабочым класе, аб людзях тэхнічнага прагрэсу нам трэба брацца сёння ж, неадкладна. Грамадства, каб яно нармальна развівалася, павінна мець праўдзівую, вычарпальную інфармацыю пра сябе і, найперш, інфармацыю мастацкую, увасобленую ў яркія, здольныя закрануць душу вобразы. Стварыць яркія вобразы нашага часу, раскрыць характары сённяшняга дня—значыць стымуляваць і далейшыя гаспадарчыя пераўтварэнні, новыя сацыяльныя зрухі. Справа — чалавек—справа— гэта не зачараванае кола, якімі яны выглядаюць у капіталістычным свеце, гэта тая самая спіраль, што сімвалізуе грамадскае жыццё дзяржавы сацыялізма. Ад ніжэйшага да вышэйшага — вось наш дэвіз. І для нарыса, для публіцыстыкі тут неабмежаванае кола дзейнасці.

Што хацелася б здзейсніць на першым часе, гаворыць у заключэнне Ул. Юрэвіч, каб наша размова не засталася толькі гаворкай, каб XXIV з'езд нашай партыі мы адзначылі новымі справамі?

Па-першае, хочацца, каб сённяшняя сустрэча пісьменнікаў і людзей вытворчасці з'явілася той падвалінай, на якой вырастала б, вянец за вянцом, шчырае супрацоўніцтва пісьменніка і рабочага чалавека.

Па-другое, нам сёння варта выпрацаваць меры па далейшым умацаванні сувязяў і кантактаў з калектывам завода. У гэтым кірунку — вялікае поле дзейнасці. Тут і дапамога заводскім літаратарам-пачаткоўцам, сумесныя чытацкія канферэнцыі, дапамога ў напісанні гісторыі завода і г. д. Толькі шчыра кантактуючыся на дзелавой аснове, мы здолеем унесці адчувальны ўклад у літаратуру аб чалавеку працы. І нікому з нас не прымільгаецца яскравая, велічная і заўсёды новая карціна—ручаінкі людзей, што, сыходзячыся з розных кірункаў, утвараюць ля заводскай прахадной магутную шырокую плынь. Гледзячы на гэтую карціну, мы будзем яшчэ больш ганарыцца чалавекам — творцам, працаўніком, будаўніком.

— Мы з вялікай павагай адносімся да пісьменнікаў, радуемся вашым поспехам, засмучаемся вашымі няўдачамі, — сказала, выступаючы ў спрэчках, намеснік сакратара партыйнага камітэта завода аўтаматычных ліній М. Антонава. — Садружнасць, шчырыя кантакты беларускіх пісьменнікаў і калектыву завода толькі распачынаюцца, але ўжо яны прынеслі карысць як для пісьменнікаў, так і для нас. Мы будзем заўсёды гатовы ў любы час пазнаёміць вас з тымі задачамі і праблемамі, якія вырашаюцца зараз у нас на вытворчасці. А задачы і праблемы ў нас вялікія і адказныя. Мы чакаем пісьменніцкага слова ў справе даследавання і вырашэння праблемы выхавання маладой змены рабочага класа і павышэння грамадскай актыўнасці ўсіх працаўнікоў.

М. Антонава гаворыць таксама пра неабходнасць дапамогі з боку Саюза пісьменнікаў калектыву завода ў напісанні гісторыі завода, стварэнні дакументальных фільмаў, правядзенні чытацкіх канферэнцый па літаратурных творах, заклікала пісьменнікаў часцей бываць непасрэдна там, дзе вырашаецца лёс агульнага поспеху — у цэхах, зменах, брыгадах.

Піліп Пестрак у сваім выступленні гаварыў пра тыя змены, якія адбываюцца зараз не толькі на вытворчасці, але і ў самой псіхалогіі сённяшняга рабочага. На яго думку, пісьменнікі не могуць часам глыбока разабрацца ў складанай структуры сучаснай вытворчасці таму, што, як правіла, яны паходзяць з сялянскага асяроддзя і больш знітаваны з вёскай, чым з горадам. Пераадолець гэтыя цяжкасці можна толькі глыбокім і грунтоўным вывучэннем складаных змен у грамадстве, якія нясе навукова-тэхнічная рэвалюцыя.

— У апошні час Саюз пісьменнікаў БССР шмат увагі аддае даследаванню і вывучэнню вялікай і вельмі важнай праблемы: як праўдзіва і хвалююча адлюстраваць у мастацкіх вобразах рухаючую сілу нашага часу — працоўнага чалавека, — сказаў у сваім выступленні майстар завода Л. Багатыроў. — Я памятаю, што вясной гэтага года ў Саюзе пісьменнікаў адбылася канферэнцыя на гэтую тэму, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі шмат якіх рэспублік нашай краіны. Сапраўды, праблема «чалавек і вытворчасць» не знайшла яшчэ глыбокага мастацкага адлюстравання ў нашай літаратуры. Пісаць аб працоўным чалавеку, яго месцы ў калектыве, яго светапоглядзе вельмі складана. Тут ужо гаварылі, што сённяшні рабочы — чалавек высокай адукацыі і тонкага майстэрства. Мушу яшчэ дадаць: і з ведамі інжынера. Вось прыклад: адзін толькі стругальшчык Леанід Патаповіч укараніў на сваім участку больш 120 рацпрапаноў, а колькі за гэтай лічбай канфліктаў, сутыкненняў, перажыванняў, якія так неабходна ведаць пісьменніку, што бярэцца пісаць на рабочую тэматыку!

Інжынер завода і прапагандыст гуртка палітасветы Р. Кандзізбрат адзначыла, што сучасны завод — гэта складаны арганізм і ў вытворчых адносінах, і па ўзаемаадносінах, якія складаюцца між людзьмі ў працэсе вытворчасці. Шмат шляхоў вывучэння чалавека-працаўніка, гаворыць яна, але адзін найбольш эфектыўны—гэта непасрэднае знаёмства з ім, шчыры кантакт, задушэўная гутарка.

Яна таксама выказала трывогу ад таго, што ў рабочых калектывах яшчэ недастаткова прапагандуецца мастацкая літаратура, лепшыя яе здабыткі, што ў выбары кніг чытачамі пануе элемент выпадковасці.

— Недахопы літаратуры ў асвятленні чалавека працы выкліканы многімі прычынамі, — сказаў у сваім выступленні Сцяпан Гаўрусёў. — Адной з іх я лічу тое, што мы ў нейкай ступені разгубіліся перад інтэнсіўным напорам навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. Таму лічу вельмі слушнай думку Ул. Юрэвіча, што, каб пасняхова справіцца з пастаўленымі задачамі, трэба пачынаць з меншага — з нарысаў пра канкрэтных людзей. А ў якім аспекце будуць яны напісаны — гэта справа мастака, кожны пісьменнік індывідуальна можа знайсці блізкую яму тэму.

Адзначыўшы вялікую ролю нарыса для разведкі буйных тэм і канфліктаў, В. Мыслівец гаварыў пра ролю літаратурных твораў у выхаванні моладзі, пра дапамогу, якую павінен аказваць Саюз пісьменнікаў заводскім літаратарам-пачаткоўцам.

А. Русецкі, гаворачы пра стан сучаснай літаратуры аб рабочым класе, выказаў шмат цікавых думак. У прыватнасці, ён сказаў, што ў пісьменнікаў, якія пішуць на рабочую тэматыку, з поля зроку чамусьці выпадае адна вельмі важная характэрная рыса рабочага класа нашай рэспублікі — яго маладосць. Наш рабочы клас — гэта ў пераважнай большасці дзеці сялян, — зазначыў прамоўца. — Цікава паглядзець, даследаваць, асэнсаваць, як чалавек, які вырас у вёсцы, паводзіць сябе ў гарадскім асяроддзі, якія ў сувязі з гэтым у яго маральна-этычныя набыткі і страты?

Ролі пісьменніцкай арганізацыі ў выхаванні літаратараў з асяроддзя таленавітай рабочай моладзі прысвяціла сваё выступленне Е. Лось.

— Сённяшняя наша размова на сумесным партыйным сходзе Саюза пісьменнікаў і калектыву завода аўтаматычных ліній — гэта, па сутнасці, працяг нашых ранейшых гаворак на тэму «Пісьменнік і рабочы клас» — сказаў у заключэнне А. Кулакоўскі. — Тое, што пісьменнікі сумесна з рабочымі, тэхнікамі, інжынерамі сёння абмяркоўваюць надзённыя пытанні развіцця нашай літаратуры — яскравае сведчанне нашай агульнай занепакоенасці станам літаратуры на рабочую тэматыку. Мы і далей будзем шукаць і выкарыстоўваць дзейсныя формы садружнасці пісьменнікаў з працаўнікамі вытворчасці. Безумоўна, гэта будзе спрыяць вырашэнню тых задач, дзеля абмеркавання якіх мы і сабраліся разам.

Сход аднадушна прыняў дагавор сацыялістычнай садружнасці паміж калектывамі завода аўтаматычных ліній і Саюзам пісьменнікаў БССР.



У адным з цэхаў завода. «Гідам» пісьменнікаў была намеснік сакратара парткома МЗАЛа М. Антонава.

# ПАМІЖ ЧЫТАЧОМ І КНІГАЙ

І. САНКОВА,
намеснік дырэктара Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна



Нядаўна мне давялося гутарыць з дзяўчынай, якая выбірае сабе будучую прафесію. Прапанавала паступіць на бібліятэчны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. Яна падумала і адказала: «Вельмі ж нудная работа ў бібліятэцы».

А што сказалі б ёй людзі, якія працуюць у бібліятэках рэспублікі? Упэўнена, большасць з іх былі б не толькі здзіўлены, але і зняважаны. Яны б даказалі, што работа бібліятэкара цяжкая, адказная, але ганаровая і высакародная, як праца настаўніка. Яны здолелі б даказаць.

Творчасць робіць любую работу цікавай. Вось чаму мне хочацца пагаварыць аб творчым пошуку ў бібліятэчнай справе, аб шаблоне і фармалізме, якія, на жаль, яшчэ не ўсюды зжыты.

Возьмем метадычную і бібліяграфічную работу. Яе можна прыраўняць да «пісьменніцкай працы». Метадысты і бібліёграфы пішуць кансультацыі, інструкцыйна-метадычныя і бібліяграфічныя матэрыялы, якія дапамагаюць масавым бібліятэкам у рабоце, праводзяць даследаванні, бібліяграфічныя пошукі, выступаюць з дакладамі. Сярод вялікай арміі бібліёграфаў і метадыстаў рэспублікі нямала людзей, чые імёны шырока вядомыя ў бібліятэчным свеце не толькі рэспублікі, але і краіны. Мне хочацца сказаць некалькі слоў хоць бы аб трох з іх — супрацоўніках Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна.

Ніна Барысаўна Ватацы. Запытайцеся пра яе ў любога пісьменніка, спецыяліста, які паглыблена працуе ў галіне беларускай культуры, не гаворачы ўжо аб бібліёграфах рэспублікі і краіны, і вы адчуеце, як ведаюць яе, як цэняць і паважаюць. За што? Яна аўтар цэлага раду буйных работ: «Мастацкая літаратура Савецкай Беларусі (1917—1960 гг.). Бібліяграфія асобных выданняў», «Беларускае літаратуразнаўства і крытыка», «Беларуская драматургія» і інш. Многа гадоў вядзе серыю бібліяграфічных указальнікаў па творчасці выдатных беларускіх пісьменнікаў Я. Коласа, М. Багдановіча, К. Крапівы, К. Чорнага, П. Глебкі, М. Лынькова, Я. Брыля, М. Танка... Я не маю на мэце падрабязна выкласці ўвесь аб'ём работы, выкананы гэтым нястомным чалавекам, расказаць аб усіх яе творчых задумах, а іх у яе вельмі многа. Я хачу падкрэсліць, што Ніна Барысаўна заваявала вялікую вядомасць як аўтар цэлага раду работ іменна творчым падыходам да работы. Яна любіць сваю працу. За любую тэму бярэцца як творца, жыве гэтай тэмай, ведучы творчыя пошукі. Веды ў галіне беларускай літаратуры ў Ніны Барысаўны сапраўды энцыклапедычныя.

Успамінаецца такое здарэнне. Выдавецтва «Народная асвета» прапанавала Ніне Барысаўне скласці тэкст да альбома для школ пра Максіма Багдановіча. Ніна Барысаўна любіць гэтага выдатнага беларускага паэта, многа гадоў сябруе з яго роднымі, сабрала пра яго багаты матэрыял. І вось у падрыхтоўку не толькі тэксту да альбома, але і ілюстрацыйнага матэрыялу яна ўклала столькі душы і фантазіі, што ўвесь альбом стаў кнігай паэзіі, якая не зможа пакінуць абыякавым ні аднаго школьніка. Працавала яна разам з мастаком. Доўга абдумвалі месца для кожнай ілюстрацыі, кожнай фатаграфіі. Часта ў тыя дні яе бачылі ў выдавецтве.

Калі заканчваецца працоўны дзень, пры выхадзе з Дзяржаўнай бібліятэкі можна сустрэць немаладую сур'ёзную жанчыну з вялізнай звязкай кніг — Зою Уладзіміраўну Дзяканаву, такога ж энтузіяста бібліятэчнай работы, як і Ніна Барысаўна Ватацы. Яна заўсёды з кнігамі. Зразумела, як жа інакш яна зможа пазнаёміцца з велізарным патокам літаратуры, што выдаецца для дзяцей саюзнымі і беларускімі выдавецтвамі? Бо Дзяканава загадвае ў бібліятэцы сектарам па рабоце з дзецьмі і пакуль сама не пазнаёміцца з кнігай — не ўключыць яе ў тыя метадычныя і бібліяграфічныя матэрыялы, якія распрацоўваюць у дапамогу дзіцячым бібліятэкам. Многа іх склала Зоя Уладзіміраўна. Яна і бібліёграф, і метадыст. У 1961 годзе ўпершыню ў гісторыі бібліятэчнай справы Беларусі быў складзены рэкамендацыйны ўказальнік «Дзіцячая літаратура БССР». Ён быў распаўсюджаны не толькі па дзіцячых бібліятэках рэспублікі, але прапанаваны Міністэрствам асветы БССР для школьных бібліятэк, прынёс неацэнную дапамогу ў рабоце з маленькімі чытачамі. Праз тры гады яна ўжо склала ўказальнік літаратуры для саміх дзяцей — «Прачытай гэтыя кнігі». А колькі кансультацый, інструкцыйна-метадычных пісьмаў распрацавала Зоя Уладзіміраўна, колькі дакладаў зрабіла на раённых, гарадскіх, абласных, рэспубліканскіх і ўсесаюзных нарадах і семінарах! У Маскве, Ленінградзе, Мінску...

І — дарогі, дарогі, дарогі... Па гарадах і сёлах Беларусі... Многа іх праклала гэта нястомная жанчына. У яе ніколі не было адказу: «не магу», «цяжка». Калі яна патрэбна ў раёне, у сяле, калі трэба паехаць з дакладам у сталіцу — зараз жа ў дарогу.

Энтузіяст, які любіць дзяцей, дзіцячую літаратуру, выдатна ведае кнігу і бібліятэчную работу, не-не, ды і прызнаецца ў сваіх засмучэннях. Яе трывожыць, што дзіцячая кніга слаба даходзіць да сяла, што рэспубліканскі кнігагандаль не выконвае заказаў на кнігі саюзных, а іншы раз і беларускіх выдавецтваў, што не вырашана да канца пытанне з камплектаваннем кніжных фондаў школьных бібліятэк. І вось па яе ініцыятыве разам з Міністэрствам асветы праводзіцца вывучэнне камплектавання і стану кніжных фондаў школьных бібліятэк. Па выніках вывучэння прымаецца рад мер, накіраваных на паляпшэнне камплектавання бібліятэк. Разам з метадыстамі абласных дзіцячых бібліятэк яна даследуе, як выкарыстоўваецца навукова-пазнавальная літаратура вучнямі 5—8 класаў. Робяцца навукова абгрунтаваныя вывады, з якімі яна едзе і выступае на ўсесаюзнай нарадзе, публікуе іх ў часопісе «Бібліятэкар». І на гэтым даследаванні не заканчваюцца.

Зоя Уладзіміраўна — часты госць у Саюзе пісьменнікаў. Сюды яе запрашаюць на пасяджэнні секцыі дзіцячай літаратуры. Калі абмяркоўваюцца заказы на літаратуру — яна незаменны памочнік ЦК ЛКСМБ і іншых арганізацый, якія працуюць з дзецьмі. Гэты чалавек умее працаваць творча, жыць вялікімі клопатамі.

А вось сціплая і нават сарамлівая на першы погляд Аляксандра Паўлаўна Дземчанкава, загадчыца навукова-бібліяграфічнага аддзела нашай бібліятэкі, нязменны рэдактар рэспубліканскага бюлетэня «Новыя кнігі БССР», аўтар цэлага раду бібліяграфічных указальнікаў у галіне рэкамендацыйнай бібліяграфіі. Пад яе кіраўніцтвам на працягу раду гадоў вядзецца даследаванне выкарыстання рэкамендацыйнай бібліяграфіі ў рабоце масавых бібліятэк, а таксама (ва ўсесаюзным маштабе) даследаванне эфектыўнасці рэкамендацыйнай бібліяграфіі, ажыццяўляецца каардынацыя ў галіне бібліяграфіі буйнейшых навуковых бібліятэк рэспублікі.

Усіх гэтых выдатных работнікаў родніць любоў да бібліятэчнай справы, бясконцы творчы пошук у спалучэнні з велізарнай працавітасцю, вялікай сціпласцю. А сустракаецца яшчэ нямала метадыстаў і бібліёграфаў, якія робяць нібыта ўсё, што ад іх патрабуецца, але фармальна або паспешліва, без любві да яе. У выніку з'яўляецца нецікавы даклад, сухое інструкцыйна-метадычнае пісьмо, якое не кране бібліятэкара-практыка. Не форма бібліятэчнай работы спрыяе творчасці, а веды, глыбокі падыход да яе.

Гаворачы аб рабоце буйных бібліятэк, часта можна бачыць, як выпускнікі бібліятэчных інстытутаў ухіляюцца ад камплектавання і апрацоўкі кніг, кнігасховішча. Усіх цягне толькі бібліяграфічная работа, радзей — метадычная і работа з чытачом. А калі ўжо з чытачом, дык абавязкова з «навуковым». Хто ў гэтым вінаваты? Відаць, у працэсе выкладання выкладчыкі мала звяртаюць увагі на значнасць гэтай работы ў бібліятэках. А калі не будзе ў час набыта патрэбная кніга, не будзе апрацавана, не будзе на навуковай аснове весціся вывучэнне камплектавання і выкарыстання нашых шматтысячных і ўжо некалькімільённых фондаў — не атрымае чытач, у тым ліку і «навуковы», да якога так цягнецца малады спецыяліст-бібліятэкар, патрэбную кнігу. Адсюль — зніжэнне якасці абслугоўвання чытачоў. Канечне, вінаватыя ў гэтым не толькі выкладчыкі, а і мы — работнікі бібліятэк — мала сустракаемся са студэнтамі.

З гэтымі трыма жанчынамі я бачуся кожны дзень на рабоце. А колькі ў нас такіх энтузіястаў у масавых перыферыйных бібліятэках! Калі думаю пра іх, прыпамінаецца загадчыца Дашкаўскай сельскай бібліятэкі Марыя Пятроўна Барадзінская. На яе грудзях ордэн Леніна. А за ордэнам — багатая душа і багатае жыццё. Гэта яе бібліятэка была «першай ластаўкай» у рэспубліцы па бібліятэчным абслугоўванні кожнай калгаснай сям'і, кожнага чытача. Гэта яна, Барадзінская, у ліку лепшых пятнаццаці бібліятэчных работнікаў была выклікана ў Маскву на ўшанаванне пераможцаў конкурсу газеты «Известия» на лепшую сельскую бібліятэку.

Барадзінская пастаянна шукае тыя шляхі, якімі кніга можа прыйсці да чытача, працуе над гэтым разам з праўленнем калгаса, партыйнай арганізацыяй, уцягнула іх у гэту святую справу. Бібліятэчная работа для яе ніколі не была сумнай.

А ўзяць Ігара Аляксеевіча Алексіевіча — загадчыка Крупскай раённай

# ПАЭТЫЧНЫЯ АДВЕДЗІНЫ Ў БЛІЗКІХ...

*Інтэрв'ю дае Ян ГУШЧА — польскі паэт, крытык, перакладчык*



— Інтэрв'ю? — Ян Гушча пасміхаецца аднымі толькі вачыма, сочачы за мной пранікліва з-за рагавых акуляраў, парывісты ў рухах, эмацыянальны. — У нас з гэтымі інтэрв'ю часта бывае, што ад слоў аўтара — ні слова, суцэльнае мастацтва таго, хто бярэ інтэрв'ю.

Я заспакойваю, што ніколі і ні ў кога не браў інтэрв'ю, што для мяне закон — дакладнасць, як таго і патрабуе гэты жанр, што інтэрв'ю, можа, у мяне і не атрымаецца.

Уласна кажучы, я быў з гэтым чалавекам ужо другі дзень. Сустрэўся з ім напярэдадні ў Саюзе пісьменнікаў. Да гэтага меў пару лістоў ад яго — з Лодзі, перакладаў яго вершы. Адзін з іх называўся «Бульба». Ён спадабаўся не толькі мне, але і Рыгору Барадуліну, бо адначасова ў двух перакладах — у «Маладосці» і ў «Полымі» — з'явіўся гэты верш: пра сціпласць чалавека-працаўніка, патрыёта, патрыятызм якога вымяраецца не грамавым самаабвяшчэннем, а той непрыкметнай карысцю, што неўзаметку, але ўсім сэрцам, даецца чалавекам народу, айчыне.

Мне здалося, што ў Яну Гушчы, у ім самім жыве падобнае пачуццё сціпласці — не без гонару за зробленае.

Лёс гэтага чалавека складаны і нялёгкі. Нарадзіўся над Дзвіною, у Дзісне. Да 1939 года вучыўся ў Віленскім універсітэце. Дваццацігадовым юнаком ён ведаў нашага Максіма Танка, быў малодшым сябрам віленскіх «Жагараў» — гурткоўцаў «левіцовай», як тады гаварылі, літаратурнай групы ў Вільні. Недзе з 1940 года — у Казахстане, у перыяд Вялікай Айчыннай вайны — у арміі, пасля вайны застаецца жыць у Лодзі...

Ян Гушча, не без гонару за тое, што ім помніцца, дэкламуе:

Эх, скручу я дудку!
Такое зайграю,
Што ўсім будзе чутна
Ад краю да краю!

У кнігарні, разам з перакладамі на беларускую мову паэзіі Адама Міцкевіча, купляе «Маладзік» Багдановіча (хваліць афармленне) і апошняе, самае поўнае выданне твораў Францішка Багушэвіча.

— Багушэвіча памятаю з маленства. Не, гэта не проста народны—у сэнсе вясковы, сельскі паэт, гэта Паэт увогуле, Паэт з вялікай літары.

У Мінску Ян Гушча ўжо другі раз. Першы раз быў у 1968 годзе. І я проста здзіўляюся, колькі гэты чалавек паспеў зрабіць у прамежку паміж першым і перад другім сваім вяртаннем у край свайго маленства. Ён на сёння сапраўды адзін з самых найпершых паўнамоцных прадстаўнікоў нашай паэзіі ў Народнай Польшчы. За гэты час вершы самых розных нашых паэтаў — К. Буйло, П. Броўкі, М. Танка, Я. Пушчы, С. Дзяргая, М. Аўрамчыка, Ул. Караткевіча, Р. Барадуліна, А. Вярцінскага, П. Макаля, Я. Сіпакова, Г. Бураўкіна, Д. Бічэль-Загнетавай, С. Панізніка, Ж. Янішчыц і іншых перакладзены і надрукаваны Янам Гушчам у польскіх перыядычных выданнях «Асновы», «Адглосы», «Жыце і мысль», «Жыце літэрацке», «Шпількі». У эфіры прагучаў «Квадранс паэтыцкі» беларускай паэзіі, падрыхтаваны таксама Янам Гушчам.

Але, відаць, самая прыемная навіна, якой з радасцю дзеліцца польскі паэт, гэта навіна пра анталогію «Вершы беларускія», якая выходзіць у першай палове 1971 года ў Лодзінскім выдавецтве. Пяцьдзесят беларускіх паэтаў прадстаўлены ў ёй, трыццаць польскіх паэтаў перакладалі іх. Сярод іх такія вядомыя, як Мацей Юзаф Кананові́ч, Тадэвуш Хрусцялеўскі, Ігар Сікірыцкі. Лодзінскае выдавецтва, якое ўзначальвае вядомы польскі празаік, аўтар папулярнай аповесці «Свентакшаскі паланез» Веслаў Яжджынскі, увогуле заслугоўвае самых лепшых слоў прызнання. Бо якраз у ім выходзіць неўзабаве і зборнік апавяданняў Янкі Брыля, перакладзены М. Ю. Кананові́чам, і ў яго ж планах — выданне аднатомніка Максіма Багдановіча, які, зноў жа, рыхтуе Ян Гушча.

Ян Гушча — не толькі перакладчык.

Гаворым пра Скарыну.

бібліятэкі. Ды ён не толькі клапоціцца аб бібліятэчным абслугоўванні насельніцтва, яго бібліятэка — адна з лепшых па метадычнай рабоце. А яшчэ ёсць у Алексіевіча любімы занятак: камплектаванне кніжных фондаў сельскіх і прыклубных бібліятэк. На прыклубныя бібліятэкі адпускаюць у два разы менш сродкаў, чым на сельскія. І вось ён адным з першых рашыў гэтае пытанне ў раёне, дабіўшыся пераразмеркавання сродкаў паміж сельскімі і прыклубнымі бібліятэкамі, у выніку чаго прыклубныя бібліятэкі змаглі палепшыць абслугоўванне насельніцтва.

Алексіевіча можна сустрэць у дублетным фондзе Дзяржаўнай бібліятэкі, дзе ён падбірае кнігі для раёна, у калектары, бібліятэках іншых гарадоў, куды трапляе, будучы ў адпачынку або на нарадзе. Ён жыве кнігай, жыве чытачом. Для яго, напэўна, работа ў аддзеле кнігасховішча або камплектавання ніколі не была б сумнай, нязначнай. Ён ведае цану кнізе, любіць бібліятэчную работу.

Як многаму могуць навучыць маладога бібліятэкара такія людзі. Асабліва ў абставінах, дзе не зжыты да канца шаблон і фармалізм. Бо колькі яшчэ бібліятэкараў, якія не аналізуюць сваёй работы, праводзяць масавыя мерапрыемствы дзеля мерапрыемстваў, чакаюць, калі ім падкажуць «зверху», якія мерапрыемствы правесці, як правесці.

Так, у нас ёсць бібліёграфы і метадысты, якія абавязаны дапамагаць нізавым бібліятэкам у рабоце, павінны даць напрамак, дапамагчы бібліяграфіяй. Але гэта адпраўныя моманты. Ні адзін метадыст не зможа даць вычарпальных парад, бо ў рабоце кожнай бібліятэкі свая спецыфіка: укамплектаванасць літаратурай, на якую ўказваюць метадысты або бібліёграфы, месца, падрыхтаванасць чытачоў, наяўнасць памочнікаў-актывістаў, мясцовай інтэлігенцыі. Улічваючы ўсё гэта, бібліятэкар павінен сам спланаваць работу, зыходзячы з атрыманых матэрыялаў.

Столькі кніг, мастацкіх твораў выходзіць у краіне! Калі ж знаёмішся са справаздачамі або аглядамі работы бібліятэк, дык бачыш, што абмяркоўваліся яны чытачамі мала, галоўным чынам тыя, па якіх ёсць распрацоўкі рэспубліканскай або абласной бібліятэк. А ёсць жа кнігі, якія выклікалі вялікую цікавасць чытачоў, аб якіх спрачаюцца, правільна ці не правільна іх разумеюць, у друку публікуюцца рэцэнзіі, а бібліятэкі — у баку, чакаюць распрацовак.

Бібліятэкі з году ў год шукаюць новыя формы масавай работы з чытачом. У гэтай рабоце нельга дапусціць фармалізму, абыякавасці. У бібліятэчнай справе месца толькі энтузіястам, людзям творчым. Такое патрабаванне кнігі і чытача. У гэтым і наша радасць — бібліятэкара.

*ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА*

# АЖЫЎЛЕНЫЯ ФРЭСКІ



Як і пра кожную яркую балерыну, пра Клару Малышаву расказаць цяжка: танец перадаецца словам вельмі ж прыблізна. І кожны раз, беручыся за пяро, сумняваешся, ці здолееш раскрыць дух і сутнасць творчасці Клары Малышавай. Шырокі творчы дыяпазон балерыны, і ў кожным спектаклі яна новая, нечаканая, бо няўлоўнымі адценнямі ў руху класічнага і сучаснага танца ўзбагачае вобраз, імкнучыся да заўжды недасягальнай дасканаласці.

...Маленькая і прыгожая жанчына мала гаварыла. І ўсё, што я даведаўся пра яе, — з танца. Там, на сцэне мяне скарыла ўменне балерыны «падзяліцца» з партнёрам тым «зарадам» думак і пачуццяў, якія яна назапашвае, рыхтуючы ролю. У дуэтах яна нейкая на дзіва чулая субяседніца, а ў сольных момантах перадае «маналогі» з гранічнай красамоўнасцю пластыкі.

Я на рэпетыцыі балета Мінкуса «Дон-Кіхот». Дзесяткі разоў танцавала на сцэне К. Малышава партыю Кітры. Яе партнёрамі былі вядомыя танцоўшчыкі В. Постнікаў, М. Барышнікаў, В. Давыдаў. Цяпер рыхтуецца ўвод новага выканаўцы — В. Саркісяна. Нястомна паўтарае балерына імклівыя фуэтэ, лёгкія скачкі, ляціць па сцэне ў змене плаўных арабескаў і атыцюдаў — К. Малышава непакоіцца за будучы спектакль, за поспех у ім калегі па мастацтве. Зразумела, што з уводам новага саліста мяняецца нешта і ў «малюнку» ўсяго спектакля, і ў яе партыі. Трэба перабудоўвацца ўсім. «Віцечка, ну што табе сказаць такое, каб было лягчэй?» Добрае слова, падтрымка, увага партнёру заўсёды патрэбныя. Клара ведае. І таму працуе—так, працуе!— на рэпетыцыі з поўнай аддачай сіл.

Строгая муза Тэрпсіхора любіць таленавітых і працавітых. Клара Малышава з дзевяці гадоў авалодвае азбукай балетнага мастацтва. Смяецца: «Гэта такая азбука, што ого-го! Мова цела... Авалодай ёю!..» Выпускніца Пермскага харэаграфічнага вучылішча, яна мае добрую танцавальную тэхніку, блізкую да стылю славутай ленінградскай школы. І ўсё ж штодня ідзе гэты працэс — авалоданне азбукай танца.

Гераіні Малышавай вельмі розныя па характары. Яны і жывуць на балетнай сцэне ў розных эпохах. Вось бліскучая Кітры — плён фантазіі М. Пеціпа і А. Горскага, а побач—пяшчотная і безабаронная Ніна ў «Маскарадзе», паэтычная Джульета, а за ёю — прывабная Ліза ў «Марнай перасцярозе», узнёслая Эсмеральда, Жызель, лірычная Кацярына і Гаспадыня Меднай гары з «Каменнай кветкі», крылатая дзяўчына-птушка Сюімбіке ў «Шурале». Хочаш ці не хочаш, а такі рэпертуар вымагае пошуку індывідуальнай непаўторнасці ў ролях.

Так, Малышава — балерына і актрыса шырокага творчага дыяпазону.

Адна з найбольш цікавых работ Малышавай — партыя Джульеты ў балеце С. Пракоф'ева «Рамео і Джульета». Тэхнічны танец балерына напаўняе самымі трапяткімі адценнямі душэўных перажыванняў, пачуццяў. Яна танцуе, не толькі нагамі, целам, а і сэрцам. У партыі Джульеты, у якой складана спалучаюцца танец і пантаміма, К. Малышава выдатна раскрывае «паліфанію» вобраза, так глыбока раскрытага Шэкспірам і музыкай Пракоф'ева.

Пачатак балета. На сцэне — гарэзлівае дзіця. Але вось у гэтай юнай душы абуджаюцца першыя пачуцці. Спачатку танюсенькія, празрыстыя, як ручай, ледзь чутныя і пяшчотныя. А потым усё больш моцныя, хвалюючыя, магутныя, яны дасягаюць апагею... У апошніх трагедыйных сцэнах Малышава — Джульета сталее. Смерць — адзіны ратунак Джульеты. Гэта — яе пратэст супраць таго асяроддзя, у якім няма месца свабоднаму пачуццю, дзе топчуць чалавечую годнасць...

Гэта цяжка перадаць і ў драматычным тэатры, калі ў выканаўцы ёсць тэкст. Балерына «гаворыць» пра тое, што ў сэрцы, мовай танца — целам...

У вялікім рэпертуары балерыны значнае месца займае сучасная тэма. К. Малышава імкнецца надзяліць гераінь зразумелымі нам па часе і духу думкамі аб месцы чалавека ў грамадстве. Яна ўмее вобразна-дакладна раскрыць не знешні воблік-партрэт героя, а яго ўнутраны духоўны свет. Ніколі не забывае Клара Малышава трапныя словы Сяргея Пракоф'ева: «Можна быць вынаходлівым, але нельга пры гэтым губляць жывой думкі».

Балетаманаў вабяць апошнія работы балерыны ў беларускіх нацыянальных балетах Яўгена Глебава.

Вобраз Джуліі з «Альпійскай балады» ў нечым пераклікаецца з Джульетай. Іх аб'ядноўвае рэзкі пратэст супраць зла і прымусу, любоў і вернасць, перакананасць, шчырасць. Зазначу, што К. Малышава выдатна адчувае характар музыкі Я. Глебава. Артыстка дае Джуліі глыбока псіхалагічную выразнасць, паказвае яе ў развіцці — ад лірычнага, амаль пастаральнага ўспрымання натуральнага свету, прыроды і людзей, да адчування зла, што прыносіць фашызм людзям. Ігра і танец Малышавай часам набываюць уражлівую плакатнасць, напрыклад, калі яна выказвае пратэст Джуліі супраць прыніжэння і знявагі. Ёй дарагія тыя моманты спектакля, дзе яе гераіня сталее інтэлектуальна.

Мы верым Джуліі — Малышавай, як верым Джульеце. Адна — смерцю сваёй заклікае людзей да міру і дабра, другая — страсная і непрымірымая да смерці, заклікае чалавека да актыўнай барацьбы. Лёс Джуліі, як яго перадае ў танцы балерына, і сам па сабе выклік цёмным сілам...

Новая работа К. Малышавай. На гэты раз у балеце Я. Глебава «Выбранніца». Партыя Няўзіры процілеглая па характары вобразам гераінь, аб якіх ішла гаворка вышэй. Калі тыя — вобразы рэальнага свету, дык Няўзіра—злая чараўніца, вобраз фантастычны, навеяны беларускімі народнымі казкамі і легендамі.

Гаварыць пра Няўзіру — К. Малышаву, значыць гаварыць пра феерычны бляск складанай танцавальнай тэхнікі, якая злучыла ў сабе элементы класічнага і характэрнага танца з... чыста акрабатычнымі прыёмамі. Няўзіра ў Малышавай—дзяўчына спакуслівая і цудоўная, яна добрая пара злому князю. Разам з тым, Малышава пераканаўча раскрывае ледзь улоўную разгубленасць злой чараўніцы перад сілаю духу цнатліва прыгожай дзяўчыны. У імправізаванай манеры выконваецца партыя Няўзіры. Артыстка прадстае ў ёй кожны раз «трошкі» іншай. Глядач з захапленнем прымае імклівыя і смелыя скачкі Няўзіры—Малышавай, яе гнуткі батман, віртуозныя вярчэнні-піруэты, скульптурную выразнасць рухаў і статычных мізансцэн—гранічна-пластычнае раскрыццё яркіх музычных вобразаў.

Творчы працэс росту і пошукі К. Малышавай паспяхова працягваюцца. Глядач заўсёды рады сустрэчы з адной з вядучых салістак Беларускага тэатра оперы і балета, яе яркае мастацтва хвалюе і прымушае прасветлена думаць аб хараставе жыцця.

**Уладзімір ЯФРЭМАЎ.**

— Скарына — постаць асабліва значная ў дзеях беларускай культуры...

Так, сапраўды, з яго пачынаецца гісторыя беларускай паэзіі, сапраўды, шляхі развіцця беларускай культуры былі вельмі пакручастыя.

Янка Купала, Якуб Колас... Так, іх паэзія «была рэвалюцыйная, выказвала мары пра гістарычную буру, разам з тым сярмяжная, сялянская, свае вобразы яны чэрпалі з жыцця вёскі, з народнай творчасці і сімволікі. Дзякуючы ім трэці класік, які жыў, на жаль, вельмі мала, Максім Багдановіч мог слушна аб сабе напісаць: «...мая творчасць перад усім была накіравана на пашырэнне кругу тэм і форм беларускай паэзіі».

— Хто ведае, — пытае сам сябе Ян Гушча, — можа гэты малады юнак меў у сабе штосьці ад генія? Гэты хворы на грудзі чалавек быў звязаны амаль з усімі праявамі сучаснай яму беларускай культуры, а яшчэ ў дадатак сягаў у будучыню. Асабіста напэўна няшчасны, ён працаваў з незвычайнай заўзятасцю. Рамантык? Рамантык! Мадэрніст? Мадэрніст! Паэт сацыяльна-палітычны? У найвышэйшай ступені. Поўны ўсведамлення аб стане роднай літаратуры, хоча ўсё перарабіць, шмат якія рэчы пачаць. Стварае філасофію паэзіі і мастацтва, некаторыя палажэнні якой абсалютна не страцілі актуальнасці...

Такія развагі аб адным з нашых лепшых паэтаў, відаць, ніяк не ад дылетанцкага знаёмства з гісторыяй нашай паэзіі!..

Не менш цікавыя думкі Яна Гушчы аб агульным стане сучаснай нашай паэзіі, аб асобных сённяшніх паэтах.

— Усё больш разнастайным становіцца паэтычнае пранікненне ў рэчаіснасць, беларуская паэзія перакрочыла бар'еры традыцыйных канонаў, па-ранейшаму знаходзячы пры гэтым натхненне і метафару ў аб'ектыўна дадзеных рэаліях, у сувязях з жыццём іншых савецкіх народаў. Паэтычная споведзь... штораз усё больш індывідуалізуецца, становіцца больш праніклівая і паглыбленая, што датычыць і паэтаў, якія, здавалася б, даўно ўжо сфарміраваліся. Тут я маю на ўвазе рашучы адыход ад дэкларацыйнасці і таннага пафасу на карысць вострага і канкрэтнага бачання спраў жыцця; праблематыка некаторых твораў датычыць не толькі сацыяльнага агульнажыцця, але духоўнага жыцця асобы, існавання чалавека...

Цікавы погляд збоку на паэзію М. Танка:

— Біяграфічныя моманты ў яго паэзіі цесна звязаны з усім, што перажываў і перажывае яго народ. Мае ў вельмі значным таксама і колькасным даробку шмат «вершаў на выпадак», якія звычайна рэдка вытрымліваюць выпрабаванне часам, — ды мала яны ўплываюць на ацэнку паэзіі Танка цалкам, жывую, цікавую, багатую самымі разнастайнымі сродкамі выражэння... Танк ніколі не перастае быць сабой, яго лёгка пазнаць як у творах гумарыстычных, блізкіх да народных, так і ў вершах лірычных і ў спробах эпасу...

Пра Рыгора Барадуліна:

— Асабліва здзівіў мяне Рыгор Барадулін!.. Адрозніваецца цэльнасцю, часам проста драпежнасцю метафары... Элементы лірычныя ўмела злучае з сатырычнымі. Некаторыя творы графічна нагадваюць «лесвіцу» Маякоўскага, не вельмі аднак прыходзіцца гаварыць аб залежнасці, асабліва аб адным і тым жа размаху грамадзянскасці і артыстычнасці.

Як бачым, польскі паэт не толькі аналізуе, канстатуе, ён повен і сяброўскай зацікаўленасці аб далейшым росце нашай паэзіі, аб яшчэ большым яе грамадзянскім размаху. Гэта можна заўважыць і з яго заўваг пра творчасць другога нашага паэта — Анатоля Вярцінскага:

— У некаторых яго вершах гучыць заклапочанасць лёсам асобы, чалавечага існавання, зразуметага як драма... Выйгралі б гэтыя вершы аднак пры большым клопаце паэта пра сціслась...

Як знамянальную рэч, Ян Гушча адзначае, што «дэбютанты, хоць маюць шматлікія прыклады верлібра з мінулага і сённяшняга дня, пачынаюць, у процілегласць нашым (польскім паэтам, — **А. Л.**), хутчэй з традыцыйных спосабаў выказвання, яны не сіляцца на псеўда-інтэлектуалізм, іх маладосці ўласцівей сцвярджэнне жыцця.. Характарызуе іх якраз пачуццёвасць, эмоцыя, а не ўяўная глыбіня, не запазычаная рэфлексія».

Відаць, самі мы гэтую непасрэднасць, першаснасць пачуццёвых вершаў нашых маладзейшых паэтаў не заўсёды даацэньваем. З чаго, сапраўды, як не з яе можа пачынаць малады паэт?! Іншая справа, што ўслед за гэтым павінна прыходзіць большае — той размах, традыцыі якога пакінулі нам Купала, Колас, Багдановіч.

Шырокае і блізкае знаёмства ў Яна Гушчы з нашай паэзіяй. І з творамі не толькі тых, каго я паспеў упамянуць. Па сутнасці, усе, хто актыўна працуе сёння ў нашай паэзіі, успомнены польскім паэтам у артыкуле «Паэтычныя адведзіны ў блізкіх», які зусім нядаўна з'явіўся ў штотыднёвіку «Адглосы»...

Два прыемныя дні правёў я з гэтым чалавекам. Не ведаю, ці «па ўсіх правілах» жанру вытрымана маё інтэрв'ю, але што ад сябе, то ў словы вядомага польскага паэта ў ім я нічога не ўносіў. Аб гэтым няхай лішні раз пацвердзіць штотыднёвік «Адглосы», які ў мяне застаўся як добры ўспамін аб адным з блізкіх нашых сяброў — польскім паэце, перакладчыку, крытыку Яну Гушчы, які я і цытаваў у гэтым інтэрв'ю.

**Алег ЛОЙКА.**

Уладзімір РУБЦОЎ

## ЛЯ ПОМНІКА

Ля Копысі нівы, куды ні зірні,
Над нівамі—цёплы вятрыска.
Таварыш, хаду на хвіліну спыні
Ля гэтага вось абеліска.

Давай пастаім у маўчанні
адным
Пад засенню дрэў ля салдата.
Успомнім герояў апошняй
вайны,
Што спяць, не дайшоўшы
да хаты.

Варожыя кулі ў няроўным баі
Прабілі гарачыя сэрцы.
Але яны з намі заўсёды ў страі,
І ў гэтым—герояў бяссмерце.

Ты бачыш, мой дружа, сабраны
вянкі
Ім з кветак шырокага поля.
Ні сёння, ні заўтра мае землякі
Пра іх не забудуць ніколі.

Марк АЛЯКСЕЕЎ

## ЗАМАК

Колькі стагоддзяў у рэчцы
плыткай
Шэрым адбіткам байніцы
хістаюцца.
Свежыя хвалі далонямі-
пліткамі
Плешчуць у мур, захапляюцца.

Бразне, здаецца, брама
каваная,
Ґрозныя ратнікі выедуць
шэрагам.
Доўга іх панцыраў сталь
гартаваная
Будзе зіхцець над асмужаным
берагам.

Раніца бляскам залье
наваколле.
Чорнаю плоймай зляцяцца
вароны...
Многія болей не селі
ў застолле,
Ды Беларусь не была пакарона.

Валянціна ПЧОЛКА

## РАДЗІМЕ

Калі б Дняпро магутны, сіні
Не быў зямлі маёй пясняр,
Сасонак стромкія вяршыні
Прынеслі б музыку з-за хмар.

Калі б не граў вятрыска весні
На гонкіх струнах збажыны,
Жаўрук жывою стаў бы песняй
Над вамі, сінія ільны.

За гэты спеў, за шыр адхонаў,
За промні зыркага святла
У бой аршанцаў вёў Заслонаў,

Вёў з ясным позіркам арла.
Таму і я лічу за шчасце
Не проста жыць, а з песняй
жыць,
За права светлае прыпасці
Да чысціні тваіх крыніц.

Сцяпан ГАЎРУСЁЎ

# РОДНЫЯ ВЫТОКІ

...там песняроў — нібыта маку.
Аж статыстыка дае ў падліках маху.
**Пімен ПАНЧАНКА.**

МЫ ЛЮБІМ пахваляцца сёння планетарнасцю даступных адлегласцей, глабальнасцю дапытлівай думкі. Нават касмічныя палёты ўспрымаюцца як нешта сугуба будзённае, хоць пачаліся яны так нядаўна. І не вельмі здзівімся, калі неўзабаве вучоным удасца ўстанавіць кантакты з насельнікамі іншых галактык, атрымаць інфармацыю аб невядомых цывілізацыях. Усё гэта, бясспрэчна, уплывае на маштабы нашых уяўленняў і, у прыватнасці, на мастацтва. Цяпер ужо здаецца анахранізмам цягучая прыземленасць бытаапісальніцтва. Але давайце падумаем: ці не трацім мы — пры ўсіх відавочных набытках — нечага істотнага? Ці многа мы можам назваць твораў, якія б пачыналіся такім прасветленым воклічам: «О родны кут, як ты мне мілы! Забыць цябе не маю сілы»?

У глыбокім пачуцці знітаванасці са сваёй бацькаўшчынай нельга бачыць правінцыяльную абмежаванасць. Лепшы таму доказ — творчасць Расула Гамзатава, які, гаворачы аб сваім нешматлікім народзе, умее падняцца да сусветнага гучання. І крыўдна становіцца, што ні ў кога з нас не дайшлі рукі, каб напісаць такую кнігу, як «Мой Дагестан», прасякнутую гонарам за сваю гісторыю, за свабодалюбівыя традыцыі свайго народа. А ці пашкодзіла ўсенароднай папулярнасці і ўсеагульнаму прызнанню Аляксандра Твардоўскага тое, што ў самых інтымных споведзях ён звяртаецца да роднай Смаленшчыны? І ці дрэнна тое, што за Максімам Танкам — пры ўсіх астатніх — замацаваўся тытул песняра Нарачы? А ці мала ў нас яшчэ слаўных мясцін, якія просяцца стаць творчымі пашпартамі паэтаў? І проста крыўдна робіцца, калі хлопчык з Віцебшчыны піша верш пра Нёман, якога ў вочы не бачыў, а ўсё толькі таму, што лёгка рыфмуецца «Нёман — гоман». І тыя казкі, песні і паданні, што атулялі наша маленства, непрыкметна выветрываюцца ў клопатах штодзённасці, і пасля — ужо дарослымі — як да чыстай крыніцы ў спёку, спяшаемся дапасці да народнай мудрасці. Аб усім гэтым з мудрай праніклівасцю сказаў у свой час Аркадзь Куляшоў:

Пад кпіны аматараў лёгкае славы
Капаю рэчышча ўласнай ракі.
З надзеяй гляджу на крыніцу спатканую,
Хачу, каб яна разлілася ракой...,
Не Волгай магутнай,
Не нават Камаю,
Хоць Бесяддзю, што на радзіме маёй.

У гэтым плане вельмі радуе, што Аляксей Пысін не забывае сваёй Магілёўшчыны, Ніл Гілевіч — Лагойшчыны, Рыгор Барадулін і Еўдакія Лось — Ушаччыны, Юрась Свірка — Бягомльшчыны... Зразумела, і ў іншых таварышаў можна знайсці добрыя вершы, навеяныя роднымі мясцінамі, але ў названых паэтаў — на маю думку — гэта пачуццё выяўлена з найбольшай глыбінёй і нагляднасцю.

Кожны куток нашай зямлі — непаўторны па харастве, па сваім укладзе ў нацыянальную культуру. Магчыма, некалі статыстыка, карыстаючыся панчанкаўскім тэрмінам, дасць нам поўную карціну, колькі паэтаў выйшла з таго ці іншага раёна. Але нас цяпер цікавіць не гэта. Відавочна, тут многае залежыць ад трываласці мясцовых традыцый. І калі Капыльшчына, Уздзеншчына ці Случчына могуць пахваліцца арыфметычнай перавагай свайго ўкладу ў літаратуру, то гэта, зразумела, не таму, што там нейкія асаблівыя ўмовы для росквіту талентаў. Проста магнітнае поле ўздзеяння старэйшых таварышаў выяўляецца там з большай відавочнасцю. Я глыбока перакананы, што кожная вобласць і нават буйнейшыя раёны могуць мець жыццяздольныя літаб'яднанні, калі ім даць неабходную базу. Што пад гэтым трэба разумець? Магчымасць шырока і рэгулярна друкавацца. І — што таксама важна — мець кваліфікаваную крытыку сваёй творчасці.

Усіх нас шчыра радуе, што з кожным годам усё больш таленавітых людзей уліваецца ў рэчышча літаратуры. З году ў год павялічваецца выпуск першых кніг. Усе гэта не можа не задавальняць. Але не трэба выпускаць з-пад увагі адну акалічнасць: за пасляваенныя гады Саюз пісьменнікаў вырас разоў у 10—15, а друкаваныя органы яго засталіся амаль тымі ж. Калі за гэты час адкрыўся часопіс «Маладосць», то адпаведна паменшыўся памер «Беларусі». Павялічыўся лістаж «Полымя», затое там цяпер больш шырока друкуюцца публіцыстычныя, крытычныя, мемуарныя матэрыялы, пераклады. Такім чынам, пачынаючыя аўтары не маюць магчымасці — прынамсі, большасць з іх — публікавацца ў пісьменніцкіх друкаваных органах. Зразумела, тут у першую чаргу многае залежыць ад якасці, але, нават прыняўшы за аснову гэты крытэрый, лёгка зразумець, што нават людзі аднолькавых здольнасцей вымушаны разыгрываць латарэю — месца не хапае. Атрымліваецца парадаксальнае становішча: з аднаго боку, мы вітаем прыток маладых даравання, з другога — мы не заўсёды можам даць ім магчымасць на пачатку творчага шляху выказацца ў поўны голас. Добра таму, у каго настойлівы характар, хто верыць у свае сілы і не спыняецца перад часовымі цяжкасцямі. Але ж большасць пачынаючых — людзі вельмі сціплыя, і абыякавыя адносіны да іх творчасці могуць спарадзіць няве'ра ў свае магчымасці, аслабіць крылы ў пачатку палёту. Не трэба забываць і таго, што не ўсе пачынаюць аднолькава. Кожны з нас можа прыгадаць моманты, калі таго ці іншага пачынаючага аўтара сустракалі ледзь не з аркестрамі, а пасля неяк непрыкметна ён сыходзіў са сцэны, саступаючы месца другому часоваму фаварыту.

Які ж выхад са становішча?

Ідэальным вырашэннем праблемы было б адкрыццё перыядычнага выдання накшталт «Поэзии», якое з поспехам ажыццяўляе выдавецтва «Молодая гвардия». Патрэба ў гэтым відавочная і яна даўно наспела. Нядрэнна было б стварыць штомесячную бібліятэчку пры «Маладосці», аб чым у свой час многа гаварылася. Але справа гэта вырашыцца не так проста і не так скора, а між тым маладой змене трэба друкавацца, развіваць і ўдасканальваць свае здольнасці. Натуральна, што гэту ношу ўзялі на свае плечы маладзёжныя, абласныя і раённыя газеты. Добра, калі такую справу ўзначальвае вопытны і аўтарытэтны паэт, як Аляксей Пысін у «Магілёўскай праўдзе». Ён заўважыў і падтрымаў такіх цікавых паэтаў, як Віктар Ракаў, Людміла Забалоцкая і многіх іншых, якія альбо выступілі ўжо з першымі сваімі кнігамі, альбо падрыхтавалі іх да друку. Тут рэгулярна друкуюцца літаратурныя старонкі, падборкі асобных аўтараў. Усё гэта, безумоўна, садзейнічае актывізацыі творчага жыцця вобласці. Нядаўна па ініцыятыве газеты арганізаваны абменныя старонкі з Бранскай і Смаленскай абласцямі, што заслугоўвае самай высокай ухвалы — пачынаючыя аўтары маюць магчымасць прадстаць перад чытачом не толькі беларускім, але і рускім. Відавочна, і ў іншых абласных газетах ёсць цікавыя і плённыя формы работы з маладымі аўтарамі.

Але самай масавай і самай даступнай трыбунай для тых, хто ўзяўся за пяро, застаецца раённая газета. Згадаем дарэчы, што на старонках клімавіцкай акруговай газеты ў свой час стартаваў дванаццацігадовы Алесь Дуда — будучы Аркадзь Куляшоў. І цяпер добра прыгледзеўшыся, мы можам заўважыць, што многія раённыя газеты з разумнай прадуманасцю прадстаўляюць свае старонкі сваім землякам. Пагартаўшы падшыўкі шклоўскага «Ударнага фронту», мы можам пераканацца, што там пачыналі свой творчы шлях Анатоль Сербантовіч, Яўген Крупенька, Віктар Ракаў, якія сёння вядомы шырокаму чытачу. Леанід Анціпенка — намеснік рэдактара і аўтар цікавых празаічных мініяцюр — клапатліва гуртуе вакол сябе здольную моладзь, не скупіцца даць месца лепшым творам на старонках газеты. Усё гэта прыносіць свой плён —рэгулярна друкуюцца літаратурныя старонкі, падборкі асобных аўтараў і г. д.

Многа і плённа працуе з пачынаючымі аўтарамі аршанская газета «Ленінскі прызыў». Узначальвае аб'яднанне Мікола Воранаў, вядомы чытачу па выступленнях у рэспубліканскім друку з вершамі, нарысамі і апавяданнямі. З'яўляючыся штатным работнікам рэдакцыі, ён мае магчымасць падтрымліваць цесныя кантакты з пачынаючымі паэтамі і празаікамі, даваць ім парады і кансультацыі. Але не меншае значэнне мае для іх прыклад старэйшых таварышаў. Дастаткова сказаць, што на Аршаншчыне, у Ляўках, Янка Купала стварыў свой славуты цыкл аб новай калгаснай вёсцы, аб разняволеным чалавеку, які адчуў сябе сапраўдным гаспадаром свайго лёсу пры Савецкай уладзе. Не забываюць аршанцы і таго, што тут пачаў сваю творчую дзейнасць вядомы байкапісец Уладзімір Корбан, што многія апавяданні Яўгена Васілёнка навеяны назіраннямі над жыццём і працай аршанскіх чыгуначнікаў. Не можа іх не радаваць і тое, што такі рознабаковы паэт, як Іван Сіпакоў, самыя запаветныя радкі прысвячае легендам і людзям свайго краю, аб чым, у прыватнасці, сведчыць нарыс «Акно, расчыненае ў зіму», напісаны з сапраўдным паэтычным уздымам. Песняром Аршаншчыны называюць Уладзіміра Караткевіча. Дастаткова згадаць многія старонкі «Каласоў пад сярпом тваім», паэму «Слова пра чалавечнасць», «Партызанскую баладу» і шматлікія вершы, каб пераканацца, што паэт з сапраўдным размахам увасабляе ў сваіх творах гераічную гісторыю роднага краю, дае маштабныя карціны народнай барацьбы за сваю лепшую долю. Яго прыдняпроўскія пейзажы, поўныя водару і святла, перад намі сапраўды адкрываюць прастор «між Дняпром і крыкам жураўліным». Усё гэта не можа не натхняць яго землякоў, якія намерыліся прысвяціць сваё жыццё літаратуры. А калі ўлічыць, што подзвігі аршанцаў-заслонаўцаў у мінулую вайну набылі сапраўды сусветную вядомасць, што аршанскія ткачыхі славяцца ва ўсёй краіне, стане зразумелым, што маладым празаікам і паэтам ёсць пра што пісаць. Тут дарэчы прывесці такі факт. У Ленінградзе ёсць вуліца і школа імя Заслонава. І кожны год лепшыя піянеры гэтай школы прыязджаюць на Аршаншчыну ў піянерскія лагеры, каб разам прайсці па месцах партызанскай славы. Зразумела, што ўсё гэта само міжволі просіцца ў паэтычныя радкі.

І вельмі добра, што члены літаб'яднання пры «Ленінскім прызыве» пазбягаюць абстрактнасці і рыторыкі, пішуць пра тое, што ім блізка і добра знаёма. Зразумела, што ім яшчэ многа трэба вучыцца і працаваць над удасканальваннем свайго майстэрства, але важна падкрэсліць плённую тэндэнцыю. Запамінаюцца вершы «На таку»—Івана Шыхаўцова, «Вечар» — Надзеі Кажамякінай, «Слова» і «Я помню»—Георгія Лісоўскага, «Думы»—Міхася Гусціновіча, «Родная Аршаншчына»—Алеся Махнача, «На сцяг пунсовы» — Валянціны Пчолкі і некаторыя іншыя. Пажадаем ім нястомных поспехаў і плённых удач.

Алесь МАРКАЎ

## НА ПАСЕЦЫ

Звон звініц
Працяглы над зямлёю,
Быццам струны
Хтось крануў рукой.

Цёмна-шэрай
Хмаркай над вярбою
Кружыць
Малады пчаліны рой.

А як восень
Яркай пазалотай
Афарбуе
Далячынь кругом,

Быццам медзь
Расплаўленая, з сотаў
Хлыне мёд
Духмяным ручаём.

## Паэтычная паверка

Раман ТАРМОЛА



# ЛІСТАПАД, ЛІСТАПАД...

●

Перш, чым пачаць,
я раіўся з калегамі,
З самім сабою
і з дваццатым векам:
Ці маю права я пісаць элегіі,
Самоту наганяць на чалавека?

Сябры ў адказ пацiснулі плячыма,
Што азначала: «Як сказаць...
Магчыма...»
А век дваццаты падышоў
практычна:
«Пішы.., але з канцом
аптымістычным».

Парады ўсе уважыў я старанна,
Паклаўшы на душу сваю,
на сэрца.
Вядома,
ёсць і сум у закаханых,
Ды ён шчаслівым пачуццём
завецца.

●

Адгушкаліся нівы...
У лузе,
за стагамі,
Блукаў я, нібы жнівень,
З мокрымі нагамі.

На поўдзень і на поўнач—
Усё наўкол абшарыў.
А ты шаптала побач:
«Я чым табе не пара?»

Абодва без прытулку,
Жывём яшчэ ўсё летам.
Прайдзі па лесе гулкім,
Сасонку стрэнь,
як гэта...»

І я пайшоў на голас,
На кліч твой несціханы.
Паклаў на рукі голаў,
Пачуўшы: «Мой каханы...»

Забыўся на вандроўкі,
На свой нядаўні пошук.
Хада—твае ўсё крокі.
Вятры—сукенкі пошум.

Ды раз пытае сэрца:
«Скажы адно адкрыта,
Ты радасны?»
Здаецца...
«Шчаслівы ты?»
Нібыта...

●

Лістапад зацягнуўся,
Лісцем сонца асенняе засціць.
Па начах нават зоркі
Кляновай блішчаць пецярнёй.
Быццам снежныя зімы,
Пануе лісцвяная восень—
Не прайсці, не праехаць
Па гэтай шыкоўнай красе.
Памякчэлі характары,
Крокі людзей памякчэлі.
Кожны просіць, здаецца:
«Цішэй вы ступайце, цішэй,
Не выказвайце радасць,
Не хваліцеся гучным голасам,
Можа як уцалее
На дрэве апошні ліст...»

●

Пытаешся, ці мару?
Як жа, мару,
Штодзённа адпраўляюся ў палёт.
То марай прагаю хмары з твару,
То наганяю больш—наадварот.

Часамі у сабе будую замкі,
Часамі як дзіцяці—і дарма
Мне хочацца да таткі і да мамкі,
А іх ужо няма,
даўно няма...

Часамі не ахвота апускацца
На шумную і тлумную зямлю,
Зусім, як у гадоў якіх пятнаццаць,
О, я такія моманты лаўлю.

●

Дотык вуснаў тваіх,
Нібы дотык лістка кляновага..,
Ён, падхоплены ветрам
пранізлівым,
Столькі зведаў і рук, і шчок.
Ды ніхто яго не сагрэў,
І ніхто яго не разгладзіў.
Проста міма ляцеў
І часам
дакранаўся ён да людзей.
Вельмі хутка той ліст зняверыўся.
А таму зусім не заўважыў,
Як дзяўчынка з чырвоным бантам
Цэлы дзень імчала за ім.
Спатыкалася, часта падала,
Зноў наперад рукі працягвала,
І чырвоны бант на галоўцы
Развязваўся за ёй сцяжком...
А кляновы ліст уцякаў,
Мімаходам людзей кранаючы,
І дзяўчынка ў знямозе спынілася,
Слёзы ўпалі на дол расой...
...Дотык вуснаў тваіх,
Нібы дотык лістка кляновага.
Не хачу, не хачу я, каб ты
Уцякаў ад мяне, як той ліст...

●

Ты і ў жыццё, відаць, без шуму
Прыйшла,
як зараз у пакой?
Праходзь.
Сядай.
Дзень добры, Шура,
Мне так патрэбен твой спакой,

Твае асмужаныя губы
І вечны позірк спадлыба.
Падкінь усмешку дзеля дружбы,
І трошкі голасу прыбаў.

Пра педагогіку больш годзе.
А я пра вершы—так і быць.
Лепш па якой, скажы, методзе
І ненавідзець,
і любіць.

Ды не глядзі так...
Май жа літасць...
Павер, благога тут няма.
Мяне штурхае на адкрытасць
Тваё хлапечае імя.

Паведаць некаму павінен
Цяжкія думы я... Прашу...
Асенні дождж, як пілавінне,
Маркоту сее на душу...

А твой прыход, магчыма, лекі
Альбо гаючая трава.
Не цэлы свет,
а чалавека
Ты можаш сёння ўратаваць

Ад нечаканае самоты,
Што ходзіць следам—проста жах.
Дык не адкладваць жа на потым
Размову гэту па душах.

---

З ВЫСТАЎКІ, ПРЫСВЕЧАНАЙ 50-ГОДДЗЮ ЛКСМ БЕЛАРУСІ



Л. ШЧЭМЕЛЕЎ. Студэнты.



Б. АРАКЧЭЕЎ. Гарачая пара.

# КОЛА НЕЗАЦІКАЎЛЕНАСЦІ

Усё пачалося з таго, што ў рукі мне трапіў вельмі прыгожы рэкламны праспект. Праспект быў добра ілюстраваны, каляровы, надрукаваны на мелаванай паперы. Чорным па белым, вялізнымі літарамі ў ім было напісана: «Альбомы 1969-га года». І ніжэй не так буйна: «Паважаны чытач! Гэтыя альбомы вы можаце набыць ва ўсіх магазінах Белкнігагандлю альбо заказаць па пошце...»

Я раскрыў праспект — рэкламуюцца «Гравюры Францыска Скарыны», «Старажытныя скарбы Беларусі», «Беларускія мастакі XIX стагоддзя», «Беларуская савецкая скульптура», «Мастак і кніга», манаграфіі «К. Касмачоў», «У. Масленікаў»...

Набраў нумар тэлефона Мінскага аблкнігагандлю:

— Калі ласка, я хацеў бы даведацца, дзе можна купіць альбомы па мастацтве, якія выпусціла выдавецтва «Беларусь» у 1969 годзе?

— Пра гэтыя альбомы нам пакуль што нічога не вядома. Але паспрабуйце пазваніць у цэнтральную кнігарню, можа там ведаюць.

Званю.

— Гэтыя альбомы да нас не паступалі. Ды і, увогуле, па нашых звестках яны яшчэ не выходзілі ў свет!..

Зноў адкрываю праспект — чорным па белым: «Можаце набыць...»

Відаць, трэба ісці ў выдавецтва, даведацца, што здарылася.

Загадчык рэдакцыі выяўленчай прадукцыі выдавецтва «Беларусь» Сцяпан Аляксеевіч Нортман сустрэў мяне прыязна:

— З гэтымі альбомамі проста бяда, — развёў ён рукамі. — Так, у кнігарні вам далі дакладныя звесткі, яны яшчэ не выйшлі. І ў бліжэйшы час, відаць, не выйдуць. Чаму? Гэта, разумееце, справа складаная... Канечне, ёсць у гэтым і наша віна. Але... Вы былі ў кнігагандляроў?

— Пакуль не.

— А вы зайдзіце, пацікаўцеся, як яны збіраюць тыраж на гэтыя выданні, як яны іх прапагандуюць. Вось я вам пакажу лічбы. «Беларускія мастакі XIX стагоддзя»— запланавана 5 тысяч, а заказы ў нас толькі на 3 400, «Беларуская савецкая скульптура» — паводле плана 5 тысяч, а заказаў на 1 100, «Старажытныя скарбы» — планавалі 20 тысяч, а заказана 4 900... Тая ж гісторыя і з «Гравюрамі Скарыны», і з манаграфіямі пра Касмачова, Масленікава. У такіх умовах выпускаць у свет гэтыя альбомы, зразумела, нельга. Мы ж у трубу вылецім...

— Прабачце, а колькі часу гэтыя рукапісы знаходзяцца ў вас у рэдакцыі?..

— Доўга. Некалькі гадоў.

— А колькі за апошні час вы выдалі кніг па мастацтве?

— Ніводнай...

— І ўсё па віне гандлюючых устаноў?

— Ільвіная доля віны— іх...

Іду ў рэспубліканскае ўпраўленне кнігагандлю.

— Дзіўныя рэчы гаворыць вам Нортман, — усміхнуўся намеснік старшыні ўпраўлення Яўген Пятровіч Леўшуноў. — Па-першае, лічбы, якія ён вам даў, не зусім дакладныя. Давайце зазірнём у нашу картатэку. Вось бачыце: «Беларускія мастакі XIX стагоддзя» — мы заказалі 2 900, «К. Касмачоў» — 2 тысячы. «Старажытныя скарбы» — тры тысячы, а вы ж улічыце, што, акрамя нас, у Беларусі гандлююць кнігамі «Белспажыўсаюз», «Саюздрук», «Ваенкніга»—так што, відаць, лічбы, што далі вам у выдавецтве, крыху заніжаны. Акрамя таго, і гэта галоўнае, павінен вам сказаць, што даваць гэтыя лічбы яны ўвогуле не павінны былі. Бо названыя выданні нават не разглядаліся на тыражнай камісіі, значыць, тыраж на іх мы не збіралі. Кнігі гэтыя аўтаматычна пераносяцца з аднаго гадавога плана ў другі і ўсё таму, што выдавецтва ніяк не можа іх падрыхтаваць да друку.

Кола замкнулася. Гандлюючыя арганізацыі лічаць, што ва ўсім вінавата выдавецтва, выдавецтва «валіць» на гандлюючыя арганізацыі, а цікавыя, вельмі патрэбныя выданні каторы год ляжаць без руху.

Відаць, маюць рацыю як адны, так і другія. Відаць, выдавецтва слушна наракае на дрэнную прапаганду ў кнігагандлюючых установах выданняў па беларускім выяўленчым мастацтве.

Але і прадстаўнікі «Белкнігагандлю» слушна гавораць пра тое, што выяўленчай прадукцыі выдавецтва «Беларусь» бракуе якасці, паліграфічнай культуры, літаратурнага густу. Тым больш, што з'явіліся зараз у нас у краіне выдавецтвы, якія паказваюць прыклад таго, як трэба выпускаць такія кнігі. (Я маю на ўвазе маскоўскія выдавецтвы «Аўрора» і «Планета»...)

За апошнія гадоў пяць беларускія выдавецтвы выпусцілі лічаныя творы па беларускім выяўленчым мастацтве, тэатры, архітэктуры, музыцы, харэаграфіі. Рукапісы такіх выданняў гадамі ляжаць у выдавецкіх партфелях, а тыя, хто адказвае за іх выхад у свет, варожаць на кафейнай гушчы, ці будуць яны карыстацца попытам.

А між тым, дастаткова было б пацікавіцца вопытам братніх рэспублік Прыбалтыкі, Украіны, Малдавіі, дзе такія выданні карыстаюцца вялікай папулярнасцю і даюць значны даход.

І яшчэ... Ці ж можа адна рэдакцыя выдавецтва «Беларусь» рыхтаваць і сур'ёзныя манаграфіі, і альбомы, і папулярныя нарысы пра беларускіх мастакоў, і гістарычныя даследаванні і ў той жа час займацца выпускам усялякага выяўленчага шырпатрэбу, накшталт паштовак, фотаальбомаў, рэкламных праспектаў, плакатаў, нагляднай агітацыі, нават— запрашальных білетаў?..

Відаць, наспела пара падумаць аб стварэнні асобнага, спецыялізаванага выдавецтва, якое б займалася выпускам толькі сур'ёзнай мастацкай прадукцыі, мела адпаведнае абсталяванне, падрыхтаваныя кадры.

А. БЕЛАВУСАЎ.

 СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# ЗБІРАЛЬНІКІ ЖЫВОГА ЛЕТАПІСУ

ГАВОРАЧЫ аб песенным багацці ўкраінцаў, М. В. Гогаль пісаў: «Гэта народная гісторыя, жывая, яркая, поўная фарбаў, праўды; яна агаляе ўсё жыццё... Народныя песні — надмагільны помнік мінулага, больш чым надмагільны: камень з красамоўным рэльефам, з гістарычным надпісам — нішто супроць гэтага вечна жывога, нямоўчнага летапісу мінуўшчыны...»

Для нас, беларусаў, гэтым вечна жывым, нямоўчным летапісам мінуўшчыны з'яўляюцца беларускія народныя песні. У той час, калі яшчэ нават не распачыналася вывучэнне беларусаў як асобнай этнічнай адзінкі, беларускі народ сваёй непаўторнай песняй голасна заявіў свету аб сабе, аб сваёй «племянной» адметнасці. І перадавыя прадстаўнікі польскай культуры, ураджэнцы Беларусі З. Даленга-Хадакоўскі, Я. Чачот, Я. Баршчэўскі, Р. Зянькевіч, А. Міцкевіч, Л. Кандратовіч (У. Сыракомля) і іншыя пачулі гэты выразны, самабытны голас. Многія з іх, зацікавіўшыся беларускай народнай песняй, прысвяцілі яе збіранню і даследаванню ўсё жыццё. Гэтым самым яны зрабілі першы крок у «адкрыцці» цэлага народа з яго цікавай і самабытнай культурай, з яго багатай гісторыяй.

Збіранне і даследаванне песеннага багацця беларусаў мае сваю гісторыю. Але да апошняга часу мы не мелі сістэматызаванага аналізу гэтай гісторыі, правільнай ацэнкі дзейнасці беларускіх фалькларыстаў, пачынаючы ад З. Даленгі-Хадакоўскага і канчаючы фалькларыстамі сённяшніх дзён. Гэты прабел у значнай ступені запаўняе кніга Н. Гілевіча «З клопатам пра песні народа».

Штуршок да вывучэння беларускай народнасці дало далучэнне Беларусі да Расіі ў канцы XVIII стагоддзя. «Іменна з гэтага часу, — зазначае даследчык, — Беларусь пачынае абуджацца патроху да самастойнага гістарычнага жыцця, выходзіць паступова са стану таго нацыянальнага анабіёзу, у якім яна знаходзілася на працягу двух апошніх стагоддзяў пад уладай польскіх каралёў і феадалаў».

У кнізе з сучасных, марксісцка-ленінскіх пазіцый характарызуецца дзейнасць як выдатных, так і малавядомых беларускіх фалькларыстаў у самыя розныя перыяды гісторыі Беларусі, раскрываюцца іх погляды на этнагенез беларусаў, іх адносіны да нашай песеннай спадчыны.

Дзейнасць першых фалькларыстаў Беларусі насіла больш аматарскі, выпадковы характар. Але запісы імі народных песень для нас асабліва каштоўныя, бо яны даюць нам магчымасць зазірнуць у душу народа найбольш аддаленых часоў. Іменна з гэтага пункту гледжання ацэньваецца, напрыклад, спадчына Ігната Шыдлоўскага, які апублікаваў цікавую працу «Вясельныя абрады вясковага люду ў Гаенскай парафіі Барысаўскага павета Мінскай губерні». Мы можам сёння, гаворыць даследчык, палюбавацца на цудоўныя ўзоры беларускай абрадавай лірыкі васемнаццатага стагоддзя... парадавацца нацыянальнай самабытнасці, дасканаласці і харастве мовы, якая гучала ў вуснах беларускіх жанок амаль дзвесце гадоў назад».

У кнізе характарызуецца збіральніцкая і навуковая дзейнасць пачынальнікаў беларускай фалькларыстыкі Яна Чачота, Яна Баршчэўскага, Яўстахія Тышкевіча, Рамуальда Зянькевіча, Аляксандра Рыпінскага, Паўла Шпілеўскага. Нягледзячы на тое, што погляды многіх з іх на этнагенез беларусаў былі памылковымі, аб'ектыўна іх дзейнасць мела вялікую каштоўнасць для навукі. А. Рыпінскі, напрыклад, не прызнаваў за беларускім народам права на ўласнае гістарычнае развіццё. Але разам з тым у сваёй кнізе «Беларусь», якая выйшла ў Парыжы ў 1840 годзе, ён змяшчае шмат беларускіх народных песень, якія гавораць аб самабытнасці, адметнасці быту і культуры беларускага народа. Сярод запісаў А. Рыпінскага сустракаюцца сапраўдныя перлы беларускай народнай паэзіі часоў прыгоннага права. Н. Гілевіч прыводзіць некаторыя з іх у якасці ілюстрацыі.

Нельга не падзівіцца іх харастве, дасціпнасці, багаццю мовы. Цяжка ўстрымацца, каб не прывесці і нам услед за аўтарам адну з гэтых песень.

Мужык сеяў ячмень — жонка кажэць: грэчка!
Нехай, няхай, няхай, няхай, няхай будзіць грэчка!
Не моў жа мне ні славечка —
Няхай будзіць грэчка!
Да ўжо ячмень і ўзышоў — жонка кажэць: грэчка!
Няхай, няхай, няхай, няхай, няхай будзіць грэчка!
Не моў жа мне ні славечка —
Няхай будзіць грэчка!
Да ўжо ячмень пара жаць — жонка кажэць: грэчка!
Да ўжо мужык ячмень зжаў — жонка кажэць: грэчка!
Мужык асець насадзіў — жонка кажэць: грэчка!
Мужык піва наварыў — жонка кажэць: грэчка!
Яны й піва выпілі — жонка кажэць: грэчка!
Няхай, няхай, няхай, няхай, няхай будзіць грэчка!
Не моў жа мне ні славечка —
Няхай будзіць грэчка!

Такія песні нельга забываць. Думаецца, выкананне іх на сцэне магло б і сёння мець немалы поспех у слухачоў.

Як вядома, у сярэдзіне XIX стагоддзя, асабліва пасля паўстання Кастуся Каліноўскага, этнаграфічнае вывучэнне Беларусі набыло асабліва шырокі размах. Калі да гэтага часу даследаваннем быту беларусаў займаліся пераважна польскія вучоныя, то цяпер да іх далучыліся рускія этнографы і фалькларысты. Тут была свая прычына. Царскі ўрад, каб выцесніць польскі ўплыў на тэрыторыі Беларусі, імкнуўся пры дапамозе навукі абгрунтаваць сваю палітыку русіфікацыі беларусаў. Казённыя этнографы і фалькларысты, дагаджаючы ўладам, фальсіфікавалі гісторыю беларускага народа. «Навука ў значнай меры адступіла на задні план перад палітыкай, перад магутным націскам «властей предержащих»,—зазначае Н. Гілевіч. — Адбітак казённага, службовага старання лёг на многія фальклорныя выданні гэтай пары».

Аўтар кнігі імкнецца расхінуць тыя «палітычныя шоры», якія перашкаджалі аб'ектыўнаму вывучэнню Беларусі, паказаць, што з публікацый той пары можа служыць нашай сённяшняй навуцы.

Усебаковая ацэнка ў кнізе дадзена выдатным беларускім фалькларыстам і этнографам апошняй трэці мінулага стагоддзя М. Нікіфароўскаму, Е. Раманаву, У. Дабравольскаму, М. Янчуку, М. Доўнар-Запольскаму, А. Багдановічу. Іх дзейнасць, зазначае даследчык, істотна адрознівалася ад дзейнасці папярэднікаў перш за ўсё тым, што яны, хоць і ў рознай ступені, разумелі ўжо, дзецьмі якога народа з'ўляюцца, якому народу служаць.

Асобны раздзел кнігі прысвечаны развіццю беларускай фалькларыстыкі ў савецкі перыяд, калі даследаванне і збіранне вуснай паэтычнай творчасці народа было пастаўлена сапраўды на дзяржаўныя рэйкі. Ва ўсіх кутках Беларусі разгарнулі сваю дзейнасць шматлікія краязнаўчыя арганізацыі. Кіруючым цэнтрам іх было Цэнтральнае бюро краязнаўства, якое мела свой друкаваны орган-часопіс «Наш край». За невялікі час была сабрана агромністая колькасць фальклорных і этнаграфічных матэрыялаў, якія з'яўляюцца велізарным культурным набыткам нашага народа.

Даследаванне Н. Гілевіча — добры дапаможнік для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй нашай культуры, даследуе і збірае каштоўнейшы скарб народа — яго вусна-паэтычную творчасць. Разам з тым у кнізе ёсць і пэўныя недахопы. Праўда, аўтар agaворваецца, што яго нарыс не прэтэндуе на паўнату і ўсебаковасць. І ўсё ж хацелася б атрымаць больш поўную карціну гісторыі збірання і даследавання нашай песні. Нічога, напрыклад, не сказана пра збіранне і даследаванне беларускага фальклору славутым рускім вучоным-філолагам А. А. Шахматавым, які на тэрыторыі былой Мінскай губерні запісаў каля пяцідзесяці песень. Вядома таксама, што даследаваннем беларускай песні займаўся выдатны польска-беларускі паэт XIX стагоддзя Людовік Кандратовіч (У. Сыракомля), які апублікаваў артыкул пра народную песню Міншчыны. Пра яго ў кнізе сказана таксама недастаткова.

К. ЦВІРКА.

Н. Гілевіч. «З клопатам пра песні народа». Выдавецтва БДУ імя Леніна, Мінск, 1970.

# ПРА ЛЮДЗЕЙ, ПРА ЖЫЦЦЁ...

ЖЫЦЦЁ Уляны, галоўнай гераіні аповесці «Спелыя травы», адной з дзвюх аповесцяў, якія склалі кнігу У. Паўлава «Годы нашы—птушкі», скалечыла вайна. Вучыцца Уля далей не змагла. Абмінула яе і сямейнае шчасце.

Нямала гора прынесла вайна і Мар'і, галоўнай гераіні аповесці «Яжэліха». Жонка старшыні калгаса, яна адна з чатырма дзецьмі перажывае акупацыю.

У кнізе «Годы нашы—птушкі» многа праўды аб жыцці беларускага сялянства ва ўмовах фашысцкай акупацыі. У кнізе нямала праўдзівых, іншы раз нават да жорсткасці рэалістычных карцін з жыцця нашай вёскі ў першыя гады пасля перамогі ў Айчыннай вайне (сцэна, як садзілі бульбу—(«Спелыя травы»), сцэна канфіскацыі Патапавай адрыны—(«Яжэліха») і інш.). Больш таго, па-свойму цікава паказаны тут некаторыя асаблівасці побыту нават нашай даваеннай вёскі («Спелыя травы»). Тым не менш Паўлаў—не «цягучы» бытапісальнік. Яго аповесці—творы праблемныя, са значнай філасофскай думкай. І вартасць іх перш за ўсё ў гэтым.

На парозе сваёй сталасці Улі Сямашка здалося, што яна зразумела сэнс жыцця, «сэнс і сутнасць усяго жывога: белых стаўбуноў чаромхі пад вакном і вёрткай мурашкі на ствале дрэва». Аднак ёй так толькі здалося. На самай справе дзяўчына тады не ведала, што такое жыццё. Уля тады была толькі вучаніцай. Ёй падабаўся Раман Раманавіч. Яе ўвагі дабіваўся Пашка. За яе пабіўся Федзя Мукавозчык. Любілі і шанавалі бацькі. Яна жыла тады вірлівым жыццём бесклапотнага падлетка: школа, кнігі, мастацкая самадзейнасць. Не дзіўна, што і вайна ёй здалася як нейкая займальная ды лёгкая прыгода. Варта было толькі,—думалася Улі,—злавіць «самага галоўнага гітлераўскага шпіёна. Зловяць і вайна скончыцца». Летуценні, мроі. На самай справе жыццё аказалася складанейшым. Немцы нечакана дайшлі да Масквы. У першыя ж дні вайны загінуў рамантык Пашка. Сімпатычны Раман Раманавіч стаў здраднікам. Федзя Мукавозчык ажаніўся на дзяўчыне, якую ніколі не кахаў. Пастралялі дзяцей яе любімага дзядзькі Атаманавіча. Пагроза быць вывезенай у Германію. Апечаныя рукі. Смерць маці. Спачатку Уля амаль не разбіраецца ў падзеях, залішне давярае людзям. Толькі з цягам часу пачынае разумець, напрыклад, як моцна кахаў яе Пашка, што толькі ён мог стаць сапраўдным сябрам на ўсё жыццё.

Мар'я таксама перанесла ўсе цяжкасці фашысцкай акупацыі. Вядома, яны і ёй прычынілі нямала гора. Але зламаць не зламалі. І пасля вайны, і нават пасля смерці мужа Мар'я астаецца духоўна моцным чалавекам.

Асноўная думка аповесці «Яжэліха».—сцвердзіць бясконцасць чалавечых пошукаў, у канкрэтным пераламленні—у змаганні чалавека за сябе, за сваю бацькаўшчыну, за свой народ, за перадавыя гуманістычныя чалавечыя ідэі. Мар'я—з роду шукальнікаў, у аснове паводзін якіх цвёрдыя жыццёвыя прынцыпы. Яна знае, што ёй трэба.

Людзі ў Паўлава—жывыя, пераканаўчыя, хаця іншы раз і здаюцца недапісанымі: часта падаюцца адным-двума мазкамі. Наогул, манера яго пісьма—падкрэслена скупая. Затое сказ пругкі, ёмісты. Скажа, напрыклад, пісьменнік: «У іх дрыготкім святле (маецца на ўвазе святло белых ракет—**І. Ч.**) туман расплыўся, як кропля малака ў чыстай вадзе»—і перад намі цэлая карціна. І яшчэ—метафарычнасць мовы. Многае тут у Паўлава, бадай, ад паэтычнай практыкі.

Ці ёсць у кнізе «Годы нашы — птушкі» недахопы? Ёсць. Пярэчанні перш за ўсё выклікае аднолькавасць пабудовы твораў. Да таго ж ахопліваюць аповесці прыблізна той жа перыяд у жыцці народа. Адсюль—пэўная аднастайнасць і як бы паўтарэнні. У кнізе іншы раз адчуваецца пэўная скаванасць, ненатуральнасць. Ды і ў адчуванні слова аўтар, здараецца, не заўсёды дакладны.

Пра кнігу «Годы нашы — птушкі» хочацца сказаць, што напісана яна менавіта пра людзей, пра жыццё, якое пісьменнік добра ведае. Недахопы аповесцяў істотным чынам не мяняюць агульнай ацэнкі кнігі. Галоўнае ў пісьменніка ёсць: свой погляд на свет і арыгінальны талент.

І. ЧЫГРЫН.

У. Паўлаў. «Годы нашы — птушкі». Выдавецтва «Беларусь». Мінск. 1970.

# ДАЛУЧЭННЕ ДА ПРЫГАЖОСЦІ

Пра першыя дзіцячыя знаходкі-адкрыцці, эмацыянальныя кантакты са светам вельмі добра расказана ў невялікай кніжцы вершаў Еўдакіі Лось «Зайчык-выхваляйчык».

Паэтэса быццам запрашае дзяцей: паглядзіце навокал і вы даведаецеся, што побач з вамі жывая рэчка, жывая шыпшына, жывая яблыня. Але ж для таго, каб нешта адкрыць, трэба быць дапытлівым, актыўным, смялей знаёміцца з навакольным. Вось лясная прыгажуня кветка. Можна прайсці раўнадушна каля яе, прайсці міма свайго, няхай пакуль што невялікага, адкрыцця. Еўдакія Лось тактоўна запрашае:

Закраніце,
Прыслухайцеся,—
Зазвініць!
(«Лясная кветка»).

У вершах паэтэсы, якая добра разумее спецыфіку дзіцячага светаўспрымання, няма нуднага «тлумачэння» ісціны—дзеці пазнаюць свет у гульні, у забавах. Дзяўчынка пытае:

—Бабуля, ці скора вясна?
—А вось жа, унучка, яна!
На снезе, які патанеў,
На лёдзе, які пасінеў,
На мосце, што раптам прыціх,
На шчоках ружовых тваіх!
(«Напрадвесні»).

Е. Лось далучае малых да прыгожага, вучыць іх назіральнасці. Унікаючы дыдактыкі, яна ўздзейнічае на пачуцці самой логікай расказу, даючы малым мажлівасць дайсці да галоўнага самім. (Вершы «Пра ката і мышку», «Што жывое?»).

Выклікаюць добрую ўсмешку вершы «Дзяды», «Кураквактуха», «Гусі», «Пасылка». Вось пачатак мініяцюры пра няўдалых рыбакоў:

Неслі дрыжыкі з ракі
два заўзятых рыбакі.
(«Рыбакі»).

Паэтэса ўмее гаварыць з малымі займальна, а там-сям нават па-дзіцячы загадкава. У вершы «Уцякач», напрыклад, не сказана, каго ж прынесла ў хату маленькая Жэня, каб напаіць малаком, але, прачытаўшы твор, няцяжка здагадацца:

Быстраход
надзвычай колкі,
не звярок—адны іголкі!

Увага чытачоў не стамляецца, бо ў зборніку сустрэнеш і верш-загадку, і дасціпны дыялог, і верш-мініяцюру, і верш-жарт.

Праўда, надараецца, што Е. Лось не ўмее паставіць у час «фінальную кропку», траціць пачуццё меры і без патрэбы зацягвае расказ. У прыватнасці, няўдача напаткала паэтэсу ў вершы «Зайчык-выхваляйчык». Паэтэса расказала пра зайчыка, які выхваляўся, што можа пражыць без сонейка:

Сонца села за акном,
пацяплеў утульны дом.

Ці варта пасля гэтага было даваць груваткі каментарый:

Дзе ж падзеўся зайчык, дзе?
Не відаць яго нідзе,
Хоць люстэрка, як і днём,
На сцяне над дываном!

А ўвогуле новая кніжка Е. Лось—добры падарунак дашкольнікам.

Б. ЗУБОЎСКІ,
настаўнік.

Е. Лось. «Зайчык-выхваляйчык». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1970.

Супрацоўнікі Літаратурнага музея Якуба Коласа смуткуюць з прычыны смерці шчырага друга беларускай літаратуры рускага пісьменніка і перакладчыка П. С. Кабзарэўскага і выказваюць спачуванне яго сваякам і блізкім.

# «КУПАЛІНКА, КУПАЛІНКА...»

Прыйдзі к рэчцы у ноч на Івана Купалу,
Прынясі свае думкі, жаданні свае...

Пасля гэтых прачулых слоў вядучай канцэрта ўяўляеш, як над рэчкай клубіцца, распаўзаецца туман, ахутвае прырэчны ракітнік, алешнік...

Зноў прыйшоў жаданы вечар, ціхі і зарністы. Чаго ж такі сцішаны? Дзе хлопцы, дзяўчаты? Дзе гульні, забавы, пацешкі? А вунь яны, чэрці! З травы сплятаюць паясы і хвасты, рыхтуюць голле для вогнішча і ціха сабе спяваюць:

Ой, рана на Йвана,
Ой, рана на Йвана...
На Купалу ночка мала.
Ой, рана на Йвана...
Ой, на Купалу на Яна
Дзеўкі кветкі збіралі...

З'яўляюцца дзяўчаты, як русалкі, у ярків святочных уборах, з вянкамі любімых кветак.

Наперадзе вядучая дзявочага рэю — Купалінка. (У ёй нешта ад дзівоснай «Вішанькі», што чаравала летась сталічных гледачоў, і ад паэтычнай «Качачкі», што паланіла гэтаю вясною мінчан на заключным канцэрце рэспубліканскага конкурсу. Ды ў тых танцах былі іншыя салісткі. Яны сёння ў карагодзе. Між імі і «качачка» — швачка з атэлье «Алеся» Тамара Сазонава). Купалінка ж — Зіна Круковіч, студэнтка Магілёўскага хіміка-тэхналагічнага тэхнікума. Гэта яна выклікае пяшчотную мелодыю і светлыя згадкі:

Ты мне вясною прыснілася
Неразгаданымі чарамі.
Сэрца трывожна забілася
Вольнымі крыламі-марамі...

**Купалле!.. «Тут сабрана ўсё, — пісаў калісь вядомы фалькларыст П. Бяссонаў,—што толькі ёсць для беларускіх сялян самага святочнага, таямнічага, захапляючага, лікуючага і гуллівага на працягу цэлага лета...» Здавён на Купалле хлопцы і дзяўчаты прызнаваліся ў самых патаемных думках і пачуццях. На Купалле шукалі цудадзейную «кветку шчасця», спадзяваліся, верылі...**

**І хоць лепшыя казкі сталі ўжо явай, жыве ў народзе казачна-паэтычнае свята. Жыве латышскае Ліго, жыве беларускае Купалле.**

...Гучыць «Беларуская рапсодыя». Пачынаецца маляўнічы «Танок вянковы». Не, то не пераймание ў славутага Дзяржаўнага ансамбля танца БССР. І самадзейны, і дзяржаўны ансамблі ішлі ад жыватворных народных вытокаў. Таму і працяг тут іншы, чым у А. Апанасенкі.

Па роснай траве ідуць дзяўчаты да рэчкі і беражліва апускаюць вянкі на прыбярэжную люстраную роўнядзь: хай люляюць іх ціхія хвалі, хай збудуцца жаданні-спадзяванні... Вянкі пагойдваюцца на хвалях і плывуць у тумане, а з імі дзявочыя мары-мроі...

**Прыгадваецца маці.**

**— Не з простага голля, — казала яна, — палілі цяпельца на Купалле, а з маю, якім упрыгожвалі вуліцы і хаты. Не з васількоў, медуніц, незабудак вянкі завівалі. З купавы — кветкі цнатлівай, чыстай, кветкі русалкі. Шукалі і светлячкоў, што з'яўляюцца гэтай ноччу. Імі вянкі аздаблялі, на ціхія хвалі пускалі. Вянкі — аганькі... Так варажылі... — чамусьці ўздыхала маці. — Паплыве вянок — выйдзе дзеўка замуж. Патоне — застанецца векавухай. Выдумка, але прыгожая...**

...Хлопцы забягаюць наперад, перахопліваюць вянкі і ў рамантычным узнёслым палёце вяртаюцца да сваіх каханых, вяртаюць ім красу.

Успыхвае палымлівае вогнішча. Успыхваюць і твары светлай радасцю, бестурботнай гуллівасцю, гарэзлівасцю. Усе спяваюць:

Гары, гары ясна,
Каб жылося шчасна.
Каб жылося святлей,
Каб жылося весялей.

Разам з вогнішчам разгараюцца жарты, пацешкі, прыпеўкі, агністыя танцы. Хлопцы пабраліся за рукі, скачуць цераз вогнішча, некаторыя трапляюць у яго. Іскры, смех, рогат...

Потым разыходзяцца парамі — сваю кветку папараці шукаць. Не так кветку шукаць, як цалавацца-мілавацца, у самым патаемным прызнавацца.. А гэта ж і ёсць шчасце іхняе.

Купалінка застаецца. Чаго яна, такая самотна-журботная, туліцца да бярозкі? Вянок яе недзе патануў?..

І вось радасць! З'яўляецца любы. З яе вянком! Колькі шчасця на твары Яся — рабочага швейнай фабрыкі Юрыя Крукоўскага. Колькі цеплыні, пяшчоты ў гэтай сустрэчы!..

**...— А потым што было, мама?**

**— Вяселлі гулялі. Дый іншыя думкі займалі. Травы, карэнне купальняю ночкай збіралі. Маюць яны цудадзейную сілу. І прыкмячалі: зорная ночка — грыбоў будзе бочка, багата расы — гуркоў вазы...**

**Чаго толькі не робіць вясковая моладзь купальскай ноччу!**

**Помніцца, і мы, гарэзы, валілі пахілыя, трухлявыя платы і праслы, а потым гарадзілі. Не гарадзілі толькі тыя, што на вуліцу выпіралі, псавалі выгляд вёскі. У гародчыках, дзе не было ні кветачкі, ні дрэўца, адны грады, садзілі асінкі, дзядоўнік. Гаманы было надоўга.**

**На Магілёўшчыне расказвалі, як хлопцы раз купальнай ноччу камбайн падкацілі да калгаснай канторы з плакатам «Прашу падрамантаваць!», бо не гатовы быў да ўборкі.**

Але вернемся да канцэрта танцавальнага ансамбля Дома культуры Магілёўскай швейнай фабрыкі імя Валадарскага.

Льецца светлая мелодыя песні Юрыя Семянякі, і мы бачым, як

Летняя ночка купальная
Ясцай растаяла знічкаю.
Падаюць зоры світальныя
У чыстыя воды крынічныя.

Вось-вось на ўсходзе з'явіцца малінавае сонца, вырвецца з хмарак, расплывецца ва ўсмешцы. Па краях з'явяцца вясёлкі, яно, умытае расою, свежае, маладое, закружыцца, загуляе.

**Такое дзіва назіраў я штогод, з маленства, калі ўпершыню маці пабудзіла купальным досвіткам. Няма ўжо маці... Не разбудзіць пабачыць, як «гуляе сонейка». Не праспявае купалінак. Не пакажа, як абяцала, «бога маланкі» — колішні танец «Папараць»...**

...З узыходам сонца моладзь з папарацю зноў збіраецца ля рэчкі, наладжвае танцы, карагоды, падобныя то на «сонечную кветку» — сланечнік, то на «перуноў агняцвет» — папараць. І вось ужо льюцца вясёлыя мелодыі. Шырыцца, разліваецца бязмежная радасць. Гледачоў чаруе музычна-танцавальная стыхія.

Танцуе ансамбль Анатоля Іванова — ансамбль «Дружба»...



Фота А. БОРЧЫКА.

Удзельнікі ансамбля нядаўна вярнуліся з гастроляў у Балгарыі. Расказваюць, як даводзілася перапыняць праграму, каб пазбіраць са сцэны горы кветак, як у перапоўненых залах доўга гучалі воплескі і крыкі — «Дружба!», «Дружба!»

Слава цікавага самадзейнага беларускага ансамбля «Дружба» разыходзілася па Балгарыі, як кругі па вадзе. Аб ім з захапленнем расказвалі па радыё і ў газетах, на прадпрыемствах, ва ўстановах. Ухвалялі паэтычную паморскую легенду «Качачку», маляўнічы сібірскі танец з туяскамі, агністы рускі танец, «Далікатную кадрылю», якая вельмі да спадобы прыйшлася габраўцам і якую запрасілі на «Тыдзень смеху».

Але больш за ўсё чаравалі беларускія танцы, карагоды «Вішанька», «Дарунак», «Купалінкі» — лірычныя, арыгінальныя па форме, з дзівоснымі ўзорамі, з багатай гамай колераў і адценняў, поўных чароўнага хараства.

Як жа трэба любіць народны танец, каб так кранаць самыя патаемныя струны душы! Гэтая ўлюбёнасць ёсць і ў музычнага кіраўніка Міхаіла Старасціна, у дырыжора Генадзя Кошкіна і канцэртмайстраў Васіля Невядомскага і Уладзіміра Родава, ва ўсіх пяцідзесяці ўдзельнікаў ансамбля — рабочых і работніц, служачых і студэнтаў...

Натхнёныя, акрыленыя поспехам, удзельнікі ансамбля мараць аб новай праграме з адных беларускіх танцаў, карагодаў. У задуме «Беларускія калядкі», «Вясянкі» і іншыя лірычныя карагоды, якія яны так любяць і якія ім так удаюцца.

Хай жа збудуцца іх жаданні.

І. ІСАЧАНКА.

г. Магілёў.

---

СЕЗОН 1970—71

# ПЕРШАЯ АФІША АРКЕСТРА

Свой новы канцэртны сезон пачаў Дзяржаўны народны аркестр БССР пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР Іосіфа Жыновіча. Першая афіша была тым больш прывабнай, што выступленні гэтага аркестра ў Мінску не такія ўжо частыя.

На гэты раз новая канцэртная афіша паведаміла аб дзвюх прэм'ерах адразу. Я гавару так таму, што, на жаль, арыгінальны рэпертуар аркестра невялікі, і частыя размовы аб вялікім абавязку беларускіх кампазітараў перад гэтым нацыянальным калектывам актуальныя і цяпер.

Кім Цесакоў прадставіў на суд слухачоў «Мінскую сюіту». Кампактны твор у трох частках пакідае ўражанне прадуманай і з густам выкананай работы. Задума аўтара канкрэтызавана праграмай, і вобразная сутнасць яе, на мой погляд, раскрыта дастаткова пераканаўча. Сюіта змястоўная, маляўнічая і свежая па мове.

«Вечны агонь» — так назваў кампазітар першую частку. Музыка стрымана журботная, драматычная. Выразныя заклікальныя фразы баянаў — чарга харальных гармоній дысанантнага складу. Змрочная песня драўляных гучыць як харавое адпяванне на фоне жалобных гукаў звону.

Кароткі графічны па каларыстычным вырашэнні ўступ змяняецца лірычнай тэмай цымбалаў, якая выразна выказвае нарастаючую жалобу, душэўную пакуту. Кампазітар дабіваецца натуральнага зліцця нацыянальна-песеннага і чыста інструментальнага драматычнага тэматызму. Жалобны звон і велічны харал баянаў завяршаюць першую частку.

У другой частцы —«Ля дома паэта» — пераважае пяшчотная лірычная песня габоя. І тут прыцягваюць увагу ўдалыя спробы кампазітара перадаць нацыянальны характар вобраза з дапамогай пераасэнсаваных песенных інтанацый, паканічных і ёмістых аркестравых фарбаў. Мяркуючы па тым, як рэдка і з густам выкарыстаны тут цымбалы, кампазітар адчувае і цэніць іх характэрныя гука-тэмбравыя якасці. Шырока разліваючы напеў габоя, цымбалы завяршаюць гэту лірычную замалёўку ў акварэльна празрыстых тонах.

Святочная трэцяя частка — «Гімн гораду Мінску» — пабудавана на спалучэнні радасных воклічаў усяго аркестра з вясёлай танцавальнай музыкай драўляных і баянаў. У сярэднім раздзеле тканіна ўмела расквечана разнастайнымі нюансамі цымбальных гучанняў — ажурнымі падгалоскамі, трэлямі, глісанда.

Прыемнаму ўражанню пасля праслухоўвання сюіты нямала садзейнічае форма, якой нядрэнна валодае кампазітар. Аднак і тут, як мне здалося, не абышлося без страт —імкненне да кампактнасці выліваецца часам у празмерна спрошчаныя схематызаваныя пабудовы.

Супярэчлівыя думкі выклікала другая навінка канцэрта — літаратурна-музычная кампазіцыя «Цымбалы» Юрыя Семянякі па паэме Аркадзя Куляшова «Прыгоды цымбал».

Спроба кампазітара стварыць музычны акампанемент, выказаць уласныя адносіны да адной з вядомых паэм А. Куляшова і тым самым папулярызаваць вядомы мастацкі твор у новай сінтэтычнай форме не можа, зразумела, выклікаць пярэчанняў.

Зразумела, зварот да вялікай паэзіі абавязвае кампазітара шукаць мастацкі эквівалент у музыцы, якая не павінна дэфармаваць паэтычную думку. Кіраўнікамі і суддзямі яго ў гэтай складанай рабоце павінны быць адточаная творчая інтуіцыя, густ — усё, што вызначаецца словамі «сучасная прафесіянальная культура». У літаратурна-музычнай кампазіцыі «Цымбалы» такі эквівалент, на маю думку, не знойдзены. Паэма А. Куляшова была двойчы спрошчана — купюрамі пры літаратурнай апрацоўцы і музычным афармленнем.

Ю. Семяняка павярхоўна ілюструе некаторыя радкі паэмы. Небагатая, я б сказала, плоскасная музычная мова ў спалучэнні са схільнасцю да меладраматызму зрабіла проста немагчымым паглыбленне ў вобразны лад вершаў, у іх падтэкст. Так, гаворачы аб душэўных пакутах народа ў ліхую ваенную часіну, аб «глухім громе» растрывожаных фашыстамі жывых струн людскога сэрца, кампазітар даручыў аркестру прастадушную журботную песенную мелодыю і рэзка абарваў яе стукам ударных. Ёсць у гэтым нейкая няшчырасць. І такіх нячулых «адказаў» музыкі на паэтычную думку, на жаль, многа. Я не думаю, што гэта яўна няўдалая работа цікавага і здольнага кампазітара захаваецца ў рэпертуары народнага аркестра. Заадно не магу не выказаць здзіўлення— навошта спатрэбілася ў Мінску чытаць вершы А. Куляшова на рускай мове?

У канцэрце прагучалі пералажэнні сімфанічных партытур, выкананыя І. Жыновічам і В. Мнацаканавым. Гэта уверцюра да «Руслана і Людмілы» Глінкі, «Чароўнае возера» Лядава, і Канцэрт для дзвюх скрыпак з аркестрам Вівальдзі. Пералажэнні выкананы кваліфікавана і каларыстычна выразна.

Пра выдатнага выканаўцу Віргіліуса Нарэйку трэба пісаць асобна. Яго голас дзівосна спалучае ў сабе сілу і бляск драматычнага тэнара з мяккасцю і цеплынёй лірычнага. Пераканаўча, свежа і па-мастацку ярка выканаў В. Нарэйка «Скажыце, дзяўчаты» Фальво, «Плач Фрэдэрыка» Чыліа, «Світанне» Леанкавала. А як заззялі фарбы драматычнага таленту спевака ў вядомым «Расказе ямшчыка».

Дырыжор В. Мнацаканаў правёў канцэрт на добрым выканаўчым узроўні. Сям-там у акампанементах В. Нарэйку аркестру не хапала гнуткасці, а ў арыі Аўгінні А. Багатырова (выканаўца І. Адзінцова) інструментальная партыя часамі гучала перагружана.

Сустрэча з праслаўленым калектывам была цікавая. Хочацца спадзявацца, што, нарэшце, кампазітары шчодра адораць яго новымі самабытнымі творамі, у якіх ён мае вялікую патрэбу.

Т. ШЧАРБАКОВА.

Лідзія АРАБЕЙ

# СІНІ БОР



**Я закончыла працу над аповесцю «Сіні бор». У ёй расказваецца пра тое, як хлопчык Косцік выпадкова трапляе ў «партызанскі лагер», які пабудавалі ў лесе, каб здымаць фільм. Косціку ўсё тут дзіўна і цікава.**

**Прапаную ўвазе чытачоў раздзелы з аповесці.**

**АЎТАР.**

## НЕЧАКАНАЯ СУСТРЭЧА

Сонца кацілася да незнаёмага лесу. На дарозе стаяў незнаёмы масток і пад ім цякла незнаёмая рэчка. Пры дарозе ляжаў вялікі незнаёмы камень. Усё было незнаёмае—так далёка адышоўся ад дому Косцік. У яго балелі ногі і надта хацелася есці, але ён ішоў і ішоў, не хочучы спыніцца, яшчэ поўны крыўды за тое, што з ім так несправядліва абышліся.

«Дайду да таго лесу, а там адпачну і падсілкуюся»,—вырашыў нарэшце Косцік.

Лес быў не так і далёка, але блізка відаць, ды далёка дыбаць, як людзі кажуць. Надта марудна набліжаўся той лес да Косціка, быццам застыў на месцы, прыкіпеў. Косцік пашкадаваў ужо, што вырашыў дайсці да лесу, можна было б і тут, на полі, адпачыць, але як вырашыў, то ўжо вырашыў, мяняць свайго рашэння не будзе.

Нарэшце, вось і лес. Тоўстыя камлі хвой, зялёная трава, кусты арэшніку. Пахне грыбамі, шапацяць дрэвы, сонца плямкамі ляжыць на траве. А ягадніку колькі! Мабыць і суніцы ёсць!

Косцік сеў пад тоўстую хвою, выцягнуў ногі. Развязаў клуначак. Ах, з якім смакам ён зараз будзе есці хлеб з цыбуляю! Ён адкрыў рот, паднёс хлеб да рота, ужо намерыўся адкусіць, як, раптам,—зірк—чырвоная, сакавітая з-пад зялёнага ліста на яго глянула ягада. Суніца была буйная, цяжкая і аж празрыстая ад густога чырвонага соку. Косцік такой, здаецца, ніколі не бачыў. І ён пацягнуўся рукою да ягады. Не паспеў сарваць адну, як побач убачыў другую, а там і трэцюю.

Адламаўшы кавалак хлеба, а рэштку завязаўшы назад у клуначак і пачапіўшы клуначак сабе на руку, Косцік пачаў хадзіць па лесе, збіраць ягады і есці з хлебам. Ягады былі салодкія, пахучыя, аж раставалі ў роце! І колькі ж іх тут! Аж чырвона, аж баішся, каб, нагамі не патаптаць. Во якая палянка! А там яшчэ лепшая! А далей, здаецца, яшчэ лепшая за тую!

Косцік і не заўважыў, як адышоўся ад дарогі, а суніцы звалі, клікалі яго—далей, далей, глыбей, глыбей у лес...

І раптам... Што гэта? Косцік тут не адзін?.. Яшчэ нехта ходзіць па лесе?..

Першае, што прыйшло Косціку ў галаву—гэта нехта яго даганяе. Дома агледзеліся, што ён уцёк, дык цяпер даганяюць, зараз зловяць, і Косцік прыціснуўся да камля бярозы, схаваўся, слухаў, як трашчыць голле пад нагамі ў таго, хто ідзе па лесе. Потым не вытрываў, асцярожна зірнуў з-за камля. Зірнуў і як не абамлеў, як не зваліўся пад тую бярозу. Каб Косцік убачыў мядзведзя, каб Косцік убачыў зубра, ён бы не так здзівіўся, не так бы спалохаўся, як здзівіла і спалохала яго тое, што ён убачыў.

Па лесе ішоў, згінаўся, збіраў ягады і клаў сабе ў рот немец. Самы сапраўдны немец, у зялёнай форме, у пілотцы і з аўтаматам. Адкуль ён узяўся? Можа, застаўся ад вайны? Можа, жыве тут, у лесе? Можа які будан збудаваў і жыве тут, фрыц акаянны, фашыст?

Косціка аж закалаціла. Што рабіць? Закрычаць? Але хто тут пачуе—у глухім, чужым, незнаёмым лесе? Ды фашыст жа з аўтаматам, застрэліць Косціка! Але і пакінуць немца ў лесе Косцік не мог. Ён убачыў ворага, ён павінен выкрыць, павінен злавіць яго.

А немец збіраў ягады, клаў сабе ў рот і, здаецца, быў зусім спакойны, ён, здаецца, нават спяваў сабе нешта пад нос. Косцік затаіў дыханне. Так, немец спяваў, спяваў сваю нямецкую песню. Як жа яго дасюль не злавілі!

Раптам немец спыніўся, азірнуўся, быццам пачуў небяспеку, сарваў з пляча аўтамат, наставіў аўтамат перад сабою і як гаркне:

— Хэндэ хох!

Косцік падумаў, што гэта немец яго ўбачыў і яшчэ мацней прытуліўся да дрэва, заплюшчыў вочы, чакаючы стрэлу, але стрэлу не было і Косцік памаленьку зноў расплюшчыў вочы—спачатку адно, потым другое. Немец, здаецца, не бачыў Косціка, глядзеў у другі бок. Зірнуў туды і Косцік, каб паглядзець, у каго цэліўся немец, але і ў тым баку нікога не было. А немец зноў, другі раз, выставіў наперад аўтамат і зноў як гаркне:

— Хэндэ хох!

І трэці раз наставіў аўтамат, і трэці раз гаркнуў.

«Здурнеў немец, ашалеў, бадзяючыся па лесе, — падумаў Косцік.—Ну, пачакай жа, я цябе так не пакіну, ты ў мяне пастраляеш, хэндэ хох»!

Немец зноў закінуў аўтамат за плячо, зноў пайшоў, быццам нічога і не было, збіраючы ягады і кідаючы іх сабе ў рот. Косцік назіркам, назіркам—за ім. Ішоў асцярожна, каб не трэснуў сучок пад нагамі. Немца прапусціў наперад, здалёк сачыў за яго зялёным фрэнчам—куды немец, туды і ён. Ішоў за немцам і думаў, як ён зловіць яго, як здасць у сельсавет.

А немец усё глыбей забіраўся ў лес. Ён ужо не збіраў ягады, а шпарка ішоў, быццам некуды спяшаўся. І Косцік спяшаўся за ім. Надта баяўся Косцік, каб не згубіць немца.

— Ты ад мяне не ўцячэ-эш... Не схаваешся, фашысцюга, — шаптаў ён сам сабе.

І раптам:

— Бары-ыс!—данёсся аднекуль глухі голас.

— Ого-го!—заіржаў, адзываючыся, немец. Косцік ажно прысеў.

— Бары-ыс!—зноў паклікаў нехта з лесу.

— Ого-го!—зноў адазваўся фашыст.

Косцік спыніўся. Нешта як апякло яго мазгі. У галаве памуцілася. Немец тут не адзін... Немца нехта гукае... А можа гэта не немец... А можа...

Ён зноў пайшоў. Пайшоў за немцам, спіна якога мільгала то тут, то там. Немец ні ад кога не хаваўся. Ішоў на чалавечы голас.

Канечне, Косцік дурны. Адкуль тут будзе сапраўдны немец? Можа, тэатр які прыехаў, а можа самадзейнасць... Пайсці, паглядзець... І гэта ж не кожны дзень бачыць Косцік.

## ПАРТЫЗАНСКІ ЛАГЕР

Насустрач немцу выйшаў з лесу чалавек, аперазаны стужкамі з патронамі, у кубанцы з чырвонай паскаю наўскасяк—самы сапраўдны партызан, такіх Косцік не раз у кіно бачыў.

— Дзе ты прападаў, цябе чакаюць, — напаў партызан на немца.

А немец схапіў з пляча свой аўтамат, наставіў на партызана і зноў як гаркне:

— Хэндэ хох!

Як там, у лесе.

Партызан зарагатаў, паляпаў немца па плячы, яны абняліся і пайшлі, а Косцік паклыпаў за імі, крыху прысаромлены тым, што так укляпаўся, не здагадаўся адразу, што гэта за «немец» і ўсё ж поўны цікавасці, што робяць тут, у лесе, гэты «немец» і гэты «партызан».

Яшчэ здалёк убачыў Косцік, што ў тым месцы, куды ідуць «партызан» з «немцам», шмат людзей. Вецер гнаў адтуль, уздымаў вышэй лесу клубы густога белага дыму. Нясмела падыходзіў Косцік да тых людзей. Падступіўся бліжэй, азірнуўся.

У лесе, вакол невялікай паляны, былі збудаваны зямлянкі, буданы, стаяла складзеная з цэглы печка, пры печы—паліца з няструганых дошак, а на ёй круглыя кулідкі хлеба. Такіх кулідак у магазіне не прадаюць, мусіць, іх спяклі ў гэтай печы.

Пасярод паляны гарэла вогнішча, на ім стаяў вялікі закураны кацёл, у катле нешта варылася. І вакол вогнішча, і каля зямлянак сядзелі людзі з вінтоўкамі, аперазаныя стужкамі з патронамі. Косцік адразу пазнаў, што гэта партызаны. Хадзіла тут і некалькі «немцаў» — у пілотках, з аўтаматамі,—ну ні крышачку не падобна, што гэта нашы хлопцы.

Цяпер Косцік усё зразумеў—гэта артысты і няйнакш як тут кіно здымаюць. Ад некага ён чуў, што ў іхні раён артысты прыехалі, кіно будуць здымаць. Гэта яны, мусіць, і ёсць.

Косцік ва ўсе вочы глядзеў на артыстаў, на партызанскі лагер. Нейкую хвіліну яму нават здалося, што гэта ён спіць і сніць альбо трапіў у якое зачараванае царства, захацелася нават ушчыкнуць сябе. Але ў гэты час нехта як крыкне!

— Хлопчык! Ты чаго ў кадр улез! А ну ўбок адыдзіся!

Косцік нават не падумаў, што гэта яму крычаць, бо ніякага кадра нідзе не бачыў, ні ў што не ўлазіў, але зноў закрычалі хлопчыку, каб ён адышоўся, а нечыя рукі схапілі Косціка за плечы і паваллаклі.

Што гэта! Куды яго цягнуць! Косцік ужо брыкацца намерыўся, ды азірнуўся, каб паглядзець, каго будзе брыкаць.

Яго цягнуў высокі хлопец у сіняй тэнісцы і ў берэце. Цягнуў і прыгаварваў:

— Адкуль вас тут бярэцца!.. Сунуцца пад апарат!.. Абгараджу лагер калючым дротам!

Косцік вырашыў не брыкацца, наадварот, яму зрабілася сорамна, што некаму тут перашкодзіў, улез у нейкі кадр, якога сам не бачыў.

А хлопец адцягнуў Косціка ўбок, упхнуў у гурт людзей, якія тут стаялі, а сам пабег назад у лагер.

І тут у лесе як сто сонцаў загарэлася. Косцік толькі цяпер убачыў, што каля адной зямлянкі стаяць на жалезных слупах чатыры лямпы з чорнымі абажурамі. Лямпы ўсе разам загарэліся і так асвяцілі зямлянку, што зрабілася відаць кожная саломінка на яе страсе.

— Падрыхтавацца! Матор!—скамандаваў у трубу барадаты дзядзька ў белай кашулі.

Кругом усе заціхлі, застылі. Аднекуль выскачыла цётка з ружовымі валасамі—Косцік ніколі не бачыў такіх ружовых валасоў!—ляснула чорнымі дошчачкамі, на адной з якіх была напісана лічба 25, і зноў схавалася. Хвіліну ўсё было ціха, потым з зямлянкі, на якую свяцілі ўсе лямпы, выбегла дзяўчына—у белай кофце і чорнай камізэльцы, у чорнай спадніцы і ў ботах. На плячах у яе ляжалі дзве светлыя касы, а твар і рукі былі жоўтыя, быццам надта моцна загарэлыя. Вочы ў яе блішчалі і свяціліся, як два азяркі.

Дзяўчына азірнулася, потым шмыгнула назад у зямлянку.

І зноў толькі цяпер убачыў Косцік, што праз увесь лагер тут пракладзены рэйкі, жалезныя, як на чыгунцы, а па іх едзе ваганетка, на якой стаіць апарат на трох высокіх ножках-раскірэках. Апарат трашчыць, як цвыркун за печкаю, і едзе, едзе да зямлянкі, з якой нядаўна дзяўчына выбягала. Пад'ехаў блізка і спыніўся, а дзяўчына трошкі пабавілася ў зямлянцы і выбегла зноў, трымаючы ў руках пісталет. Потым схавала пісталет пад камізэльку і пайшла проста на апарат. І ўсё. Лямпы патухлі, людзі заварушыліся, загаманілі. А Косціку ж так захацелася ведаць, што будзе далей. Навошта дзяўчына хавала пісталет пад камізэльку? Каму несла?

Людзі пачалі збірацца дахаты. Некуды панеслі лямпы з чорнымі абажурамі, клункі, скрынкі. Забралі і кулідкі хлеба, што ляжалі на паліцы каля печы. Скора ў лагеры зусім апусцела, толькі той хлопец, што выцягнуў Косціка з кадра, яшчэ бавіўся—скручваў гумавы дрот, які ляжаў у траве і якога Косцік раней не бачыў.

Косціку захацелася падысці да гэтага хлопца, пагаварыць, але ён баяўся, каб зноў не ўлезці ў які кадр. І ўсё ж не вытрываў, падышоў.

— А вы заўтра зноў тут будзеце?—спытаўся ён.

Хлопец азірнуўся на Косціка, буркнуў ні то Косціку, ні то самому сабе:

— А дзе ж мы дзенемся, будзем.

— І зноў будзеце здымаць кіно?

— А хто ж за нас здыме,—адказаў хлопец і пацягнуў за дрот. Адзін канец дроту быў у руках у хлопца, а другі ў лесе. Дрот поўз, варушыўся, як змяя, ды раптам нацягнуўся і спыніўся. Хлопец тузануў яго, але дрот не паддаўся. Хлопец тузануў яшчэ раз, але там заела. Мусіць, дрот зачапіўся за нешта.

— Ану, падскоч, паглядзі,—сказаў хлопец Косціку.

Ухапіўшыся за дрот рукою, Косцік пабег, як сувязіст па лініі сувязі. Скора знайшоў і «пашкоджанне». Дрот закруціўся пятлёю і зачапіўся за корч. Косцік скоранька адчапіў яго, пацягнуў, шукаючы канца. Канец быў блізка, і Косцік, не выпускаючы з рук гумавага дроту, пабег назад да хлопца ў берэце.

— А каму яна пісталет несла?—спытаўся ён у хлопца, як толькі вярнуўся да яго.

— Хто яна?

— Ну, дзяўчына, што з зямлянкі выскачыла.

Косціку надта хацелася ведаць гэта. Быццам ён чытаў кнігу і яго адарвалі на самым цікавым месцы.

— Будзе гатовы фільм, тады ўбачыш, — не вельмі лагодна адказаў хлопец.

Ён скруціў свой дрот абаранкам, пачапіў яго на плячо, усунуўшы руку ў дзірку ад абаранка, і пайшоў з лесу на дарогу, дзе, чуваць было, трубіла машына, склікала тых, хто яшчэ заставаўся ў лесе.

## КОСЦІК СПАЧУВАЕ БАРЫСУ

... Другую ноч Косцік зноў начаваў у лагеры, трэцюю таксама. Ці доўга ён тут будзе жыць—не ведаў, далёка наперад не загадваў, а пакуль ісці адсюль яму зусім не хацелася.

Удзень на паляну, дзе стаялі аўтобусы, прыязджала крытая брызентам машына са скрынкамі, у якіх стаялі бутэлькі з ліманадам, кошыкі з булкамі і з кілбасою, з варанымі яйкамі. Тоўстая цётка ў белым халаце ставіла на пустую перакуленую скрынку вагі і бралася за гандаль. Гандаль у яе ішоў бойка, і Косцік таксама падыходзіў да машыны. У кішэню халата цётка клала і Косцікавы грошы, за якія ён купляў сабе то булку, то яйка, то сто грамаў кілбасы.

Так што ў Косціка быў начлег, была яда, была вада—рэчка ж пад бокам, і жыццё яму цяпер здавалася вольным і цікавым.

Да яго тут скора ўсе прывыклі, бо Косцік любіў усім памагаць. Цесляру прынясе сякеру, маляру пэндзаль збегае ў рэчку памые. А запрагаць каня без Косціка так і не навучыліся. Калі трэба было куды ехаць, так і гукалі Косціка:

— Эй, дзе ты, Косцік! Ідзі каня запрагаць!

Раман таксама часта браў яго з сабою, даваў якую-небудзь работу, і Косцік круціўся па лагеры ўжо як свой. Ён з усімі вітаўся, бо скора ўсіх лічыў сваімі знаёмымі, усім шчыра ўсміхаўся і казаў:

— Здрасце!

І з ім віталіся, і яму казалі «Здрасце» альбо проста: «А, Косцік, здароў!»

У яго не пыталіся, адкуль ён, мусіць, думалі, што з суседняй вёскі, адтуль шмат прыбягала дзятвы, нікому і ў галаву не прыходзіла, што Косцік уцёк з дому, начуе тут, у лагеры.

Кожны дзень ён з нецярпеннем чакаў, калі пачнуць здымаць кіно. Кожны дзень спадзяваўся, што сёння будзе нешта далей, працяг таго, што здымалі перад гэтым, але кожны раз здымалася нешта другое, і Косцік ніяк не мог звязаць канцы з канцамі.

Калі Косцік, бывала, глядзеў карціну, то быў поўны веры, што ў кіно паказваюць тое, як сапраўды было ў жыцці. Што немцы—гэта немцы, а партызаны—гэта партызаны, што рвуцца там сапраўдныя бомбы і страляюць сапраўднымі кулямі. А тут, аказваецца, немцы свае, і партызаны не партызаны, а артысты, і кулі не сапраўдныя, і бомбы толькі пыл уздымаюць ды бабахаюць.

І ўсё-такі цікава. Цікава, як у такім несапраўдным партызанскім лагеры здымаюць несапраўдных немцаў і несапраўдных партызанаў, як потым гэта будзе выглядаць, быццам было ўсё па праўдзе, быццам на вайне, як будуць перажываць, а можа і плакаць людзі, шкадуючы сваіх і ненавідзячы ворагаў.

ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

# ЗАЎСЁДЫ Ў ПОШУКУ

## ПЯТРУ ПАДКАВЫРАВУ—60 ГАДОЎ

СЁЛЕТА нашаму Саюзу кампазітараў пашанцавала на «круглыя даты». На самай справе, зусім нядаўна грамадскасць адзначыла 60-годдзе маладога душой, энергічнага, поўнага запалу і творчых сіл славутага беларускага музыканаўцы-этнографа, народнага артыста СССР Г. Цітовіча, 21 снежня адзначым 80-годдзе старэйшага нашага сябра, які ўжо вось паўстагоддзя рухае наперад амаль усе жанры беларускай музыкі, народнага артыста БССР М. Аладава. Сёння мне хочацца ў думках прайсціся па шляху аднаго са сваіх сяброў Пятра Пятровіча Падкавырава, якому спаўняецца 60 гадоў.

Калі яму было пяць гадоў, на фронце першай сусветнай вайны загінуў бацька. Маці—чэлябінская работніца — не шкадавала ні сіл, ні працы для таго, каб не толькі накарміць і апрануць сына, але і даць яму адукацыю. З васьмігадовага ўзросту ён іграў на гітары, мандаліне, балалайцы, домры. У 18 гадоў Пётр Падкавыраў атрымлівае пуцёўку ў Свярдлоўскі музычны тэхнікум. Тут ён працягвае ўдасканальваць ігру на народных інструментах, але паступова пачынае цікавіцца і кампазіцыяй. Рашаючую ролю ў фарміраванні будучага кампазітара адыграў педагог-тэарэтык, вядомы кампазітар, вучань М. Рымскага-Корсакава і М. Балакірава—В. Залатароў.

Заняткі з Васілём Андрэевічам Залатаровым на працягу трох гадоў далі пачынаючаму кампазітару вельмі многа. Выхоўваючы сваіх вучняў у добрых традыцыях рускай класікі, галоўным чынам — «кучкістаў», В. Залатароў ніколі не закрываў сваім вучням дарогі да пазнання сучаснай музыкі — айчыннай і зарубежнай, абуджаючы ў іх уласную творчую фантазію.

Характэрна, што В. Залатароў выхоўваў са сваіх вучняў не толькі будучых кампазітараў, але і кваліфікаваных педагогаў па шырокім коле музычна-тэарэтычных дысцыплін.

Закончыўшы ў 1933 годзе Свярдлоўскі музычны тэхнікум, Пётр Пятровіч Падкавыраў не захацеў расставацца са сваім любімым педагогам і разам з ім пераехаў у Мінск для прадаўжэння сваёй адукацыі, у толькі што створаную ў Беларусі кансерваторыю. Да гэтага часу адносяцца і першыя самастойныя творы П. Падкавырава, які неяк на дзіва хутка знайшоў сваё «я» ў творчасці — своеасаблівую музычную мову, яркую і вострую, часам рэзкую, але не мудрагелістую, чаканны і дакладны метрарытм. Хутка авалодаў усімі элементамі формы. Разам з тым П. Падкавыраў асвоіў новую для яго беларускую народную мелодыку, гармонію і рытм, умела і тактоўна ўводзячы яе ў сваю арыгінальную самабытную музыку. Гэтаму значна дапамагла паездка П. Падкавырава з М. Крошнером у 1934-35 гадах на Палессе з экспедыцыяй па зборы беларускага песеннага фальклору.

Кансерваторыю П. Падкавыраў паспяхова закончыў у прафесара В. Залатарова ў 1937 годзе. Гэта быў першы выпуск Беларускай кансерваторыі.

З твораў ранняга перыяду творчасці П. Падкавырава варта назваць кантату-баладу «Ваявода» (па А. С. Пушкіне), Першы струнны квартэт і Першую фартэпіянную санату. Крыху раней з'явіліся п'есы для скрыпкі і фартэпіяна — «Беларуская працяжная» і «Танцавальная». Потым была першая сімфонія «Юнацтва», прысвечаная ленінскаму камсамолу, з натхнёнай пабочнай лірычнай тэмай у першай частцы і маршападобным фіналам, у якім віртуозна абыгрываецца адна з любімых лейтгармоній П. Падкавырава—вялікі септакорд (з ёй мы яшчэ сустрэнемся ў віяланчэльным канцэрце і некаторых іншых творах аўтара). У 1937—1939 гадах кампазітар напісаў самы галоўны свой твор—трохактавую оперу «Павел Карчагін» на ўласнае лібрэта паводле вядомага рамана Мікалая Астроўскага «Як гартавалася сталь». Пра наступныя рэдакцыі гэтых двух твораў я яшчэ буду гаварыць. П. Падкавыраў — вельмі патрабавальны мастак. Часта ён, незадаволены першай рэдакцыяй, стварае новыя—другую і нават трэцюю.

У пачатку саракавых гадоў кампазітар піша два буйныя інструментальныя творы: Першы струнны квінтэт і Першы канцэрт для скрыпкі з аркестрам у чатырох частках. Потым —рад вакальных твораў на патрыятычную тэму. На пераможнае заканчэнне Айчыннай вайны кампазітар адгукнуўся маршам для духавога аркестра «Радасць перамогі». Ён вяртаецца да камсамольскай сімфоніі і стварае новую рэдакцыю, піша Другую сімфонію ў чатырох частках і Трэцюю — «Дружба народаў» у трох частках. У гэтыя ж гады кампазітар стварае рад цікавых камерных твораў. З кожным годам сталее майстэрства П. Падкавырава. Але самыя значныя творы яшчэ наперадзе — кантата-балада «Аб чатырох заложніках» на цудоўныя вершы Аркадзя Куляшова, фартэпіянны канцэрт і адзін з лепшых твораў П. Падкавырава — Другі канцэрт для скрыпкі з аркестрам. Назаўсёды засталося ў памяці натхнёнае выкананне яго Львом Гарэлікам на VI Міжнародным фестывалі моладзі і студэнтаў у Маскве.

Адна за адной з'яўляюцца разнастайныя па жанры і тэматыцы рэчы: «Урачыстая ўверцюра» для сімфанічнага аркестра, Другі струнны квартэт, восем эцюдаў для фартэпіяна, «Канцэртны марш» для духавога аркестра, Канцэрт для віяланчэлі з аркестрам і інш. Кампазітар як бы спрабуе свае сілы ва ўсіх жанрах камернай, аркестравай і вакальнай музыкі. У 1958 годзе ён вяртаецца да свайго любімага дзіцяці і ўзнаўляе (па памяці) оперу «Павел Карчагін», бо партытура, клавір і нават лібрэта загінулі ў часе вайны.

Пяру П. Падкавырава належыць рад вакальных твораў — песень, рамансаў, хораў. Многія з іх трывала ўвайшлі ў рэпертуар музычных калектываў. Шырокай папулярнасцю карыстаецца песня «Зубронак» на словы А. Міронава, — своеасаблівы гімн беларускаму аўтамабілю.

На працягу апошніх трох гадоў кампазітар упарта працаваў над удасканаленнем сваіх ранніх буйных твораў. Стварыў новую рэдакцыю Другой сімфоніі «Дружба народаў», напісаў амаль што нанава Трэці струнны квартэт і патрыятычную п'есу сюітнага плана для струнных інструментаў і фартэпіяна «Родныя напевы» ў пяці частках, пабудаваную на беларускіх народных тэмах. Вельмі хацелася б хутчэй пачуць гэты новы твор, гэтак жа як і некаторыя іншыя, незаслужана забытыя альбо рэдка выконваемыя творы П. Падкавырава.

П. Падкавыраў неаднаразова вяртаецца да оперы «Павел Карчагін». У 1962 годзе ён зрабіў яе мантаж для радыё. Опера была выканана салістамі, хорам і аркестрам радыё пад кіраўніцтвам Б. Райскага.

Адзіны жанр, якога пакуль не кранаўся П. Падкавыраў, — гэта балет. Але ў яго ёсць цудоўныя танцавальныя п'есы — аркестравыя і камерныя, два вялікія харэаграфічныя эцюды. Таму хочацца пажадаць юбіляру ў бліжэйшыя гады стварыць беларускі балет.

П. Падкавыраў — вопытны педагог амаль з 25-гадовым стажам. У Беларускай кансерваторыі з 1948 года ён няспынна вядзе кампазіцыю, інструментоўку, чытанне партытур, харавую аранжыроўку, сальфеджыо і гармонію. Усе свае веды ён з радасцю перадае маладому пакаленню беларускіх музыкантаў.

П. Падкавыраў любіць падарожнічаць, яго страсць — калекцыяніраванне грампласцінак з запісамі класічнай музыкі, якіх ён сабраў больш за шэсцьсот. У яго калекцыі 50 опер, столькі ж сімфоній, ледзь не ўвесь Чайкоўскі, 32 фартэпіянныя санаты Бетховена і яго сімфоніі, амаль усе оперы Рымскага-Корсакава... Ён любіць родную прыроду, беларускія лясы, рэкі, азёры...

Кампазітарская, педагагічная і грамадская дзейнасць П. Падкавырава адзначана ўрадавымі ўзнагародамі: ордэнам «Знак Пашаны», медалямі, ганаровымі граматамі, яму прысвоена званне заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

Пажадаем жа П. Падкавыраву шчаслівых гадоў творчага натхнення, бясконцай маладосці...

**Яўген ЦІКОЦКІ,**
**народны артыст СССР.**

З пошты ЛіМа

# У ІНСТЫТУЦКІХ СЦЕНАХ

Я працую ў інстытуце і таму хачу падзяліцца сваімі назіраннямі і думкамі аб тым, як «дробязі» штодзённага інстытуцкага жыцця ўплываюць на выхаванне пачуцця прыгожага ў студэнтаў.

Возьмем для прыкладу інвентарызацыйны нумар на мэблі... Часта ён «красуецца» на самым відным месцы. Гаспадарнікам не важна, што такі нумар псуе выгляд крэслаў, вітрын, сталоў. Галоўнае — зручна працаваць інвентарызацыйнай камісіі.

Не-не, ды і з'явяцца ў інстытутах аб'явы-заклікі «Не курыць!», «Не смяціць!». Праўда, гэтыя ўжо прымільгаліся, але сустракаюцца і больш «сучасныя», напрыклад: «Таварышы студэнты, беражыце дзяржаўную маёмасць!», «Таварышы студэнты, не ламайце машыны!» На каго разлічаны яны? На студэнтаў, ці на сучасных луддзітаў?

Вельмі мала ўвагі ўдзяляецца і ўнутранаму афармленню інстытуцкіх памяшканняў. Тут сустракаецца многа сухіх, шаблонных, непрывабных стэндаў, транспарантаў, аб'яў.

Многія гады адны і тыя ж стэнды вісяць у медыцынскім і сельскагаспадарчым інстытутах Гродна, у мінскіх педагагічным і політэхнічным. Адчуваецца, што ў арганізацыі «нагляднай агітацыі» ў гэтых інстытутах кіруюцца прынцыпам «толькі б было, толькі б вісела». Гэтае «толькі б» прыводзіць да таго, што ўсе стэнды не ўмяшчаюцца ў рэкрэацыях і залах і перасяляюцца ў калідоры, вузкія праходы і лесвічныя клеткі.

«Тэатр пачынаецца з вешалкі», — гаварыў Станіслаўскі. Перафразіраваўшы, мусім сказаць: «Інстытут пачынаецца з вестыбюля». Але як часта ў інстытуце афармленне вестыбюля — кангламерат выяўленчых сродкаў, інфармацыйнай блытаніны, гаспадарчых памяшканняў і да т. п.

Дрэнна ў нас і з афармленнем вучэбных аўдыторый. Дзесяткі стэндаў, вітрын, партрэтаў і не менш зашклёных рам з інструкцыямі і правіламі пастаянна перад вачыма студэнтаў. І ўсё гэта часта не мае прамых адносін да заняткаў.

Тая ж карціна і ў лабараторыях і кабінетах. Яны робяць уражанне нейкіх музеяў бяздзейных экспанатаў. Чамусьці лічыцца, што калі ўсе сцены і прасценкі заняты партрэтамі, вітрынамі і стэндамі, то ў такім кабінеце праведзена вялікая работа па афармленні. Давайце заглянем хоць бы ў кабінет літаратуры Гродзенскага педінстытута. У ім мы бачым цэлую галерэю партрэтаў, размешчаных суцэльнымі радамі. Не менш іх і ў запасе. Аказваецца, астатнім «не пашанцавала» — не хапіла месца на сценах.

Кабінет — гэта свайго роду навуковая лабараторыя, таму не шыльда на дзвярах і не афармленне на сценах павінна вызначаць яго аблічча, а адпаведнае абсталяванне.

Пытанні арганізацыі інтэр'ераў навучальных устаноў і афармленне нагляднай агітацыі патрабуюць сур'ёзнага абмеркавання сярод мастакоў, архітэктараў, педагогаў і псіхолагаў. Але, на жаль, ні на адной з рэспубліканскіх канферэнцый па праблемах работы вышэйшай школы гэтае пытанне ні разу не ўзнімалася. Відаць, наспеў час падумаць і аб тым, каб у вну быў хоць адзін мастак па інтэр'ерах або мастак-афарміцель, які ўзначаліў бы гэту жыццёва неабходную работу.

**І. ШЭШКА,**
**выкладчык Гродзенскага педінстытута.**

---

І хоць ведаў Косцік, што немцы гэта не немцы, а нашы хлопцы, што таго немца, які збіраў у лесе ягады, завуць Барыс і ён па-нямецку нават гаварыць не ўмее, толькі песеньку, што спяваў у лесе, вывучыў спецыяльна для кіно, усё ж артыстаў, якія ігралі немцаў, Косцік не любіў. Так і хацелася сказаць катораму: «Ах ты, фашыст!» І дружыць з імі не хацелася.

Сядзелі ўчора Косцік з Валяю на палянцы, Слухалі музыку. А тут, адкуль ні вазьміся, Барыс. Прыйшоў і сеў з імі. А сам у гэтай нямецкай форме, і пілотачка набок адзета. Чысты фрыц. Сядзіць і глядзіць на Валю, усміхаецца. І Валя яму—таксама. Не спадабалася Косціку, што Валя ўсміхаецца Барысу. Як штурхнуў Косціка хто, узяў і зманіў Валі:

— А цябе Раман шукае...

— Праўда?—падхапілася Валя.—А дзе ён?

— Вунь там,—паказаў на лес Косцік.

Валя пайшла, а Барыс уставіўся ў яе вачыма, глядзеў услед, пакуль Валя ў лесе не схавалася.

І тут спытаў Косцік у Барыса:

— А вам не праціўна немца іграць?

Барыс паглядзеў на Косціка, усміхнуўся:

— Трэба ж некаму і немца іграць.

— Я б ніколі не згадзіўся, — цвёрда сказаў Косцік.

— Не важна, каго іграць, важна, каб роля была цікавая,—сказаў Барыс.

Косцік памаўчаў, падумаў.

— Не, — пакруціў ён галавою.—Цікава іграць герояў, партызанаў, а немцаў... Гэта ж цябе ўсе ненавідзець будуць... Вось, думаеце, вас будуць любіць, калі ў фільме ўбачаць? Усе будуць казаць—фашыст!

— Няхай кажуць!—засмяяўся Барыс. — Значыцца, сыграю добра, калі павераць, што я фашыст, значыцца, я артыст сапраўдны.

Не, не мог зразумець Косцік, як гэта Барыс радуецца, што яго ўсе будуць ненавідзець. Можа ён і праўда харошы артыст, але Косцік любіў бы яго больш, каб Барыс іграў партызана. І Валі няхай ён не ўсміхаецца, і няма чаго яму глядзець на яе. Косцік не сляпы, ён усё бачыць. Як дзе Валя паявіцца, так і Барыс каля яе. Каб жа хоць быў партызанам...

А Барыс быццам угадаў, што думаў Косцік. Уздыхнуў і прызнаўся:

— Я, брат, і сам хацеў іграць партызана, але рэжысёр сказаў, што я на немца падобны. Вось і ўпхнулі мяне ў гэты фрыцаўскі мундзір.

Цяпер Косцік паглядзеў на Барыса са спачуваннем. І праўда, падобны ён на немца. Нос роўны, тонкі, твар вузкі, валасы пад пілоткаю акуратна зачасаныя. Нездарма тады, у лесе, Косцік падумаў, што жывога немца ўбачыў, нездарма так укляпаўся.

Бедны Барыс.



Фота Ул. МЯЖЭВІЧА.




# ЗВОНКІЯ СТРУНЫ

Чатыры жаночыя галасы то сплятаюцца ў адзін, то разыходзяцца і зноў сустракаюцца:

Дубочак зялёненькі,
Іванька малодзенькі,
Ай лі, ай люлі, люлі, люлі.

Гучыць бадзёрая мелодыя, а акампанемент так і рассыпаецца пасажамі.

Іванька малодзенькі,
Душы не губі сваёй,
Ай лі, ай люлі, люлі, люлі.

Напэўна, многія чулі гэтую беларускую народную песню, апрацаваную Леанідам Смялкоўскім, у выкананні жаночага вакальнага квартэта «Купалінка» і інструментальнага ансамбля Беларускага радыё і тэлебачання. Яна цікава апрацавана і, як кажуць, адразу «кладзецца на слых» — лёгка запамінаецца і не менш лёгка слухаецца.

Гэты цудоўны ансамбль нарадзіўся ў пачатку трыццатых гадоў як секстэт домраў. У яго ўвайшлі лепшыя артысты аркестра народных інструментаў радыёкамітэта.

Спачатку працаваць было нялёгка: не хапала інструментаў, а галоўнае — рэпертуару. З Масквы запрасілі кіраўніка секстэта домраў Усесаюзнага радыё Сямёнава, які працаваў з новым калектывам каля трох месяцаў і значна дапамог яму.

З першых дзён секстэт паказаў сябе як калектыў надзвычай радыёфанічны. Яго выканаўчыя магчымасці хутка звярнулі на сябе ўвагу беларускіх кампазітараў.

Так пачалі з'яўляцца ў яго рэпертуары першыя творы беларускай музыкі: тры сюіты і рапсодыя А. Туранкова, «Рэкруцкая» Я. Цікоцкага, цыкл беларускіх народных песень, апрацаваных М. Чуркіным для голасу і секстэта, і шмат іншага.

Секстэт часта прымаў удзел у адкрытых канцэртах, ездзіў па рэспубліцы.

Успамінаюцца першыя дні восені 1936 года, калі секстэт выехаў на гастролі да ўдзельнікаў ваенных манеўраў. Нашай брыгадзе быў выдзелены грузавік. На ім мы і выступалі ў воінскіх часцях. Вёў нашы канцэрты артыст тэатра імя Янкі Купалы Барыс Янпольскі, майстар на розныя дасціпныя жарты.

Увечары выступалі ў памяшканні — у калгасным клубе ці Доме афіцэраў, а позна ноччу кläліся спаць у палатцы ці ў адрыне, на свежым мурожным сене. За дзесяць дзён далі больш за сорак канцэртаў.

Хутка секстэт домраў вытрымаў яшчэ адзін экзамен на мастацкую сталасць. У Мінск упершыню прыехала брыгада гуказапісу з Масквы, каб запісаць на грампласцінкі ўсё лепшае з беларускай музыкі. Каб усвядоміць, якое важнае значэнне надавалася гэтым запісам, дастаткова прыгадаць, што ўсіх удзельнікаў прыняў Старшыня Савета Народных Камісараў БССР М. Галадзед.

Запісы рабілі ў клубе імя Карла Маркса — лепшым па акустыцы ў горадзе. Пісалі проста на васковыя дыскі працягласцю гучання ў тры ці пяць мінут. Праслухаць запісанае можна было толькі з пробных дыскаў, а канчатковы варыянт не правяралі — ад праслухоўвання ён траціў у якасці.

У некаторых аматараў беларускай музыкі і цяпер захаваліся пласцінкі з гэтымі першымі запісамі. Сярод 26 пласцінак — трынаццаць, якія найграў секстэт.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны адкрываецца новая старонка гісторыі секстэта. Усё больш з'яўляецца ў яго рэпертуары твораў беларускіх кампазітараў. Сярод іх — сюіты Р. Пукста. Першая — «Танцавальная» з чатырох частак, арганічна звязаных паміж сабою. Беларускі народны танец «Мікіта» змяняецца задуменным лірычным вальсам. Гэтая частка, кантрастуючы з суседнімі, надае асаблівую прыгажосць жартоўнай польцы, якая пачынаецца пераклічкай прымы, альта, тэнара і баса. Заключаецца сюіта «Лявоніхай». З «лёгкай рукі» секстэта «Вальс» і «Полька» трывала ўвайшлі ў рэпертуар прафесіянальных і самадзейных калектываў і асобных выканаўцаў.

Другая сюіта на тэмы, сабраныя аўтарам у Гомельскай вобласці, пачынаецца беларускай народнай песняй «Ой, не кукуй, зязюленька», — адухоўленым драматычным эпізодам з мажорнай сярэдняй часткай. Інструментоўка вырашана так, што тэма гучыць увесь час на фоне, які імітуе куканне зязюлі. Далей ідуць часткі «На гары бяроза» і «Красная дзеўка па беражку хадзіла». Фінал сюіты на тэму жартоўнай песні «Сваток» гучыць жыццярадасна і патрабуе ад выканаўцаў бліскучай тэхнікі.

І нарэшце, трэцяя сюіта — на тэмы беларускіх народных песень «Шлі салдацікі дамоў», «Узышоў свецел месячык», «Пайду, пайду, Ясю мілы» і «Як крыніца цячэ».

У гэтыя ж гады ў рэпертуары секстэта з'явіліся «Танцавальныя мініяцюры», якія правільней было б назваць «Беларускай кадрыляю», бо твор задуманы і напісаны аўтарам як народны танец. Ён складаецца з чатырох «Кален», «Лявоніхі» і заключнага «Галопа».

«Скерца» М. Аладава — вялікі, памайстэрску напісаны твор. Жартаўлівы, непасрэдны пачатак «Скерца» і яго лірычная сярэдняя частка звязаны паміж сабою. Бліскучая інструментоўка падкрэслівае прыгажосць мелодый і арыгінальны кампазітарскі почырк.

З секстэтам домраў актыўна супрацоўнічалі М. Чуркін, Я. Цікоцкі, Д. Лукас, Д. Камінскі і іншыя кампазітары. Многія творы абмяркоўваліся ў час працы аўтара над імі. У выніку такіх творчых абмеркаванняў нарадзілася некалькі новых п'ес: «Святочная уверцюра» Л. Абеліёвіча, «Фантазія» на тэмы польскіх народных песень Г. Вагнера і інш.

Застаецца дадаць, што кіраўніком калектыву ў той час быў цудоўны знаўца народных інструментаў і выканаўца Р. Жыхараў.

Яшчэ адна старонка творчага жыцця секстэта адкрылася з прыходам новага кіраўніка Л. Смялкоўскага. Ён не толькі аўтар многіх музычных твораў, але і вельмі здольны выканаўца, чалавек, які знаходзіцца ў пошуку, да таго ж надзвычай няўрымслівы. У свае аркестроўкі для секстэта ён смела ўводзіць спачатку баян, а потым і арфу. Гэта стварае вельмі своеасаблівы па гучанні інструментальны ансамбль.

Пашыраецца і рэпертуар, які складае цяпер каля тысячы самых разнастайных твораў. Сярод іх — п'есы Баха, Моцарта, Бетховена, Рамо, Віла Лобаса, Глінкі, Рубінштэйна, Чайкоўскага, Рахманінава, Будашкіна, Хачатурана, Шастаковіча, Кабалеўскага, Далуханяна, Кос-Анатольскага і многіх, многіх іншых.

Аднак на працягу ўсёй сваёй дзейнасці калектыў самай пачэснай і першачарговай задачай лічыў прапаганду лепшых узораў беларускай музыкі. Таму гэты раздзел у яго рэпертуары прадстаўлены асабліва поўна і разнабакова. Цяжка пералічыць усе творы беларускіх кампазітараў, якія выконвае ў сваіх канцэртах інструментальны ансамбль. У рэпертуары з'явіліся творы буйной формы, п'есы і песні А. Багатырова, Я. Глебава, Ю. Семянякі, І. Ронькіна, Р. Буцвілоўскага, Д. Лукаса, І. Кузняцова, І. Лучанка, Д. Смольскага, А. Янчанкі. Рэгулярна папаўняецца рэпертуар ансамбля і творамі ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці, кампазітараў-аматараў.

У канцэртах інструментальнага ансамбля часта прымаюць удзел вядучыя салісты-вакалісты і інструменталісты нашай рэспублікі. Толькі за апошні час з народным артыстам БССР З. Бабіем было зроблена больш трох дзесяткаў запісаў на грампласцінкі. Частку з іх скора можна будзе набыць.

Аднак хочацца зрабіць некалькі заўваг калектыву. Некалі секстэт домраў выконваў разам з салістамі такія творы, як сцэна Хіўры і Паповіча з оперы Мусаргскага «Сарочынскі кірмаш», «Фантазія для скрыпкі» і «Фантазія на тэму Глінкі» для габоя Рымскага-Корсакава, «Працяжная і танцавальная» і «Верасы» Р. Пукста для скрыпкі, «Варыяцыі» Д. Камінскага для цымбалаў, «Гумарэска» М. Аладава для баяна і мноства іншых твораў для інструменталістаў у суправаджэнні ансамбля. Цяпер чамусьці гэтыя творы не гучаць, ды і кола салістаў абмежавана. А між тым у нас ёсць нямала таленавітых музыкантаў, якія маглі б упрыгожыць гучанне ансамбля.

Забыта практыка выступленняў разам з хорам Беларускага радыё і тэлебачання, якая некалі давала багаты плён. Слаба выкарыстоўваецца інструментальны ансамбль і ў музычным афармленні драматычных радыёперадач. Некалі ж гэта быў адзін з асноўных раздзелаў працы калектыву. Дастаткова ўспомніць хаця б такую радыёпастаноўку, як «Каваль-Вярнідуб», якая нагадвала оперу, настолькі яна была музычна насычаная. Дарэчы, акрамя вакалістаў, тут саліраваў і кларнет, гук якога як нельга лепш пасуе да цяперашняга складу інструментальнага ансамбля.

Неправамерна многа, на маю думку, гучыць у ансамблі арфа. Як вядома, гэты інструмент выкарыстоўваецца нават не ва ўсіх сімфанічных партытурах, а тым больш ніколі не гучыць ад першага да апошняга такта музыкі. У інструментальным жа ансамблі Беларускага радыё і тэлебачання арфа звычайна іграе з пачатку і да канца кожнага твора, што значна зніжае яе значэнне і нават надае аркестроўкам аднастайнасць.

Аднак трэба сказаць, што выканаўчае майстэрства калектыву няспынна паляпшаецца і ён здольны «падымаць» самыя складаныя творы, якія патрабуюць выдатнай тэхнікі.

Розныя шляхі прывялі артыстаў ансамбля ў прафесіянальнае мастацтва, але кожны пачынаў свой шлях з мастацкай самадзейнасці. Гэта можна сказаць і пра кіраўніка ансамбля былога калгасніка Л. Смялкоўскага, і пра яго артыстаў А. Захарошка, Г. Асмалоўскую Г. Мазуркевіча, М. Каношына і іншых.

Можа таму такія моцныя сувязі ў ансамбля з многімі самадзейнымі калектывамі рэспублікі. Ансамбль аказвае вялікі ўплыў на рэпертуар самадзейных аркестраў і ансамбляў народных інструментаў. А са многімі з іх падтрымлівае непасрэдныя творчыя сувязі.

Д. ЖУРАЎЛЁЎ.

---

Трэцяя амерыканская экспедыцыя на Месяц стартавала на касмічным караблі «Апалон-13»*), і 11 красавіка 1970 г. касманаўтам Ловелу і Хейсу трэба было зрабіць пасадку на Месяцы ў гарыстым «мацерыковым» раёне кратэра Фра Маўро, а не ў параўнаўча малаперасечаным «марскім» раёне, як касманаўтам папярэдніх экспедыцый. Даследаванні мацерыковага раёна павінны былі праводзіцца ўпершыню, прычым кратэр Фра Маўро ўяўляў асаблівую цікавасць: там меліся знайсці выкіды глыбінных парод, якія з'явіліся пры ўтварэнні кратэра Каперніка і Мора Дажджоў.

Апрача збору ўзораў (з паверхні і са шчылін глыбінёй 3 м), касманаўты карабля «Апалон-13» у час двух чатырохгадзінных выхадаў на паверхню Месяца павінны былі правесці фотаздымкі ландшафту, устанавіць на Месяцы рад навуковых прыбораў і ажыццявіць розныя эксперыменты для вывучэння механічных уласцівасцей грунту, праблемы сувязі на Месяцы па-за межамі прамой бачнасці і інш.

Навуковыя прыборы, якія атрымліваюць жыўленне ад радыёізатопнай устаноўкі, павінны былі працаваць на Месяцы на працягу года і даць важныя дадзеныя аб натуральным спадарожніку Зямлі. Так, сейсмометр прызначаўся для рэгістрацыі сейсмічных хістанняў прыроднага паходжання («месяцатрасенні», удары метэарытаў), а таксама тых, якія ўзнікнуць пры падзенні на Месяц узлётнай ступені месячнай кабіны. Падобны эксперымент у свой час быў праведзены з выкарыстаннем сейсмометра, устаноўленага касманаўтамі карабля «Апалон-12». Прыбор рэгістраваў хістанні, выкліканыя падзеннем узлётнай ступені, на працягу 55 мінут, што вельмі азадачыла вучоных. Дарэчы, ён жа зафіксаваў і хістанні, якія ўзніклі пры падзенні на Месяц трэцяй ступені ракеты-носьбіта карабля «Апалон-13». На гэты раз хістанні рэгістраваліся на працягу... 4 гадзін. Практычна гэта быў адзіны эксперымент, які ўдалося ажыццявіць у выніку палёту «Апалона-13».

Апрача сейсмометра, удзельнікі трэцяй месячнай экспедыцыі павінны былі ўстанавіць на Месяцы іанізацыйны манометр для рэгістрацыі звышразрэджанай месячнай «атмасферы», прыборы для рэгістрацыі энергетычных частачак ля паверхні Месяца, а таксама зонды для вымярэння цеплавога патоку, які ідзе з яго нетраў. Гэтыя зонды меркавалася змясціць у дзве 3-метровыя шчыліны, для свідравання якіх у касманаўтаў быў спецыяльны электрабур.

Такія былі навуковыя заданні, якія не ўдалося рашыць у гэтым палёце. Па ацэнцы спецыялістаў, ён абышоўся прыкладна ў 375 млн. долараў, уключаючы затраты на стварэнне карабля і ракеты-носьбіта, а таксама затраты на забеспячэнне палёту.

Трэба адзначыць, што ў першапачатковыя планы НАСА гэтага палёту рэчаіснасць унесла карэктывы. За тыдзень да старту «Апалона-13» адзін з дублёраў захварэў краснухай, а паколькі касманаўты і асноўнага і дубліруючага экіпажаў мелі кантакты з ім, усе яны былі праверaны на імунітэт да краснухі. Высветлілася, што член асноўнага экіпажа Мэтынглі імунітэту не мае. Кіраўніцтва НАСА вынесла рашэнне замяніць яго дублёрам Суіджэртам. Камандзір карабля Ловел пярэчыў супраць гэтага і прапаноўваў адкласці палёт на май 1970 г., каб у ім мог прыняць удзел Мэтынглі, з якім ён і Хейс (трэці член асноўнага экіпажа) спрацаваліся за

*) Праграма «Апалон» прадугледжвае дастаўку на Месяц экспедыцый у складзе двух касманаўтаў. Папярэднія работы па праграме пачаліся ў канцы 1950-х гадоў і вяліся параўнаўча павольнымі тэмпамі. 25 мая 1961 г., непасрэдна пасля палёту Юрыя Гагарына, прэзідэнт Кенедзі аб'явіў высадку экспедыцыі на Месяц да 1970 г. нацыянальнай задачай, і праграма «Апалон» стала ажыццяўляцца фарсіраванымі тэмпамі. На гэта на працягу раду гадоў выдаткоўвалася больш як 50 працэнтаў агульнай сумы штогадовых бюджэтных асігнаванняў НАСА, якія з 1960 па 1966 г. узраслі больш чым у 10 разоў. Да часу ажыццяўлення першай месячнай экспедыцыі (ліпень 1969 г.) агульныя расходы на праграму «Апалон» перавысілі 20 млрд. долараў. З 1961 па 1968 г. было зроблена 16 беспілотных запускаў у рамках праграмы «Апалон» для адпрацоўкі розных мадэляў ракет-носьбітаў «Сатурн» і галоўных элементаў касмічнага карабля «Апалон». З кастрычніка 1968 г. запускам карабля «Апалон-7» пачаліся пілатуемыя палёты па ўсё больш складанай праграме, у тым ліку палёты з выхадам на калямесячную арбіту («Апалон-8» у снежні 1968 г. і «Апалон-10» у маі 1969 г.). У ліпені 1969 г. на Месяц была дастаўлена першая экспедыцыя на караблі «Апалон-11». У лістападзе таго ж года адбылася другая экспедыцыя на караблі «Апалон-12».

# НЯЎДАЛЫ ЭКСПЕРЫМЕНТ

**АБ ПАЛЁЦЕ КАРАБЛЯ «АПАЛОН-13»**

час працяглых трэніровак. Аднак кіраўніцтва НАСА выступіла супраць пераносу тэрміну запуску, матывуючы гэта буйнымі дадатковымі затратамі (прыкладна 800 тыс. долараў), якія аказаліся б неабходнымі пры паўторнай падрыхтоўцы запуску. 19 красавіка, усяго за два дні да старту, былі пачаты сумесныя трэніроўкі новага экіпажа. У першую чаргу адпрацоўваліся аперацыі, якія патрабуюць узгодненых дзеянняў усіх трох касманаўтаў ва ўмовах аварыйных сітуацый. Характэрна, што «прайграваліся» самыя розныя аварыі, але не тая, якая ў сапраўднасці адбылася на караблі і якую ніхто не мог прадбачыць.

Каб зразумець характар аварыі і ацаніць яе сур'ёзнасць, нагадаем, з якіх асноўных элементаў складаецца карабель «Апалон» і якія функцыі выконваюць гэтыя элементы.

Карабель складаецца з дзвюх галоўных частак: асноўнага блоку і месячнай кабіны. Асноўны блок у сваю чаргу дзеліцца на адсек экіпажа і рухальны адсек. У першым знаходзяцца тры касманаўты на працягу ўсяго палёту, выключаючы той перыяд, калі двое з іх у месячнай кабіне робяць пасадку на Месяц. У другім, апрача маршавага рухавіка, засяроджаны ўсе асноўныя сістэмы, якія жывяць адсек экіпажа электраэнергіяй, кіслародам і інш. У самім адсеку экіпажа запасы энергіі і кіслароду разлічаны ўсяго на некалькі гадзін палёту, калі ля самай зямлі непасрэдна перад уваходам у атмасферу адбываецца аддзяленне адсека экіпажа ад рухальнага.

Месячная кабіна таксама дзеліцца на дзве часткі: пасадачную ступень і ўзлётную ступень, якая забяспечвае старт з Месяца і сустрэчу з асноўным блокам, які рухаецца па калямесячнай арбіце. Асноўныя запасы кіслароду, электраэнергіі, вады знаходзяцца на пасадачнай ступені, якая пакідаецца на Месяцы, паколькі ўзлётная ступень павінна быць максімальна аблегчана. Месячная кабіна разлічана на двух касманаўтаў, а запасы ў ёй — на двое сутак.

У «рабочым становішчы», якое карабель прымае пасля перастраення адсекаў прыкладна праз 3 гадзіны пасля старту, месячная кабіна прыстыкоўваецца да адсека экіпажа і злучаецца з ім тунелем-лазам, праз які касманаўты пераходзяць з аднаго адсека ў другі.

Цяпер аб тым, як праходзіў драматычны палёт касманаўтаў Ловела, Суіджэрта і Хейса на караблі «Апалон-13».

Запуск карабля «Апалон-13» быў ажыццёўлены з дапамогай трохступеньчатай ракеты-носьбіта «Сатурн-5» з касмадрома на мысе Кенэдзі( штат Фларыда). На ўчастку вывядзення ўзніклі непаладкі: адзін з пяці рухавікоў другой ступені ракеты-носьбіта выключыўся раней разліковага часу прыкладна на 2 мінуты, як мяркуюць, з-за моцнай вібрацыі ступені. З дапамогай астатніх рухавікоў другой ступені і рухавіка трэцяй ступені, якія працавалі крыху больш разліковага часу, карабель у канчатковым выніку ўдалося вывесці на разліковую траекторыю палёту да Месяца.

Да раніцы 14 красавіка (або да вечара 13 красавіка па амерыканскім часе) палёт праходзіў нармальна, калі не лічыць нязначных непаладак. Раніцай 14 красавіка Ловел далажыў на Зямлю: «У нас на борце праблема». «Праблема» заключалася ў тым, што практычна перастала паступаць электраэнергія ад дзвюх з трох батарэй у рухальным адсеку, якія жывілі адсек экіпажа. Праз некаторы час зменшылася паступленне кіслароду, які падаецца ў адсек экіпажа з двух бачкоў у рухальным адсеку. Яшчэ некалькі мінут... і Зямля перадала касманаўтам: «Трэцяя батарэя зможа забяспечваць электраэнергію яшчэ толькі на працягу 15 мінут, пераходзьце ў месячную кабіну». Два касманаўты перайшлі ў месячную кабіну, а трэці застаўся ў адсеку экіпажа, паколькі месячная кабіна двухмесная. У аварыйным парадку ўключылі сістэмы электраажыўлення і жыццезабеспячэння месячнай кабіны. Каб да касманаўта ў адсеку экіпажа паступаў кісларод, з месячнай кабіны былі пакінуты адкрытымі люкі тунеля-лазу. З гэтага моманту жыццядзейнасць касманаўтаў і палёт забяспечвала месячная кабіна, рэсурсы якой пры нармальным выдаткаванні разлічаны на двух чалавек на працягу двух сутак, а касманаўтам (тром касманаўтам!) трэба было ляцець да Зямлі (ад пасадкі на Месяц, зразумела, адмовіліся) больш як трое сутак. Ці хопіць рэсурсаў? Разлікі паказалі, што пры беражлівым выдаткаванні хопіць. Для эканоміі выключылі ўсе сістэмы, апрача жыццёва неабходных. Касманаўты ў асноўным сядзелі ў цемры (карысталіся ручнымі ліхтарыкамі), выключылі сістэму абагравання (тэмпература ўпала ніжэй 10 градусаў С, асабліва ў адсеку экіпажа, які касманаўты празвалі «халадзільнікам»), звялі да мінімуму работу рухавікоў, якія забяспечвалі арыентацыю карабля.

Аварыя адбылася на шляху да Месяца на адлегласці 330 тыс. км да Зямлі і ўсяго 50 тыс. км ад Месяца, прыкладна за суткі да разліковага моманту пераходу карабля на пачатковую калямесячную арбіту. Як гэта ні парадаксальна, пасля аварыі для хутчэйшага вяртання карабля на Зямлю спатрэбілася яшчэ больш аддаліцца ад яе, працягваючы палёт да Месяца, абляцець Месяц і толькі тады пачаць набліжацца да Зямлі.

А калі б аварыя адбылася пры вяртанні да Зямлі, калі б месячная кабіна была ўжо скінута і не магла выконваць ролю «выратавальнай шлюпкі»? Касманаўтам пагражала б немінучая пагібель.

Каб забяспечыць вяртанне карабля «Апалон-13» на Зямлю, неабходна было скарэкціраваць траекторыю. Гэта была самая адказная аперацыя, для ажыццяўлення якой быў выкарыстаны рухавік пасадачнай ступені месячнай кабіны. Усё прайшло добра, але наперадзе было яшчэ нямала цяжкасцей. Дастаткова сказаць, што траекторыю карабля спатрэбілася падпраўляць яшчэ тры разы, і кожная карэкцыя была падзеяй, якая прымушала нямала хвалявацца і саміх касманаўтаў, і наземныя службы.

Якая ж аварыя адбылася на караблі? Пасляпалётны аналіз паказаў, што, відавочна, з-за кароткага замыкання ў адным з двух кіслародных бачкоў рухальнага адсека ўзнік пажар. Полымя дасягнула той часткі бачка, дзе ў яго ўваходзіць жгут правадоў, і прапаліла дзірку. Ціск кіслароду ў бачку з-за пажару рэзка падняўся, што прывяло да разбурэння другога кіслароднага бачка, а таксама быў выбіты кавалак сценкі корпуса. Вынік вядомы: падача электраэнергіі і кіслароду ў адсек экіпажа спынілася. Рухальны адсек практычна выйшаў са строю і стаў баластам, але яго не скідвалі да збліжэння з Зямлёй, каб не ўскладняць стабілізацыю карабля. Газ, што выходзіў з бачкоў, якія ўзарваліся, выклікаў бязладнае вярчэнне карабля, што не дазволіла падтрымліваць пастаянную арыентацыю востранакіраванай антэны на Зямлю, з-за чаго ўскладнялася сувязь з караблём. Сігнал перадатчыкаў карабля быў вельмі слабы. НАСА папрасіла аўстралійскі ўрад выкарыстаць для сувязі з караблём велізарны радыётэлескоп у Парксе (дыяметр антэны 64 м), паколькі станцыя сачэння ў Аўстраліі (дыяметр антэны 26 м), якая належала НАСА, сігналы з борта «Апалона-13» не прымала.

Прыкладна праз суткі пасля аварыі, калі карабель, абагнуўшы Месяц на адлегласці 250 км, ужо ляцеў да Зямлі, пачала павышацца колькасць вуглекіслага газу месячнай кабіны, якая выкарыстоўвала два патроны з гідравокісам літыя, разлічанага толькі на 48 гадзін, прычым толькі для двух касманаўтаў.

Выхад са становішча заключаўся ў тым, каб прымусіць працаваць паглынальнікі вуглекіслага газу, якія былі ў адсеку экіпажа, не растрачваючы ў той жа час рэсурсаў электраэнергіі. Методыку распрацавалі на Зямлі ў імітатары карабля. Ад вентылятара ў месячнай кабіне быў працягнуты шланг (яго аддзялілі ад аднаго са скафандраў) да ўваходу паглынальніка ў адсеку экіпажа. Шланг ад другога скафандра працягнулі ад выхаду да паглынальніка назад у месячную кабіну. Такім чынам, вентылятар месячнай кабіны гнаў па гэтых шлангах паветра, якое, праходзячы праз паглынальнік, ачышчалася. Усё пайшло ў ход для мацавання шлангаў: пластмасавы мяшочак, кардон ад вокладкі борт-журнала, ізаляцыйная стужка...

Ледзь касманаўты вырашылі праблему з вуглекіслым газам, як узнікла новая. Гелій у бачку на пасадачнай ступені месячнай кабіны перагрэўся, ціск яго павысіўся, ён выштурхнуў ахоўны клапан і пачаў выцякаць у космас. Карабель зноў пачало закручваць, але гэта было не самае небяспечнае: трэба было правесці яшчэ адну карэкцыю з дапамогай рухавіка пасадачнай ступені, а гелій служыць для падачы кампанентаў паліва ў камеру згарання гэтага рухавіка. На шчасце, карэкцыю паспелі правесці да таго, як выцек увесь гелій.

Дарэчы, перагрэў гелія ў гэтым бачку быў выяўлены яшчэ ў час перадстартавай падрыхтоўкі, але тады ад замены бачка адмовіліся, таму што гэта магло сарваць намечаную дату старту, і вырашылі, што ўсё будзе ў парадку. Яшчэ раз пацвердзілася, што неахайна ставіцца да тэхнікі нельга.

Па сваім характары аварыя «Апалона-13» была зусім нечаканая. Таму меры па выратаванні касманаўтаў у падобнай сітуацыі раней не адпрацоўваліся. Распрацоўка і праверка рэкамендуемых аперацый праводзілася на Зямлі з выкарыстаннем мадэліруючых прыстасаванняў і ЭВМ найбольш вопытнымі касманаўтамі ЗША. Мадэліруючыя прыстасаванні і вылічальныя машыны выкарыстоўваліся таксама пры выбары аптымальных рэжымаў эканоміі электраэнергіі, вады, кіслароду. Для агульнага кіраўніцтва палётам і прыняцця самых адказных рашэнняў была арганізавана спецыяльная група, у якую ўваходзілі касманаўт Борман (ён незадоўга да палёту карабля «Апалон-13» пакінуў НАСА і перайшоў у прыватную фірму), былы кіраўнік праграмы «Апалон» Філіпс (ён пайшоў з НАСА пасля палёту карабля «Апалон-11»), намеснік дырэктара НАСА Майерс, прадстаўнікі раду прамысловых фірм і інш.

Адной з важных праблем было забеспячэнне сувязі з караблём на апошнім участку палёту, яго пошукі і выратаванне, асабліва ў выпадку прываднення далёка ад раёна, дзе яго чакалі сродкі пошукава-выратавальнай службы ЗША. У гэтай вельмі напружанай сітуацыі Савецкі Саюз і некаторыя іншыя краіны выказалі гатоўнасць аказаць дапамогу. Старшыня Савета Міністраў СССР А. М. Касыгін накіраваў прэзідэнту Р. Ніксану тэлеграму, у якой выказвалася трывога за жыццё касманаўтаў і гатоўнасць аказаць садзеянне ў іх выратаванні. Па распараджэнні Савецкага ўрада ў магчымы раён прываднення былі накіраваны чатыры судны. У адказ на просьбу ўрада ЗША ўрады Савецкага Саюза і некаторых іншых краін далі ўказанне адпаведным службам спыніць радыёвыпраменьванні ў эфір у дыяпазоне частот, якія выкарыстоўваў «Апалон-13», на ўвесь перыяд набліжэння яго да Зямлі і прываднення. Тэлеграму з пажаданнем шчаслівага вяртання тром амерыканскім касманаўтам ад імя савецкіх касманаўтаў накіраваў В. Шаталаў. Гэтыя захады былі ацэнены ва ўсім свеце як прыклад міжнароднага супрацоўніцтва і практычнага ажыццяўлення пагаднення аб выратаванні касманаўтаў, якое ўступіла ў сілу ў 1968 г.

Адказныя аперацыі па аддзяленні рухальнага адсека і месячнай кабіны ад адсека экіпажа перад уваходам яго ў атмасферу былі праведзены паспяхова. Касманаўты агледзелі рухальны адсек, які аддзяліўся: яго пашкоджанні былі вельмі значныя — часткова разбурана сапло маршавага рухавіка, па ўсёй даўжыні корпуса вырваны вялікі кавалак сценкі. «Суцэльны хаос», — канстатавалі касманаўты. «Бывай, «Акварыус»! Дзякуй табе», — сказалі яны ў момант аддзялення месячнай кабіны («Акварыус» — пазыўны месячнай кабіны). Перад аддзяленнем месячнай кабіны ўсе тры касманаўты перайшлі ў адсек экіпажа і задраілі люкі тунэля-лазу.

Палёт паспяхова завяршыўся, калі адсек экіпажа 17 красавіка прыводніўся ў Ціхім акіяне. Касманаўты былі дастаўлены верталётам на карабель, адтуль праз астравы Самоа на Гаваі, дзе яны на працягу некалькіх сутак знаходзіліся на адпачынку.

У сувязі з няўдалым палётам карабля «Апалон-13» мімволі напрошваецца думка аб тым, што над праграмай «Апалон» да гэтага часу вісіць адчуванне паспешлівасці, якую цяжка апраўдаць. Скажам, чаму нельга было адкласці на месяц палёт карабля, як аб гэтым прасіў Ловел? Няўжо лепш рызыкнуць 375 млн. долараў, чым затраціць дадаткова 800 тысяч? Прыклад з геліевым бачком, які не пажадалі замяніць, таксама ўказвае на паспешлівасць і паслабленне пачуцця адказнасці кіраўнікоў палёту. Відаць, кіраваліся нейкімі іншымі думкамі, прадыктаванымі не клопатамі аб бяспецы касманаўтаў і не імкненнем забяспечыць найлепшыя ўмовы для выканання пастаўленай задачы. Паводле слоў былога касманаўта — вучонага Брайана О'Ліры, праграма «Апалон» носіць хутчэй прэстыжны, чым сапраўды навуковы характар. «Дзейнасць НАСА, — заявіў О'Ліры, — вывучаецца зараз кангрэсам і грамадскасцю, а высадкам на Месяц не хапае ні бляску, ні навуковых вынікаў, каб апраўдаць як выдаткі, так і звязаную з імі рызыку».

Павелічэнне выдаткаў ЗША на вайну ў В'етнаме прымусіла прэзідэнта Ніксана значна скараціць бюджэт НАСА. Ідуць звальненні. Тыя, хто рыхтуе караблі «Апалон» да палётаў, не ўпэўнены ў тым, што заўтра яны не акажуцца за варотамі касмадрома.

Цэлая плеяда відных вучоных адмовілася ад удзелу ў работах па праграме «Апалон» з-за нязгоды з палітыкай кіраўніцтва НАСА, якое аддае прыярытэт тэхніцы ў шкоду рашэння важных навуковых праблем. Сярод іх галоўны навуковы кіраўнік гэтай праграмы, дырэктар лабараторыі па вывучэнні месячных узораў, галоўны спецыяліст па геалогіі месячнай паверхні ў праграме «Апалон», адказны за ўзоры месячных парод і іншыя вучоныя. Кіраўнікі НАСА ўсяляк стараюцца даказаць, што скарачэнне бюджэту, звальненні спецыялістаў ніяк не адбіліся на стараннасці падрыхтоўкі караблёў «Апалон» і на забеспячэнні мер бяспекі для касманаўтаў. Паверыць у гэта цяжка.

У чэрвені 1970 г. спецыяльная камісія, створаная для расследавання прычын аварыі карабля «Апалон-13», прадставіла свой даклад кіраўніцтву НАСА. На думку камісіі, пажар быў выкліканы кароткім замыканнем у бачку з кіслародам. Чаму ж гэта стала магчымым? Камісія выявіла «незвычайнае спалучэнне памылак». Газета «Нью-Йорк таймс» была менш дыпламатычнай і пісала аб «неверагоднай неахайнасці».

Яшчэ ў 1965 г. пры змене характарыстык награвальніка ў кіслародных бачках «забылі» адпаведна змяніць характарыстыкі засцерагальнага прыстасавання награвальніка, каб яно магло вытрымліваць больш высокае напружанне. У 1967 г. у адсеку экіпажа і ў месячнай кабіне на караблях «Апалон» былі заменены ўсе матэрыялы, здольныя гарэць у кіслароднай атмасферы. Аднак у рухальным адсеку, у прыватнасці ў кіслародных бачках, гэтага не зрабілі. Нарэшце, за два тыдні да старту «Апалона-13» аператары, якіх «забылі» папярэдзіць, падвялі да засцерагальнага прыстасавання награвальніка вельмі высокае напружанне. У выніку гэтага, як цяпер мяркуюць, прыстасаванне адмовіла, награвальнік у час не выключыўся, тэмпература ў бачку паднялася прыкладна да 500°С, ад правадоў у бачку адслаілася ізаляцыя і стварыліся ўмовы для кароткага замыкання. Калі замыканне адбылося, загарэліся незамененыя гаручыя матэрыялы ў бачку.

Што ж далей? Кіраўнікі НАСА абяцаюць, што новы палёт будзе дазволены толькі пасля таго, як выключаць усялякую магчымасць пажару ў кіслароднай атмасферы.

Арыенціровачна палёт чарговай месячнай экспедыцыі на караблі «Апалон-14» прызначаны на 3 снежня 1970 г. Аднак большасць зарубежных аглядальнікаў лічыць гэту дату нерэальнай, паколькі спатрэбіцца глыбокая і стараннная праверка ўсяго карабля і, відаць, яго мадыфікацыя, каб сапраўды забяспечыць бяспеку касманаўтаў.

А. В. КІРСАНАЎ.

(Часопіс «ЗША — эканоміка, палітыка, ідэалогія», 1970 г. № 7).

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**




Усё пачалося з малога. Прачыталі мы аднойчы з таварышамі фельетон у мясцовай газеце, а пад ім зварот да чытачоў аб тым, што рэдакцыя аб'яўляе конкурс на лепшы твор сатыры і гумару аб перажытках мінулага. Пераможцам устанаўліваліся спакуслівыя прэміі.

— А што, брат, узяў бы ды і ты сачыніў якую штукенцыю на гэты конкурс. На язык ты востры, чым чорт не жартуе, глядзіш — і прэмію адхопіш.

— Гэта мне проста, — не доўга думаючы, сказаў я. — Вось вазьму і распішу сваю цешчу, каб ёй пуста было. Няхай ведаюць, якая ў мяне шкодная старая!

Сказаў — і на другі дзень за справу ўзяўся. А, вядома, гумарыстычнае апавяданне напісаць, ды яшчэ на конкурс — гэта не блін спячы! Увесь вольны час у мяне гэта пісаніна забірала. Ні табе ў карты перакінуцца, ні казла забіць...

Аднойчы цешча нейкім чынам даведалася пра маю задуму (відаць, жонка перадала) і паспешліва пачала ад сваіх мяшчанскіх перажыткаў і прывычак вызваляцца. Бывала, прыйду дамоў пасля работы, яна проста з парога галосіць:

— Зноў, як свіння, набраўся... Ногі выцірай!

— Не пырскай на сцены ў ванне!..

— Задушыш усіх сваім курывам!..

А цяпер, як даведалася, што я апавяданне смешнае на конкурс пра яе пішу, глядзець на мяне па-іншаму пачала. Раніцой устанеш—кава на стале, свежыя піражкі ноздры казычуць... З работы прыйдзеш — зноў жа ўсё на стале гатова. І ніякай сваркі і буркатні табе. Адным словам, не жыццё, а маліна для мяне дома стала. Аднак свой твор на конкурс я пісаць не кінуў. Цяпер ужо больш для выгляду, чым для конкурсу. Бо даведаецца цешча праўду — канец майму спакойнаму жыццю, зноў пойдуць канфлікты ды сваркі. Вось я і прыстасаваўся — уначы перапішу што-небудзь з газеты, а раніцай у яе на вачах парву і выкіну.

Цяпер мне ўжо не было калі гуляць ні ў даміно, ні ўпрэферанс, ні з сябрукамі ў піўную зайсці. Павячэраю і з заклапочаным выглядам саджуся за сваю пісаніну. Так прайшоў амаль месяц.

А ў мінулую пятніцу прыйшоў я з работы раней, як звычайна, дома — нікога. Жонка ў магазін пайшла, а цешча з дачушкай на двары гуляе. Памыўся я, пераапрануўся, прысеў да стала газету пачытаць. Гляджу, а на стале ліст паперы з цешчынымі каракулямі. Цікаўнасць мяне ўзяла, не ўцярпеў я і пачаў чытаць.

«Дарагія таварышы з рэдакцыі, — піша старая, — ваш конкурс на лепшае гумарыстычнае апавяданне вельмі дапамог майму зяцю. Цяпер яго не пазнаць: дамоў з работы прыходзіць у час і цвярозы, замест піва каву п'е, не лаецца, прэферанс і даміно закінуў, з жонкай у кіно і тэатр ходзіць, а па начах усё нешта піша. Відаць, споведзь сваю рыхтуе і хоча вам паслаць. Але вы, калі пісаніну яго атрымаеце, майце на ўвазе — цяпер мой зяць зусім другі чалавек, як быццам зноў на свет нарадзіўся. З павагай — Матрона Заварухіна».

Андрэй КОРДЗІКАЎ

## АДГАВАРЫЎСЯ

Жыў у вёсцы Іван Лежабок. Прыйшоў да яго аднойчы брыгадзір і кажа:

— Памог бы ты, Іван, сена касіць.

А Лежабок адказвае:

— Не магу, браток. Нешта жывот баліць.

У другі раз прыходзіць брыгадзір:

— Запарка, Іван, жыта асыпаецца, падышоў бы, пасабіў.

— Выбачай, браце, але ж не выпадае. Штаны ўчора парваў, дык жонка латае.

І трэці раз зазірнуў да Лежабока брыгадзір:

— Пайшоў бы ты, Іван, сілас вазіць.

А Лежабок і дагаварыць не даў:

— Рады памагчы, але ж... У раён еду, вязу дакументы. Пара пенсію афармляць.

В. РАБКОЎ

## ХАРАКТАРЫ

⊙ *Каб зрабіць сваё жыццё казачным, ён толькі і рабіў, што чытаў казкі.*

⊙ *«Я не ведаю, што такое сумленне, бо ў мяне няма тлумачальнага слоўніка. Падкажыце, калі ласка, дзе яго набыць».*

⊙ *І ў мароз ён не пашкадуе вам цёплых слоў — замест таго, каб даць кажуха пагрэцца.*




— КОРЖЫКАЎ! — шэф глядзеў на мяне расчулена і ад гэтага мне ўпершыню стала цёпла на душы. «Нарэшце, — падумаў я, — і мяне заўважылі. Зараз дадуць заданне, і пойдзе былы студэнт Міхась Коржыкаў канструяваць і вынаходнічаць».

— Сядай, Коржыкаў. Ты, значыць, адзіны малады спецыяліст у нашым аддзеле? — пачаў шэф здалёк. — Так, так, так. У курс справы яшчэ не ўвайшоў? Больш глядзіш, як іншыя працуюць?

— Уваходжу пакрысе, — пагадзіўся я.

— Так, так, так, — шэф пабарабаніў пальцамі па стале. — Вось у чым справа, Коржыкаў. Мне тут званілі, што заўтра нашы кветкаводы нейкі юбілей адзначаюць. Трэба, каб там быў чалавек ад аддзела. Я і падумаў, што найбольш падыходзіць табе туды пайсці. Не адрываць жа ад справы людзей! Дык ты, браток, заўтра адразу туды і тэпай! Вось па гэтым адрасе — вазьмі, каб не забыўся. Пасядзіш там, у далоні папляскаеш, букет гэтых самых нар...

— Нарцысаў? — выказаў я здагадку.

— Ага, нарцысаў! Адразу відно, што чалавек ты адукаваны, — шэф згодна кіўнуў галавой, а потым падміргнуў: — Ды не сумуй, браток: там адна моладзь будзе!

— Павел Міронавіч, — раптам зайшоў у пакой старшы інжынер Мяцёлкін, — паслязаўтра ад аддзела патрэбен чалавек капаць катлаван. Дык папярэдзьце, каб хлопец не надумаўся пайсці ў касцюме пры бабачцы.

— А я ледзь не забыўся, — усклікнуў шэф. — Тут на Садовай добрую спяцоўку можна танна купіць. Бяры, Коржыкаў, цёмную. Менш пэцкацца будзе. Ды ты не хвалюйся. У сераду адпачнеш, а ў чацвер таварыства сяброў жывёлы праводзіць сваё пасяджэнне. У пятніцу знамянальная дата ў жыцці нашай бібліятэкі — мільённага чытача сустракаць будзе. Дык ты, браток, і там пабудзеш, і там. Не журыся, хлопец! Хіба гэта часта бывае — мільённы чытач? А ты —побач, на адной фатаграфіі з ім! У мясцовай газеце апублікуюць...

І закруцілася катрынка. Сёння — сюды, заўтра — туды. З памяццю нешта незразумелае пачало рабіцца: забыўся, якога колеру ватман і з якога боку да цыркуля падысці. А сёння з шэфам сустрэўся —дык ледзь пазнаў. Ды ён сам спыніў мяне:

— Прывітанне, Коржыкаў! Хопіць бегаць! Выпісвайце кульман, гатавальню — працаваць трэба!

— А сустрэча грыбнікоў-аматараў? — запытаў я.

— Ха, адразу відно, што даўно ў аддзеле не быў! — зарагатаў шэф. — Папаўненне прыслалі, Коржыкаў. Ужо дзень, як сядзіць новы малады спецыяліст. А цяпер хай уваходзіць у кола спраў, прывыкае. Петрыш?

Уладзімір ОТЧЫК

## АХВЯРА МОДЫ

Даўно хацелася лісе паласавацца вожыкавым мясам, ды ўсё ніяк не ўдавалася: калоліся вожыкі.

Даведалася аднойчы рыжая, што ў лесе пасялілася вожычыха-модніца, і рашыла пайсці на хітрасць. Пусціла ліса чутку, што нібыта пад Парыжам вожыкі пачалі фарбаваць свае іголкі ў белы колер. Праз тыдзень які ўвесь лес убачыў, як са сваёй норкі выкацілася белая, нібы камячок снегу, вожычыха-модніца. На ўсе заўвагі яна толькі чмыхала: «А ведаеце, пад Парыжам...»

Мінуў час, і ліса пусціла новую чутку: нібыта парыжскія вожыкі пачалі галіцца. І ў разліках не памылілася: вожычыха-модніца абрэзала ўсе свае іголкі...

Больш вожычыхі ў лесе не бачылі.

Міхась РУДКОЎСКІ

## ЗА НАРАДЖЭННЕ ГЕНІЯ

— Ура Шэкспіру!..
З рання да змяркання
Шампанскае ліецца—не кефір!

Балююць драматургі ў рэстаране
Учора іх касірка цётка Маня
Свайго нашчадка наракла: Шэкспір,



— На якое ліха я пацёгся з дому! У лес забрыў! Каравул! Гэ-э-й!



Парасон пісьменніка.

Малюнкі А. ЗАЎЯЛАВА.

Павел ШЫБУТ

## ШРАЦІНКІ

□ *Келіх ганарыўся, што яго ўзнімаюць.*

□ *Горла і ногі маюць цесную сувязь: ногі замочыш — горла баліць, горла замочыш — ногі не ідуць.*

□ *Каб яго заўважылі, ён выйшаў на плошчу.*

□ *Браў хабар зблізку, а трапіў далёка.*

□ *Змяю не прымусіш стаць на калені.*

□ *Певень быў курам на смех.*

□ *У казла з бараном былі агульныя погляды на капусту.*

□ *Шафёр заправіўся ў чайной.*

□ *У літаратуры няма чорнарабочых: усе майстры.*

□ *Калі аўтара не зразумелі сучаснікі, ён пачаў пісаць для нашчадкаў.*

□ *Ён ніколі не спрачаўся: баяўся сустрэчы з ісцінай.*

□ *І труцень можа выступіць ад імя пчол.*

Лешак БЯРНАЦКІ

## МІЖ ІНШЫМ

● **Фартуна ўсміхаецца кожнаму. У большасці выпадкаў—са спачуваннем.**

● **Што зрабіць, каб воўк быў сыты і авечка цэлая! Найлепей—прывесці дзве авечкі.**

● **Колькі рэчаў заклікана да жыцця—для забіцця часу.**

● **Быць нулём! Нічога страшнага, абы толькі дастаткова вялікім.**

Пераклаў з польскай А. МАЖЭЙКА.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.
Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва—32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Л. Я. ПРОКША.
Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, В. М. АЛАДАЎ, А. Ц. БАЖКО (намеснік галоўнага рэдактара), Б. І. БУР'ЯН, А. І. БУТАКОЎ, А. С. ГРАЧАНІКАЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, І. М. ДАБРАЛЮБАЎ, В. У. ІВАШЫН, А. С. КАЗЛОЎСКІ, П. М. МАКАЛЬ, У. Л. МЕХАЎ (адказны сакратар), Р. К. САБАЛЕНКА, І. А. САНКОВА, М. Г. ТКАЧОЎ, Ю. М. ЧУРКО, Р. Р. ШЫРМА.





АТ 23890